**Uniwersytet Warszawski**
Варшаўскі Універсітэт

**Studium Europy Wschodniej**
Студыюм Усходняй Еўропы

**Centrum Studiów Białoruskich**
Цэнтр Беларускіх Студыяў

# Rocznik Centrum Studiów Białoruskich

# Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў

**Nr 6 / № 6**

*Poświęca się 140-leciu urodzin jednego z twórców białoruskiej idei narodowej prof. Wacława Iwanowskiego*

*Прысвячаецца 140-годдзю з дня нараджэння аднаго са стваральнікаў беларускай нацыянальнай ідэі праф. Вацлава Іваноўскага*

**Warszawa / Варшава 2020**

**Recenzenci / Рэцэнзенты:**
Prof. dr hab. Eugieniusz Mironowicz, prof. dr hab. Siargiej Kowalew, dr hab. Oleg Łatyszonek prof. UwB, dr. hab. Jerzy Grzybouski prof. UW, dr hab. Aliaksandr Smalianchuk, dr hab. Siarhej Tokć, doc dr. Albina Semianchuk / праф. др. габ. Яўген Міpановіч, праф. др. габ. Сяргей Кавалёў, др. габ. Алег Латышонак праф. Універсітэта ў Беластоку, др. габ. Юры Грыбоўскі праф. Варшаўскага ўніверсітэта, д.г.н. Аляксандр Смалянчук, д.г.н. Сяргей Токць, дац. к.г.н. Альбіна Семянчук

**Над нумарам працавалі:**

(redaktor / рэдактар)
**Henadź Semianchuk / Генадзь Семянчук**

(sekretarz redakcji / сакратар рэдакцыі)
**Tatsiana Kasataya / Таццяна Касатая**

(sekretarz techniczny / тэхнічны сакратар; tłumaczenia białorusko-polskie / пераклады беларуска-польскія; korekta tekstów w j. polskim / карэктура тэкстаў на польскай мове)
**Filip Urbański / Філіп Урбаньскі**

(projekt okadki / праект вокладкі)
**Aliaksandr Perahudau / Аляксандр Перагудаў**

(korekta tekstów w j. białoruskim / карэктура тэкстаў на беларускай мове)
**Katsiaryna Krot / Кацярына Крот**

(tłumaczenia białorusko-angielskie i polsko-angielskie / пераклады беларуска-англійскія і польска-англійскія)
**Paulina Semianchuk / Паўліна Семянчук**

(skład i łamanie / камп'ютарная вёрстка)
**Zmicer Hupianiec / Зміцер Гупянец**

Druk i oprawa
Duo Studio

Kolportaż:
tel. +48 22 55 27 990
e-mail: wydawnictwa.studium@uw.edu.pl



First edition

ISSN 2450-8144

W serii „30 tomów na 30-lecie Studium" – tom No 26/30

STUDIUM EUROPY WSCHODNIEJ UNIWERSYTET WARSZAWSKI
Pałac Potockich, Krakowskie Przedmieście 26/28, 00-927 Warszawa
Tel. 22 55 22 555, fax 22 55 22 222, e-mail: studium@uw.edu.pl; www.studium.uw.edu.pl

## Jubileusz. Studium Europy Wschodniej. 1990-2020 „30 tomów na 30-lecie”



CZAS BIEGNIE niezwykle szybko. Tym na pozór banalnym stwierdzeniem chciałbym opisać odczucia moje własne, jako osoby od lat kierującej Studium Europy Wschodniej, a także i moich kolegów, którzy stwierdziwszy fakt zbliżającego się Jubileuszu 30-lecia, przyjęli to z ogromnym zaskoczeniem. To prawda, można się zastanawiać, jak to się stało, że 30 lat przebiegło tak szybko, ale ogromnie uspokaja nadzieja, wręcz przekonanie, że tego czasu nie zmarnowaliśmy.

Nasze 30-lecie to bowiem setki konferencji, to setki wydawnictw, to już tysiące absolwentów szkół i programów stypendialnych, to także rozległa współpraca międzynarodowa, która zaowocowała wręcz założeniem kilku Stacji SEW poza granicami. A wreszcie to przywrócenie, w 1998 r., po ponad półwieczu nieistnienia regularnych studiów wschodnich w Polsce (ostatni nabór studentów, w Wilnie i Warszawie, przeprowadzono latem 1939 r.). A dziś, w dniu Jubileuszu 30-lecia, Studium może się chlubić grupą już kilkuset absolwentów – młodych dobrze wykształconych specjalistów „od spraw wschodnich”, osiągających niekiedy już poważne kariery, pochodzących przy tym zarówno z Polski, jak i dzięki stypendiom rządowym, z całego regionu. Tu mogę jedynie potwierdzić – „kadry są najważniejsze”…

Zacząłem się zastanawiać, jak można i jak należy ten Jubileusz uczcić. Zbiegło się to z faktem, że rok 2020 jest naprawdę rokiem nadzwyczajnym. Rozwój epidemii koronawirusa przyniósł decyzję zamknięcia najpierw zajęć akademickich i przeniesienia ich do systemu on line, a następnie przejście całego Zespołu Studium na wiele tygodni do pracy zdalnej. To, wbrew pozorom, pomogło w decyzji o sposobach uczczenia Jubileuszu, albowiem pozwoliło zmienić

bieżące obowiązki administracyjne na spisywanie, opracowywanie i korekty tekstów.

Postanowiliśmy bowiem uczcić Jubileusz jednostki dydaktyczno-naukowej w sposób wzorcowo naukowy – przez wydanie serii książek. Początkowy plan obejmował jedynie edycję kilku podręczników profesorów wizytujących, którzy wykładali dla studentów Studiów Wschodnich w ciągu ostatniego 10-lecia. Ale następnie plany i ambicje stawały się coraz większe i rozległe. W ich wyniku seria podręczników profesorów wizytujących zajmie jedynie pierwsze 10 pozycji. Jest to seria bardzo ważna, bardzo znacząca, a książki te latami będą służyć studentom Studiów Wschodnich i zapewne nie tylko. Ale ta sytuacja wirusowa oraz kierująca niżej podpisanym ambicja nadzwyczajnego uczczenia Jubileuszu doprowadziły do rezultatu, jestem przekonany, również nadzwyczajnego. Oto w roku, w którym wirus zablokował lub uniemożliwił większość prac na uczelniach, nam udało się przygotować 30 tomów w ogromnej większości całkowicie oryginalnych, bądź na nowo opracowanych. Tak właśnie zespół Studium Europy Wschodniej przygotował i uczcił Jubileusz swego 30-lecia – „30 tomów na 30-lecie Studium".

Dziękuję Redaktorowi niniejszego Tomu, dziękuję Autorom artykułów, dziękuję wszystkim Autorom całej serii, dziękuję wszystkim osobom, dzięki którym ten wspaniały plan udało się w tak trudnym czasie zrealizować. Składam gratulacje obecnym i dawnym Wykładowcom, Pracownikom i Współpracownikom Studium, którzy mają prawo do słusznej dumy z Jubileuszu.

JAN MALICKI
Studium Europy Wschodniej
Uniwersytet Warszawski




**Tom niniejszy nosi numer 26.**



## 30-годдзе Студыюм Усходнееўрапейскіх Даследаванняў (1990–2020) „30 тамоў да 30-годдзя”



ас ляціць няўмольна. Гэтым, здавалася б, трывіяльным выразам я жадаў бы апісаць уласныя эмоцыі – эмоцыі чалавека, які шмат гадоў кіруе Студыюм Усходнееўрапейскіх Даследаванняў (Studium Europy Wschodniej UW), а таксама пачуцці сваіх калег, у якіх усведамленне надыходзячага юбілею выклікала здзіўленне. Сапраўды, факт, што 30 год праляцелі як адно імгненне, дзівіць, але вера ў тое, што мы не дарэмна выкарысталі гэты час, абнадзейвае. Наша 30-годдзе складаецца са шматлікіх канферэнцый, сотняў выдадзеных кніг і ўжо тысячаў выпускнікоў адукацыйных і стыпендыяльных праграм. Міжнароднае супрацоўніцтва і, як вынік, стварэнне некалькіх арганізацыйных пунктаў за мяжой, сталі візітнай карткай Студыюм. Адным з галоўных нашых дасягненняў стала аднаўленне ў 1998 годзе, пасля амаль паўвекавай адсутнасці, рэгулярнага набору студэнтаў на спецыяльнасць, прысвечаную праблемам Усходняй Еўропы (апошні набор студэнтаў па гэтай спецыяльнасці ў Вільні і Варшаве праводзіўся летам 1939 года). У год свайго 30-годдзя Студыюм можа ганарыцца групай з некалькіх сотняў выпускнікоў – маладых, добра адукаваных спецыялістаў, якія зрабілі сваю кар’еру як у Польшчы, так і, дзякуючы ўрадавым стыпендыям, ва Усходнееўрапейскім рэгіёне. У гэтым выпадку я магу толькі падкрэсліць, што „кадры вырашаюць усё”…

Адкінуўшы эмоцыі, я пачаў задавацца пытаннем, якім чынам варта адзначыць наш юбілей. 30-годдзе Студыюм прыпадае на 2020 год, які сапраўды стаў незвычайным і шмат у чым вызначальным. Эпідэмія каранавіруса спрычынілася да таго, што спачатку было прынята рашэнне перанесці стацыянарнае навучанне на абшары Інтэрнэту, а потым – на доўгі час перавесці калектыў Студыюм на аддаленую працу. Гэта, насуперак усяму, дапамагло ў прыняцці рашэння пра фармат святкавання юбілею і дазволіла

накіраваць нашы адміністрацыйныя і арганізацыйныя намаганні на падрыхтоўку тэкстаў і кніг.

Такім чынам, прынята рашэнне адсвяткаваць юбілей навуковадыдактычнай установы найбольш навуковым чынам – выдаць серыю кніг. Першапачаткова планавалася надрукаваць некалькі падручнікаў запрошаных прафесараў, якія выкладалі для студэнтаў Студыюм на працягу апошніх дзесяці гадоў. Але з часам раслі амбіцыі, а за імі пашыраліся і планы, якія рабіліся ўсё больш грандыёзнымі. У выніку серыя падручнікаў аўтарства запрошаных прафесараў зойме толькі першыя дзесяць пазіцый у спісе з трыццаці запланаваных да публікацыі выданняў. Вартасць дадзенай серыі кніг бачыцца ў тым, што яны будуць служыць і дапамагаць у атрыманні адукацыі студэнтам, якія спецыялізуюцца на праблемах Усходняй Еўропы, яшчэ доўгія гады і, магчыма, не толькі ім. Сітуацыя, якая ўзнікла ў сувязі з эпідэміяй, і нашае імкненне адсвяткаваць юбілей, як я перакананы, неверагодным чынам прынеслі незвычайныя вынікі. У год, калі вірус заблакаваў або зрабіў немагчымым правядзенне велізарнай колькасці запланаваных ва ўніверсітэтах мерапрыемстваў, мы здолелі падрыхтаваць 30 арыгінальных або перапрацаваных і дапоўненых выданняў. Менавіта такім чынам калектыў Студыюм Усходнееўрапейскіх Даследаванняў падрыхтаваў і адсвяткаваў уласнае 30-годдзе: „30 тамоў да 30-годдзя Студыюм".

Дзякуй рэдакцыі і аўтарам дадзенага тома № 6 „Гадавіка Цэнтра Беларускіх Студыяў", дзякуй усім аўтарам серыі, дзякуй усім людзям, якія ўвасобілі ў жыццё гэты выдатны план. Віншую цяперашніх і былых выкладчыкаў, супрацоўнікаў і калег Студыюм Усходнееўрапейскіх Дасле- даванняў, якія маюць поўнае права ганарыцца нашым юбілеем.

Ян Маліцкі,
*Дырэктар Студыюм Усходнееўрапейскіх Даследаванняў*
*Варшаўскі ўніверсітэт*




**Гэты том**
**мае нумар 26.**



# Spis treści / Змест

## Артыкулы

## Крыніцы:



## Рэцэнзіі:

**Віктар Якубаў**
**(Наваполацк)**

# Выбудова кліенцкай сеткі Льва Сапегі ў канцы XVI — пач. XVII ст[1].

Апошнім часам постаць Льва Іванавіча Сапегі (1557–1633) становіцца адной з найбольш запатрабаваных у беларускай палітыцы памяці. Спачатку дэмакратычныя няўрадавыя арганізацыі, а потым дзяржаўныя структуры пачалі разглядаць яго ў якасці стваральніка III Статута ВКЛ. У пастаўленых у Лепелі (2010) і Слоніме (2019) помніках яго фігура візуалізуецца ў выглядзе „мужа" са світкам (Статутам) і гетманскай булавой, што можна дэкадзіраваць як увасабленне ідэалагем „уставадаўцы", „справядлівага бацькі", „дасведчанага воіна" беларускай дзяржаўнасці.

Сапраўдны Леў Іванавіч паходзіў з чарэйскай галіны Сапегаў, прадстаўнікі якой некалькі пакаленняў не траплялі на сенатарскія пасады. Але Леў Сапега, які адвучыўся ў еўрапейскіх універсітэтах толькі два гады, здолеў завалодаць пасадай і ўтрымацца ў фаворы пры двары і Стэфана Баторыя, і Жыгімонта Вазы. Напрыканцы жыцця стаў пярэднім сенатарам ВКЛ (адначасова і віленскім ваяводам, і вялікім гетманам), а да таго ж зрабіўся, адной з найбольш уплывовых і заможных асоб усёй Рэчы Паспалітай. Нягледзячы на ўсю важнасць вывучэння гісторыі сацыяльных структур, якую можна раскрываць на падставе пісьмовай спадчыны кліенцкай сеткі феадальнага „дому"

[1] Tekst powstał jako praca końcowa w ramach Programu Stypendialnego Rządu RP im. Konstantego Kalinowskiego — Program II w roku akademickim 2018/2019. Opiekunem naukowym pracy był prof. dr hab. Leszek Zasztowt ze Studium Europy Wschodniej Uniwersytetu Warszawskiego.




**Помнік Льву Сапегу ў Лепелі**




**Помнік Льву Сапегу ў Слоніме**

Л. Сапегі, навуковая польская[2] і беларуская[3] гістарыяграфія тэмы вельмі сціплая.

Традыцыйна гісторыкі або вывучаюць палітычную біяграфію ў храналічнай паслядоўнасці, або трохі закранаюць пры разглядзе больш шырокія праблемы развіцця грамадства. У выніку на сённяшні дзень няма навуковых прац, якія б паспрабавалі аб’яднаць эканамічныя, сямейныя, палітычныя, рэлігійныя і культурныя інстытуцыянальныя

[2] S. Inglot, *Sprawy gospodarcze Lwa Sapiehy 1588–1607*, [w:] *Studia z historii społecznej i gospodarczej poświęcone prof. dr Fr. Bujakowi,* Lwów 1931, s. 165–225; A. Czwołek, *Piórem i buławą. Działalność polityczna Lwa Sapiehy, kanclerza litewskiego, wojewody wileńskiego,* Toruń 2012; A. Rachuba, *Obraz działalności publicznej nielubianego bohatera. Uwagi w związku z pracą Arkadiusza Czwołka o Lwie Sapiezie,* „Kwartalnik Historyczny”, 2015, № 2, s. 323–346; A. Rachuba, *Frakcja Lwa Sapiehy — zarys problematyki,* [w:] *Między Lwowem a Wrocławiem. Księga jubileuszowa profesora Krystyna Matwijowskiegó,* Toruń 2006, s. 503–511; U. Augustyniak, *„Stary sługa” jako przedmiot badań nad klientelizmem magnackim na Litwie w XVII wieku,* „Kwartalnik Historii Kultury Materialnej”, 2010 (R.58), № 1, s. 71–85; U. Augustyniak, *Specyfika patronatu magnackiego w Wielkim Księstwie Litewskim w XVII wieku. Problemy badawcze,* „Kwartalnik Historyczny”, 2002, № 1, s. 97–110; A. Zakrszewski, *III Statut Litewski a Lew Sapieha,* [w:] *Studia z dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego (XVI–XVIII wieku),* Warszawa 2014, s. 457–464.

[3] А. Скеп’ян, *Ураднікі і дваране Льва Сапегі ў 80-я гады XVI — пачатку XVII ст.*, [у:] *Сапегі: асобы, кар’еры, маёнткі,* Мінск 2018, с. 25–49; І. В. Саверчанка, *Канцлер Вялікага княства. Леў Сапега,* Мінск 1992; В. Чаропка, *Леў Сапега: Бацька айчыны,* [у:] *Уладары Вялікага Княства,* Мінск 2002, с. 327–408; *Леў Сапега (1557–1633 гг.) і яго час*, Гродна 2007; *Род Сапегаў*, „ARCHE-Пачатак”, 2016, № 3.

сувязі, што прывялі да станаўлення такога гістарычнага феномена, як кар’ера Льва Сапегі. Бо, нягледзячы на індывідуальныя таленты, у закрытай станавай сістэме, без шматфактарнага заплечча і падтрымкі такі моцны сацыяльны ўзлёт і замацаванне на вяршыні грамадства наўрадці былі б магчымыя.

Марксісцкая метадалогія, якая тлумачыла кар’еры ў грамадстве пераважна эканамічнымі дэтэрмінантамі, яўна саступае ва ўсеабдымнасці поглядам сацыёлагаў, якія, пачынаючы з П’ера Бурдз’ё, лічаць сацыяльным капіталам усе варыянты сувязяў у грамадстве, што ўзнікаюць на падмурку ўзаемнай камунікацыі, могуць быць рэсурсам для атрымання выгод[4]. Вылучаюць чатыры віды грамадскага капіталу: эканамічны, сацыяльны (сувязі, у т.л. палітычныя і сваяцкія), культурны (веданне кодаў культуры) і сімвалічны (прэстыж, гонар). Кожны сацыяльны капітал складаецца з даверу, нормаў і ўстойлівых адносін[5]. Прапорцыі валодання капіталамі вызначаюць месца — асноўны статус чалавека ці групы — у структуры грамадства. Хоць эканамічны капітал і з’яўляецца пропускам да шматлікіх статусаў і кантактаў, але ён усё адно залежыць ад ведання пра яго і прызнання з боку грамадства, таму функцыянуе як сівалічны капітал[6]. Механізм сацыяльнага капіталу выглядае наступным чынам: донар (патрон) дае рэцыпіенту (кліенту) нейкі карысны рэсурс, а той у адказ служыць. Служачы давярае патрону і структуры, у якую яго дапусцілі, а тыя, у сваю чаргу,— яму і карыстаюцца з плёну агульнай працы. Так выбудоўваюцца трывалыя сеткі адносін, якія і ствараюць грамадства[7].

У гістарычнай навуцы ступень даверу можна вызначаць па колькасных параметрах і тэрытарыяльным ахопе сеткі, доўгатрываласць жа сувязяў (адсутнасць цякучкі) і наяўнасць „патрэбных”/высокастатусных кліентаў будуць сведчыць аб яе якасных параметрах. Мы можам прасачыць зафіксаваныя дакументальна сувязі і нормы грамадства. Кожная гістарычная асоба заслугоўвала і фіксавала свае статусы ў сямейным, рэлігійным, эканамічным, палітычным і культурным інстытутах. Відавочна, самімі людзьмі і грамадскімі структурамі для прызнання і замацавання статусаў праводзіцца мэтанакіраванае стварэнне і карэкцыя

4 П. Н. Шихирев, *Природа социального капитала : социально-психологический подход,* „Общественные науки и современность”, 2003, № 2, с. 19.

5 П. Бурдье, *Формы капитала*, „Экономическая социология”, Москва 2005, № 3, с. 52, 101.

6 Тамсама, с. 67; Ф. Фукуяма, *Социальные добродетели и путь к процветанию,* Москва 2004, с. 114.

7 Р. Патнэм, *Чтобы демократия сработала. Гражданские традиции в современной Италии*, Москва 1996, с.175.

„ідэальнага” вобразу ў вачах грамадства сучаснікаў і нашчадкаў. Нават калі адбывалася фільтрацыя помнікаў пра нейкую асобу, па выніках яе дзейнасці мы можам бачыць мэты, метады і магчымасці выбудовы і павышэння асабістага статусу, або статусу ўсёй сацыяльнай сеткі на чале з патронам, у кожным з 5 сацыяльных інстытутаў. Задача дадзенай публікацыі — на падмурку раней цалкам не аналізаванага дакумента[8] раскрыць метады збору сацыяльнага капіталу пры выбудове кліенцкай сеткі „дому і двара” Льва Сапегі ў першыя два дзесяцігоддзі яго кар’еры.

Дакумент *Kwity Lwa Sapiehy,* пра які пойдзе гаворка, уяўляе сабой працоўны сшытак, што складаецца са 102 аркушаў (частка з іх не запоўнены). Датаваных запісаў з пазначэннем прозвішчаў за 1590—1596 гг. — 68, а за 1601 г. — 89. Трэба адзначыць, што ў дакуменце асабістыя імёны і пасады амаль не згадваюцца, як і не датуюцца табліцы са спісамі слуг, што стварае цяжкасці пры дакладнай ідэнтыфікацыі асоб і часу іх знаходжання ў залежнасці. Больш таго, „польскі” скарапіс аўтара робіць некаторыя прозвішчы нечытэльнымі. Але разам тым наяўная інфармацыя дазваляе прасочваць абрысы пэўнай сацыяльнай структуры.

Паводле „*Квітоў*”, у склад структуры дому і двара Л. Сапегі ўваходзіла некалькі катэгорый залежных і працуючых на патрона высакародных кліентаў і „*паспольства*”. Першымі ў спісе ідуць 44 „*служэбнікі*” з расшыфроўкай „*слугі*”. Другая па чарзе група — юргельднікі (13 чалавек) і трэцяя — „*урадныкі*” (15 асоб). Да чацвёртай катэгорыі „*каморнікі*” можна аднесці 80 прозвішчаў. Такім чынам структурна сацыяльную сетку складае 4 групы статусаў з замацаванымі ў назве асноўнымі характарыстыкамі залежнасці: слугі — даручэнцы, юргельднікі — утрыманцы, ураднікі — намеснікі і каморнікі — дробны адміністрацыйны персанал. Насуперак меркаванню Анастасіі Скеп’ян[9], да каморнікаў нельга адносіць выключна зборшчыкаў чыншаў па маёнтках, бо гэтым жа тэрмінам абазначаецца яшчэ шэраг іншых чыноўнікаў, уключна з мытнымі на каморах ВКЛ. Магчымасці прызначаць мытных ураднікаў, здаваць пасады ў арэнду, — важная крыніца прыбытку і ўлады, паколькі ў апошняе дзесяцігоддзе XVI ст. Леў Сапега шмат разоў становіцца арандатарам мытаў ВКЛ. Галоўны арандатар абяраў субарандатараў. Яго кантроль над персанальным складам мытных каморнікаў быў відавочным і негатыўна ацэньваўся сучаснікамі, аб чым сведчыць пагроза ад полацкай і віцебскай

[8] *Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka. Rankraščių sryrius* (далей — LMAVB RS), F.17–106, Kwity Lwa Sapiehy (далей: *Квіты Льва Сапегі*, або *Квіты*).

[9] Тамсама, с. 37.

шляхты выклікаць Льва Сапегу і Крыштафа Радзівіла „Перуна" позвамі на суд у 1599 г. за злоўжыванні іх слуг на мытнях[10].

Калі ў выпадку атрымання староства вызначальнымі былі воля манарха і наяўнасць вакансій, то ў набыцці маёнткаў для магната і да таго ж кіраўніка дзяржаўнага справодства ўсё ж пераважалі асабістая воля і бачанне перспектыў развіцця тэрытарыяльна-гаспадарчых комплексаў у адной мясцовацi — латыфундый. У „*Квітах Льва Сапегі*" запісы пачынаюцца з 1591 г., на той момант Л. Сапега ўжо 2 гады быў вялікім канцлерам ВКЛ, трымаў Маркаўскае і Магілёўскае староствы, валодаў маёнткамі каля Талочына, Коханава, Горак, Чарэі, Белай (Лепеля), Лемніцы, Маладзечна, Мядзеля, а таксама Мендзырэчча на Падляшшы.

Маёнткі на поўначы Беларусі, вакол месца яго нараджэння, матчыных Астроўны і Чарэі, для Л. Сапегі, напэўна, мелі вялікую асабістую вагу і разглядаліся сям'ёй як бацькаўшына. З гэтай нагоды ён будуе і аздабляе, нават падчас рокашу 1606–1608 гг., Траецкую царкву ў Чарэі. Відаць, нездарма абодва родныя браты вялікага канцлера ВКЛ зрабілі кар'еру на ўсходзе ВКЛ. Малодшы родны брат Льва Андрэй пры яго пратэкцыі з 1588 па 1611 г. з'яўляўся аршанскім старастам, з 1600 па 1605 г. быў кашталянам віцебскім, а потым да смерці ў 1611 г. заставаўся мсціслаўскім ваяводам. Наймалодшы брат Льва Рыгор Іванавіч застаўся аршанскім падкаморым, але яго сын Аляксандр–Дажбог пераняў аршанскае староства пасля смерці дзядзькі.

Выглядае мэтанакіраваным паслядоўнае набыццё вялікім канцлерам ВКЛ шэрагу ўладанняў у міжрэччы Дняпра і Дзвіны. Прычым гэтае бачанне размяшчэння інвестыцый падзялілі і працягнулі яго сыны. Вяршыняй стварэння магнацкай „дзяржавы" стала пераняцце пасля смерці Яна Караля Хадкевіча ў 1621–1625 гг. шэрагу яго маёнткаў, уключаючы дабудову замкаў у Старым Быхаве і Ляхавічах сынам Л. Сапегі Янам Станіславам і набыццё Бешанковічаў у 1630 г. яго другім сынам Казімірам Львом у дадатак да падруцкіх Рагачова, Талачына і Бялынічаў. Такім чынам у руках Сапегаў сканцэнтравалася значная колькасць маёмасці, ажно да атрыманага канцлерам магілёўскага староства. Вакол перанятай у кодэньскіх Сапегаў Іказні Л. Сапега пачаў фармаваць латыфундыю, якая расцягнулася пасам праз Друю і Росіцу (набытую ў Карценяў у 1602 г.) на Інфлянцкім памежжы ажно да Асвеі. У Інфлянтах

[10] *Scriptores Rerum Polonicarum,* t. VIII: *Archiwum domu Radziwiłłów. Listy ks. M. K. Radziwiłła, Jana Zamojskiego, Lwa Sapiehy*, Kraków 1885, s. 224; В. Якубаў, *Дзвінскі гандль і яго падаткаабкладанне ў пачатку XVII стагоддзя,* „Веснік Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта", 2016, № 9, с. 83.

з 1598 г. ён стаў старастам Парнаўскім і асабіста наведаў староства, а яго інтарэсы ў правінцыі прадстаўлялі Марцін Курч і Мацей Ленек, якія былі жанатыя з сёстрамі Л. Сапегі Тэадорай і Марыянай. Такім чынам стратэгічна Л. Сапега набываў маёнткі ў Падзвінні і Падняпроўі, фальварачная гаспадарка якіх арыентавалася на сплаў прадукцыі ў Рыгу.

Але гэта не вычэрпвала эканамічных амбіцый вялікага канцлера ВКЛ. Акрамя роднага Віцебскага і Полацкага ваяводстваў ён пачаў набываць уласнасць па ўсіх ваяводствах ВКЛ. Падвіленскія маёнткі мелі цэнтры ў Мядзелі, Маркаве і Маладзечне, але большае развіццё атрымалі панёманскія маёнткі і фальваркі, цэнтрам якіх стаў Слонімскі павет. У 1598 г. вялікі канцлер ВКЛ набыў там Ружану і Ласосна, а таксама Зэльву ў Ваўкавыскім павеце[11]. Зямельныя набыткі дадалі эканамічнай моцы палітычнай прысутнасці ў гэтых паветах, якая існавала з 1586 г. у выглядзе трымання Слонімскага судовага староства. Слонім, а пазней Ружана сталі адной з рэзідэнцый яго сям'і. Драбнейшыя маёнткі Л. Сапега прыкупіў у Менскім і Навагрудскім ваяводствах і на Жамойці. Набыццё ўласнасці ў розных рэгіёнах ВКЛ дыверсіфікавала крыніцы прыбытку, на выпадак вайны або неўраджаяў.

Пайменны пералік эканамічных кліентаў, прывязаных трыманнем і выкананнем наглядчых функцый да маёнткаў патрона, даюць *„Квіты”* называючы іх *„ураднікі”*: Божэмінскі (Мацей) — *„намеснік іказаньскай маетнасці”* ў 1592–1600 гг.,[12] субарандатар новападвышаных мыт ВКЛ; Пшэстаноўскі (Добрагост) — трымальнік староства Ясвоньскага ў 1595–1600 гг.,[13] а пазней загадчык Ковенскай мытні[14]; Водэрацкі (Мікалай) — трымальнік Рэтаўскага маёнтка ў 1596–1600 гг.[15]; Пашкоўскі (Ян) — *„намеснік”* Маркаўскага староства ў 1589–1594 гг.[16]; Галенскі (Ян) — *„намеснік”* у Блудзенскім старостве[17]; (Іржы?) Блінкструп — пыкаўскі ўраднік (?)1592–1594 гг.[18]; Рубец (Шымон) — арандатар Лемніцы ў 1598–1602 гг.,[19] Талочына — у 1604–1606 гг. і воласці Якаўлевіцкай і Басейскай *„за Дняпром лежачых”* — у 1604–1607 гг.[20]; Літэцкі (Ежы) —

11 А. Скеп'ян, *Ураднікі і дваране Льва Сапегі*, с. 29
12 S. Inglot, *Sprawy gospodarcze Lwa Sapiehy 1588–1607*, s. 170,182.
13 Ibidem.
14 Ibidem, s. 207.
15 Ibidem, s. 184.
16 Ibidem, s. 183.
17 Ibidem, s. 185
18 А. Скеп'ян, *Ураднікі і дваране Льва Сапегі ў 80-я гады XVI — пачатку XVII ст.*, с. 34.
19 S. Inglot, *Sprawy gospodarcze Lwa Sapiehy 1588–1607*, s.181.
20 Ibidem, s. 182.

трымальнік мястэчка Суша з усімі прыбыткамі і азёрамі і млыном у 1594–1597 гг.[21]; Печыньскі (Войцэх?) — трымальнік *„Ясенага і Странёцага з усім і баярамі і паданымі”*[22]; Грахоўскі (Ян) — трымальнік маёнтка Медзырэча і 2 фальваркаў (Воршэ і Бярозы)[23]; Енджэйскі (верагодна, Іван Енджэёўскі (Андрыеўскі) — уніяцкі біскуп Хелмскі і Бэлзскі ў 1604–1619 гг.); а таксама малавядомыя Косаўскі, Валенты, Залескі (нехта з Корсакаў-Залескіх ці ўласнік Залесся побач з Маркавам (?). Такім чынам, большасцьураднікаў вядомы з прац Стэфана Інглота і Анастасіі Скеп'ян, але не ўсе пералічаныя былі прывязаны да патрона эканамічна — намеснікамі ці арандатарамі.

Трыманне зямельнага надзелу было далёка не адзіным спосабам арганізацыі сацыяльных структур ВКЛ у эпоху Новага часу. У рэчаіснасці не прывязаная да васальнага надзелу шляхта сама выбірала, з кім і на якіх умовах заключаць пагадненні, да якога магнацкага дому „прыстаць” і калі ад яго „адстаць”. Сетка такіх шматаб'ектных міжродавых адносін і стварала структуру шляхецкага стану. Традыцыйнае грамадства — карпаратыўнае. Асобна вылучаная ў *„Квітах”* катэгорыя *„ўраднікаў”* — субарандатараў маёнткаў — была нешматлікай, менш там толькі *„юргельднікаў”*. Для двара Л. Сапегі асноўным эканамічным спосабам утрымання слуг была выдача ім грошай і тканіны, шмат хто з іх неўзабаве пасля гэтага рабіў кар'ерныя скачкі на сенатарскія пасады. Аднак далёка не ўсё вырашалі грошы.

Сацыяльны і палітычны капітал складалі асабістыя і сямейныя сувязі ў цэнтрах прыняцця рашэнняў, выкарыстанне службовага статусу і магчымасць размяркоўваць пасады ў цікавых для кліентаў структурах. Вялікі канцлер ВКЛ паводле сваіх функцый быў кіраўніком дзяржаўнага справаводства, каардынатарам знешнепалітычных місій і выведкі ВКЛ — адпаведна да яго сцякалася знешне- і ўнутрыпалітычная інфармацыя. А паколькі Л. Сапега быў у фаворы пры двары, умела падаваў Жыгімонту Вазе патрэбную інфармацыю, то ён здолеў пасьпяхова для сябе „дапамагаць” розным асобам, выбудоўваючы той ці іншай ступені жорсткасці прывязкі да сябе і свайго дому. Так, Ян Корсак Галубіцкі, Аляксандр Гасеўскі, Рыгор (Яраш) Тарлецкі былі ганцамі і пасламі да Масквы, „слугамі”, паводле *„Квітоў”*, абавязанымі сваёй кар'ерай патранату Л. Сапегі.

Калі разглядаць адміністрацыйны рэсурс, яго асноўным параметрам будуць пасады прадстаўнікоў роду. Сярод Сапегаў назіраецца ўнутрыродавая салідарнасць. Старту кар'еры маладога Льва Сапегі

---
21 Ibidem, s. 182.
22 Ibidem, s. 180.
23 Ibidem, s. 180.

пры двары дапамагла пратэкцыя дзядзькі з кодэньскай лініі, ваяводы наваградскага Паўла Іванавіча, а потым яго сына Мікалая. Мікалай Паўлавіч Сапега з 1576 г. стаў мінскім, а з 1588 па 1599 г. — віцебскім ваяводам, а яго брат Андрэй Паўлавіч быў намінаваны ў 1598 г. полацкім ваяводам, хоць з-за канфлікту з палачанамі да рэальнага выканання абавязкаў ён так і не здолеў прыступіць. Фармальна апошняе дзесяцігоддзе XVI ст. кодэньскія Сапегі былі на вяршыні адміністрацыі Падзвінскіх ваяводстваў. Прадстаўнік кодэнскіх Сапегаў — сын кіеўскага старасты Паўла Ян Пётр — перад тым як стаць кіраўніком сапежынскіх узброеных сіл у Інфлянтах (1600–1609) і пад Гузавам (1607 г.), нарабіў перад Валовічамі пазык на 11 250 коп, якія вялікі канцлер ВКЛ пагасіў у 1593 г. Адзначым, што з часоў рокашу 1606–1608 гг. і да канца жыцця ролю „сеньёра" роду Сапегаў пачаў адыгрываць менавіта Леў Сапега: так ён успрымаўся каралём і сеньёрам Радзівілаў Мікалаем Крыштафам Радзівілам „Сіроткам".

Абывацелямі аршанскага і віцебскага паветаў былі пазначаныя ў *„Квітах"* арыстакратычныя роды (князі Лукомскія, Друцкія, Саколінскія) і паны — дробныя фаміліі, напрыклад Курчы, Галімскія, Цеханавецкія. Невыпадкова дзеля атрымання палітычнай падтрымкі Л. Сапегі кароль у 1598 г. зрабіў яго старастам магілёўскім, чым замацаваў панаванне чарэйскай галіны Сапегаў у Аршанскім павеце. Інтарэсы ў Мазырскім і Рэчыцкім паветах забяспечвалі князі Жыжэмскія і „слуга" стольнік мазырскі Стэфан Лавейка (род Лавейкаў, як і Рысінскіх, меў полацкае паходжанне). Ніжэй, праз мяжу ў Кароне, да гэтай групы адносіцца і пан Судоскі[24], які трымаў у арэндзе ад Льва Сапегі Чарнобыльскае староства. Староства гэтае, як і Аршанскае, Сапегі пераняли ў Філона Кміты. Стрыечны брат Л. Сапегі Лукаш Міхайлавіч Сапега ажаніўся з Сафіяй Кмітай, якая ў пасагу ў 1597 г. прынесла Чарнобыльскую воласць. Другая дачка Ф. Кміты Багдана таксама пайшла замуж за прадстаўніка дому Сапегаў — Юрыя Друцкага Горскага. Дом Сапегаў замацаваўся па ўсім Падняпроўі аж па Кіеўскія прыгарады.

Ля Чарнобылю Прыпяць упадае ў Дняпро і пачынаецца Прыпяцка-Бугскі шлях, асноўная гандлёвая артэрыя Палесся. У гэтым рэгіёне прадстаўніцтва Сапег забяспечвалі Цярлецкія. Сямён Цярлецкі (Тарлецкі) з Пачапава на Піншчыне разам з сынам Ярашам (Рыгорам, Георгіем) былі пісарамі ў канцылярыі ВКЛ, аб чым маюцца сведчанні ў некалькіх кнігах метрыкі ВКЛ (кнігі з 1585 па 1614 г.). Яраш Цярлецкі па хадайніцтве Л. Сапегі ў 1590 г. стаў не толькі падстоліем пінскім, але і судовым вой-

[24] Ibidem, s. 170.

там менскім[25], трымальнікам Габровіцкай і Пацюкоўскай валасцей свайго патрона ў 1603–1604 гг.[26] Яраш (Грыгоры) Цярлецкі ў *„Квітах”* класіфікаваны як *„слуга”*[27]. У 1592 г. з 400 коп маскоўскага мыта на юргельды пайшло 220 коп — *„пану Волку на адправу да Масквы 60 коп, на страваванне паслоў маскоўскіх а слуг маіх Галубіцкага (Яна Рыгоравіча Корсака) і (Яраша) Цярлецкага — 100”*[28]. Родным братам Яраша быў Кірыл Цярлецкі — луцкі біскуп і адзін са стваральнікаў уніі. Відавочна, праз яго Л. Сапега меў уваход у праваслаўны і грэка-ўніяцкі клір.

Важнейшай часткай эканамічнага капіталу з'яўляюцца фінансы. Акрамя ўзаемных трансакцый паміж феадаламі, Л. Сапега карыстаўся інвестыцыямі з боку мяшчан. *„Квіты”* фіксуюць, што на выплату 100 коп у 1591 г. *„новаму маскоўскаму паслу”* і менскаму войту Я. Цярлецкаму ў Навагрудку прыехаў нейкі не названы па прозвішчы Лукаш (Мамоніч(?), а 1 жніўня 1592 г. 200 коп яму выдалі полацкія мяшчане[29]. Адзначым, што ўзгаданы некалькі разоў віленчук Лукаш Мамоніч, скарбны ВКЛ, брат віленскага бурмістра, 24 мая 1592 г. пазычыў Л. Сапегу першую частку сродкаў (6000 коп) на арэнду мытаў ВКЛ[30]. Ён жа быў партнёрам па выданні трэцяга Статута ВКЛ і карыстаўся сапежынскім гербам „Ліс”. Выдача сродкаў і карыстанне гербам сведчаць аб надзейнасці сувязяў Л. Сапегі ў мяшчанскіх колах ВКЛ. Кашталянам віцебскім (1594–1600) быў Ян Янавіч Зяновіч (каля 1550–1614), які яшчэ ў бытнасць падстоліем ВКЛ у 1593 г. атрымаў ад Л. Сапегі 1000 і 1875 коп[31], а пазней стаў смаленскім кашталянам (1600–1614). Менш ганаровай, але даволі важнай была пасада кіраўніка судоў, адміністрацыі і фінансаў гарадоў — войта. Так, войтам віцебскім з 1598 па 1603 г. быў слуга і юргельднік Л. Сапегі Аляксандр Гасеўскі, у Магілёве з 1596 г. лентвойтам служыў скарбнік ВКЛ Мікалай Бральніцкі (сваяк полацкага арцыбіскупа Гедэона Бральніцкага), а войтам з 1597 г. становіцца Яраш Валовіч[32], войтам Менску быў Я. Цярлецкі.

25 *Беларускі архіў*, т. 3: *Менскія акты,* вып. 1 (XV–XVIII ст.), Менск 1930, с. 71.

26 S. Inglot, *Sprawy gospodarcze Lwa Sapiehy 1588–1607*, s. 184

27 LMAVB RS, F.17–106, арк. 1, 35, 36

28 Тамсама, арк. 1.

29 Тамсама, арк. 36.

30 Тамсама, арк. 1.

31 LMAVB, F.17–106, арк. 33. Дакумент пачынаецца з пералічэння грашовых сум у літоўскіх копах, потым пры персанальным пераліку выплат указваюцца лічбы, але замест валюты ідзе скарачэнне — ff. Дапускаем, што ўвесь падлік — у літоўскіх копах.

32 Магілёўскі магістрат — выпуск 2 // https://niab.by/newsite/by/content/all/%D0%BC%D0%B0%D0%B3%D1%96%D0%BB%D1%91%D1%9E%D1%81%D0%BA%D1%96-%D0%BC%D0%B0%D0%B3%D1%96%D1%81%D1%82%D1%80%D0%B0%D1%82-%D0%B2%D1%8B%D0%BF%D1%83%D1%81%D0%BA-2[дата доступу 20.08.2020]

Сувязі з мяшчанствам мелі інтэрнацыянальны характар: да арэнды і пазык дапускаліся жыды, а інтарэсы ў Рызе, Мемелі і Данцыгу забяспечвалі немцы-фактары: Мельхер-немец[33], Уладзімір Ургеймер Мемер, Фаўстын Кляйн[34].

*„Квіты”* сведчаць пра тое, што Л. Сапега актыўна пазычаў грошы іншым магнатам ВКЛ. Яго даўжнікамі былі віленскі кашталян Павел Пац, жонка Гераніма Юр’евіча Хадкевіча, браты Войны, Я. Зяновіч. На 5 студзеня 1590 г. віленскі кашталян Павал Пац быў вінен скарбу Л. Сапегі 6000 + 750коп[35], відаць, нехта з яго сыноў значыцца як *„ваяводзіч Пац”* у спісе юргельднікаў Л. Сапегі[36]. Жонка канюшага ВКЛ Гераніма Юр’евіча Хадкевіча ў сакавіку 1593 г. у Вільні была павінна скарбу Л. Сапегі 5000 коп[37]. Ці то са з’яўленнем грошай, ці то з іншай нагоды, але ў 1593 г. кар’ера яе мужа пайшла ўгару. Геранім Юр’евіч Хадкевіч стаў ваяводам мсціслаўскім (1593–1595), а потым кашталянам віленскім і старостам берасцейскім (1595–1617). Геранім Хадкевіч з 1595 г. пераняў апякунства над спадчынніцай слуцкіх князёў Сафіяй Алелькавіч. Яшчэ адной сям’ёй, з якой супрацоўнічаў Л. Сапега, былі пяць сыноў Войны Мацвеевіча Грычыны. Габрыэль Война працаваў разам з ім і быў вялікім пісарам і падканцлерам ВКЛ (1589–1615). Бенедыкт Война быў суфраганам, а з 1600 па 1615 г. — біскупам Віленскім. Прычым аванс стаў магчымым толькі пасля доўгага і актыўнага супраціўлення Радзівілаў і Сапег прызначэнню на гэту пасаду паляка. У 1593 г. Л. Сапега выдаткаваў 750, а ў 1594 г. — 6000 + 750коп Віленскай капітуле з непазначанымі мэтамі[38]. З блізкага да Слоніма Ваўкавыска пачаў кар’еру мясцовы суддзя земскі і войскі гарадзенскі Рыгор Война. Выплата з прыватнага скарбу Л. Сапегі ў 1593 г. 500 коп[39] дазволіла яму ў тым жа годзе стаць сенатарам — кашталянам берасцейскім (1593–1603), а потым на той жа пасадзе яго замяніў родны брат Сокал Война (да гэтага ў 1599–1603 гг. быў таксама сенатарам — кашталянам мсціслаўскім). Падстолій ВКЛ Ян Янавіч Зяновіч (каля 1550–1614) у 1593 г. атрымаў ад Л. Сапегі 1000 і 1875 коп[40], пасля чаго стаў сенатарам — кашталянам віцебскім (1594–1600), а потым і смаленскім кашталянам (1600–1614).

---

33 LMAVB RS, F.17–106, арк. 51.
34 Тамсама, арк. 53 адв.
35 Тамсама, арк. 25.
36 Тамсама, арк. 35.
37 Тамсама, арк 33.
38 Тамсама, арк. 33–33 адв.
39 Тамсама, арк. 33.
40 Тамсама, арк. 33.

Пералічаныя вышэй магнацкія роды былі прадстаўнікамі цэнтральнай часткі ВКЛ, уласна „панамі" з „Літвы", а на „Русі" ВКЛ працягвалі існаваць і карыстацца большым прэстыжам старыя княжацкія роды. Статус „князь" („dux", ці „герцаг") па азначэнні вышэй за „пана" — выслужаную шляхту, якая не мела раней уласных дзяржаў-княстваў. Высокім статусам бацька Л. Сапегі Іван Іванавіч пахваліцца не мог. У адрозненне ад прадстаўнікоў кодэньскай лініі Сапегаў, якія былі ваяводамі, той даслужыўся толькі да драгічынскага старасты і аршанскага падстарасты. Але маці Л. Сапегі была апошняй прадстаўніцай роду Канопляў, аднаго з адгалінаванняў дому князёў Друцкіх, якія паходзілі з колішняй полацкай княскай дынастыі. Друцкія імкнуліся ўтрымліваць родавую лучнасць[41] і таму іх пляменнік на высокай пасадзе быў для іх і гонарам, і карысным агентам. Пра вагу лакальнай ідэнтычнасці і каштоўнасцей у бацькоўскай сям'і вельмі яскрава сведчыць тое, што родныя браты вялікага канцлера абралі для сваіх кар'ер Аршанскі павет, а ў *„Квітах"* залежныя ад Л. Сапегі прадстаўнікі высакароднага стану ўзгадваюцца паводле двух тытулаў — *„князі"* і *„паны"*. Большасць князёўкліентаў маюць дачыненне да дому Друцкіх.

Нельга цалкам пагадзіцца з меркаваннем Марыюша Кавальскага, які не прасачыў працэсаў пераходу старых княжацкіх тытулаў без зямельнай прывязкі на новыя роды і сцвердзіў, што, паколькі Сапегаў не намінавалі на княжацкую годнасць імператар Свяшчэннай Рымскай Імперыі ці польскі кароль і яны не мелі *„родавага княства"*, да XVIII ст. яны былі „новымі" і *„не мелі правоў ужываць княжы тытул"*[42]. Л. Сапега, што праўда, не ўжываў яго ў афіцыйнай дакументацыі, якую падпісваў. Але Лукомскія і Друцкія страцілі свае княствы на карысць Сапегаў[43]. Гэта быў доўгі працэс. Той жа Кавальскі[44] заўважае, што Друцкае і Гальшанскае княствы ў XVI–XVIII стст. трымаюць Сапегі з розных галін роду, а таксама, што Сапегі і Сеняўскія, пасля смерці Яна Караля і Аляксандра Хадкевічаў пераняўшы іх графскія тытульныя дамены ў Шклове, Рагачове, Быхаве і інш., пачынаюць ужываць афіцыйна зацверджаны графскі тытул Хадкевічаў[45].

Сваяцкія сувязі князёў забяспечылі Л. Сапегу не толькі прэстыж, але таксама інфармацыйную і структурную падтрымку ў Падняпроўі

41 J. Wolff, *Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku*, Warszawa 1895, s. 63.

42 M. Kowalski, *Księstwa Rzeczpospolitej. Państwo magnackie jako region polityczny,* Warszawa 2013, s. 161.

43 Ibidem, s. 159–160.

44 Ibidem, s. 144, 145.

45 Ibidem, s. 146.

і Падзвінні. Сувязі княскіх дамоў усходняй Беларусі дапамаглі Л. Сапегу стаць асноўным спецыялістам па маскоўскіх пытаннях пры двары і быць мастом паміж „Руссю” ВКЛ і віленскай палітычнай элітай. Л. Сапега, у сваю чаргу, забяспечваў беларускай шляхце і князям прызначэнні на пасады[46], удзел у інспектаванні і інцыяванні новых, выгодных зборшчыкам, падаткаў на развіццё мясцовай інфраструктуры (паўграшовага збору з купецкага каня і воза на рамонт дарог паміж Полацкам, Оршай, Барысавам, Магілёвам і Мсціславам)[47]. Ён імкнуўся да трывалага міру з Масквой, каб зменшыць пагрозы для дабрабыту ўсходніх зямель ВКЛ і ліквідаваць вонкавыя цяжкасці ў замацаванні ВКЛ у Рызе, адзіным штапельным порце для днепра-дзвінскага гандлю — падмурка багацця арыстакратыі ў паўночнай і ўсходняй Беларусі і Інфлянтах.

Усяго ў *„Квітах”* значыцца 5 князёў (або 8, калі лічыць двойчы ўзгаданых без імёнаў Саколенскага і Масальскага рознымі людзьмі). Верыфікаванымі дакладна можна лічыць „слугу” Януша (Бабіча) Саколенскага і „каморніка” Крыштапа Масальскага. Удакладненню падлягаюць не названыя па імёнах князі — „слугі” Горскі і Лукомскі, а таксама „каморнікі” Жыжэмскі (або Геранім, падкаморы мазырскі, або Петр ці Яраш — старасты рэчыцкія ў 1599 г. і 1609 г.[48]), Саколенскі і Масальскі. Князі Жыжэмскія, Масальскія і Лукомскія не ўваходзілі ў дом Друцкіх, аднак былі шматкроць параднёнымі з ім. Князі часцей за ўсё не былі *„павіненнымі”* слугамі Л. Сапегі, а іменаваліся *„прыяцелямі”*, калі ад іх было нешта трэба, або яны маглі атрымаць нейкія пазыкі ці паслугі ад патрона.

Князёў Лукомскіх, хутчэй за ўсё, у кліенцкай сетцы Льва Сапегі прадстаўляў Фрыдэрык — Фёдар Багданавіч, які да 1592 г. быў студэнтам у Падуі, потым каралеўскім сакратаром, з 1600 г. падкаморым аршанскім, з 1602 г. старостам крычаўскім, кашталянам мсціслаўскім (1610–1611 гг.). Яго сыны прадалі маёнткі Сапегам і перасталі выкарыстоўваць княжацкі тытул[49]. *„Квіты”* фіксуюць адносіны ўзаемазалежнасці ў межах кліенцкай сеткі наступным чынам: спачатку на дзень святога Яна 1591 г. скарб Л. Сапегі быў вінен не названаму па імю князю Лукомскаму 80 коп. Суму пакрылі выданыя неназванаму князю Лукомскаму 28 верасня 1591 г. 180

[46] *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі* (далей — НГАБ), КМФ — 18, ад. зах. 85, арк. 206. *Наданне сакратару каралеўскаму Фрыдрыху Лукомскаму за службу і пасольствы розныя Крычаўскага староства. Кракаў. 1602.*

[47] LMAVB RS, F.139–2584. *Фрыдрых Лукомскі да Жыгімонта Вазы з Чарэі. 19.11.1608.*

[48] K. Niesiecki, *Herbarz polski*, Lipsk 1845, t. X, s. 201; A. Boniecki, *Herbarz polski*. Część I: *Wiadomości historyczno-geneologiczne o rodach szlacheckich*, Warszawa 1913, t. XVI, s. 89.

[49] A. Boniecki, *Herbarz polski*, s. 108–116.

коп, потым у 1592 г. ён жа атрымаў 60 і 40, а потым (1593–1594 гг.) — яшчэ 4 траншы па 40 коп, адзін з якіх тканінай — фалькендышам. Відаць, знаходзіцца пры двары было яго абавязкам, бо 1 жніўня 1593 зазначана, што *„з рахунку для частай абсэнцыі (адсутнасці) ніц яму ня вінна”*[50].

Неназваны па імю князь Горскі *„прыстаў”* да дому Л. Сапегі ў Варшаве 17 ліпеня 1592 г. За наступныя 3 гады ён набраў да 220 коп пазыкі, якія 12 снежня 1594 г. перад выездам з Варшавы *„яго міласць* (Л. Сапега — В.Я.) *яму даравацъ зрабіў ласку”*[51]. Верагодней за ўсё, кліентам быў Юры Абрамавіч Горскі, які купіў у Л. Сапегі за 4000 злотых маёнтак Горы ў аршанскім павеце і падпісаў адмову ад прэтэнзій да папярэдняга яго ўладальніка Андрэя Цеханавецкага ў 1598 г.[52]

Акрамя адміністрацыйных і эканамічных чыннікаў, звычайных пры матэрыялістычных трактоўках, не менш важным дзеля трываласці пазіцый роду ва ўсіх сістэмах грамадства з'яўляецца культура — прызнанне грамадствам сацыяльнага статусу і законнасці набытага багацця. Ацэнка маральнасці — суаднясенне дзеянняў з пэўнай шкалой каштоўнасцей. У сучасным грамадстве ролю стваральнікаў і кантралёраў маральных арыенціраў выконваюць дзеячы культуры, СМІ, а для традыцыйных грамадстваў — прадстаўнікі рэлігійных інстытутаў. Канстанты „рыцарскай цноты” — „слава продкаў”, „слаўны род” — гэта катэгорыі маральныя.

Актыўны ўдзел у рэлігійным жыцці і фундацыі на манументальныя збудаванні павінны былі павысіць сацыяльны прэстыж эканамічнага і палітычнага капіталу канцлера ВКЛ. На грошы Л. Сапегі будавалася і ўтрамоўвалася шмат цэркваў, касцёлаў і кляштараў. На той момант Л. Сапега — каталік, які падтрымліваў не толькі сваю канфесію ў асобах братоў Войнаў, але меў непасрэдны ўплыў на вярхушку грэка-каталіцкага кліру праз родных К. Цярлецкага. Найбольш значнай фундацыяй была пабудова ў 1593–1625 гг. кляштара бернардзінак і касцёла святога Міхала ў Вільні — задуманага і рэалізаванага як радавая ўсыпальніца для Л. Сапегі і яго нашчадкаў. Адносіны з клірам мелі двухбаковы характар.

Прадстаўнік касцёла ксёндз Адам фактычна быў фінансавым агентам Л. Сапегі ў Кракаве. У 1594 г. ён двойчы выдаў князю Горскаму грошы — 20 і 220 коп, пану Стравінскаму, які *„прыстаў да дому”* Л. Сапегі ў Менску, у тым жа годзе і там жа — 40 і 50 коп[53], а пану Карачуну ў 1594 г. — 40 коп.

50 LMAVB RS, F.17–106, арк. 37 адв.

51 Тамсама, арк.40.

52 J. Wolff, *Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku*, s.148.

53 LMAVB RS, F.17–106, арк. 43 адв.

Трымальнікам Астрынскага староства ад Л. Сапегі ў 1589–1602 гг. быў ксёндз Андрэй Віленскі[54]. Цікавымі з пункту гледжання касцельных норм запісамі з'яўляюцца паведамленне пра выплату ў 1593 г. *„патомкам ксяндза Немчыновіча"* 500 коп[55], фіксацыя касцельных рэчаў, у тым ліку іказаньскіх[56], і заключэнне ўмовы з іказаньскім ксяндзом Станіславам[57].

Абавязаны пачаткам кар'еры Крыштофу Радзівілу Перуну, кальвіністу па веравызнанні, Леў Сапега не адмаўляўся і ад падтрымкі пратэстантаў: імі былі ўзгаданы вышэй Ян Янавіч Зяновіч і Саламон Рысінскі. Апошні знаходзіўся ў складзе *„слуг"*, з 1591 па 1595 г. атрымліваў значныя сумы грошай. У 1592 г. — 50 і 60 коп[58], у 1593 г. яму выданы і спісаны 150 коп[59], у 1594 — 235 коп[60], у 1595 — 180 коп, а *„на адстанню"* 25 ліпеня 1595 г. — 140 коп[61]. С. Рысінскі пасля гэтага стаў настаўнікам дзяцей К. Радзівіла Перуна, а потым у кастрычніку 1607 г. перадаваў Л. Сапегу вусныя паведамленні ад М. К. Радзівіла[62].

Важным элементам узняцця прэстыжу і замацавання будучых кліентаў з'яўлялася гуманітарная дзейнасць. „Рыцарскія цноты" ўключалі ў сябе падтрымку ўдоваў і моладзі *„шляхетных брацці"*. Пазней удзячныя асобы або станавіліся на службу, або захоўвалі прыязнасць да дому дабрадзея. Гуманітарная дзейнасць уключала ў сябе непасрэдныя выплаты, утрыманне або адмову ад спагнання запазычанасці. У 1593 г. былі спісаны (зафіксаваны) даўгі на маёнтках пані Мілашэўскай — 400 коп, пані Сіромскай — 300 коп, пані Масальскай — 1 000 коп, Юрку Галінсцы — 500 коп, вайтовічу Іказненьскаму — 500 коп, Рысінічу — 150 коп, пані Любавецкай — 300 коп[63], пані Прыбароўскай — 2 000 коп, Валчку на старостве Кар'якоўскім — 2 500 коп[64]. Даўгі на маёнтках (*„імеіях"*) Стараселля Віцебскага павета ў 12 500 коп пайшлі на вяртанне пазыкі Яна Сапегі Валовічаўне[65] і на падтрымку сястры Л. Сапегі Тэадоры, якая была замужам за Мацеем Ленэкам, на той момант старастам навагародска–інфлянцкім і кірхгольмскім, з 1598 г.

54 S. Inglot, *Sprawy gospodarcze Lwa Sapiehy 1588–1607*, s. 185.
55 LMAVB RS, F.17–106, арк. 33.
56 Тамсама, арк. 81–84.
57 Тамсама, арк. 100–101.
58 Тамсама, арк. 40.
59 Тамсама, арк. 28 адв.
60 Тамсама, арк. 40.
61 Тамсама.
62 LMABV RS, F9–431, *Ліст Л. Сапегі да М. К. Радзівіла 4.10. 1607. Слонім*, арк. 105
63 LMAVB RS, F.17–106, арк.28 адв.
64 Тамсама, арк. 34.
65 Тамсама.

кашталянам дэрптцкім. Другая родная сястра канцлера Марыяна-Сафія была ў шлюбе з Марцінам Курчом, старастам фелінскім, з 1598 г. ваяводам дэрптцім, а трэцяя Ганна — за Міхалам Францкевічам Радзіміньскім — полацкім падкаморыем, дзяржаўцам дрыскім[66].

Дапамога шваграм была не толькі палітычнай. Так, М. Ленэку і яго жонцы было перададзена спачатку 1 500, а потым яшчэ 1 000 коп, М. Курчу ў 1591–1594 гг. выдавалі тканіну (чырвоны і брунатны адамашак, сукно фалькендыш) коштам па 15–40 коп, футра і грошы ад 5 да 40 коп[67], а М. Францкевіч у *„Квітах"*, верагодна, пазначаны ў якасці юргельдніка[68]. Заўважым, што М. Ленэк быў палякам і палітычную кар'еру рабіў як прадстаўнік Кароны ў Інфлянтах. Жонкі-Сапежанкі жылі са сваімі мужамі ў Інфлянтах і Полацку, прадстаўляючы інтарэсы сям'і на мясцовасці, а іх маёмасцю і ўтрыманнем кіравалі слугі брата-патрона. Напрыклад, П. Галінскі атрымаў *„на частцы старасцінай Наваградскай — 2 000, яму ж на старастве аршанскім далі 2 500"*[69]. З іншымі швагрconsiderамі — братамі жонкі Гальшкі Янушам і Крыштофам II Радзівіламі — цёплыя адносіны працягваліся да рокашу 1606–1608 гг., але тое, што ён у ВКЛ не скончыўся трагічна для яго завадатараў, шмат у чым заслуга Л. Сапегі. Пакуль быў жывы іх бацька К. Радзівіл *„Пярун"*, канцлер называў сябе *„слугой дому Радзівілаў"*, карыстаўся падтрымкай яго кліенцкай сеткі, быў яе часткай.

Як вядома, сам Л. Сапега пачынаў кар'еру ў складзе аршака — суправаджэння маладых Радзівілаў[70]. Таму ў складзе яго двара таксама была высакародная і перспектыўная моладзь. Выплочваць сталае ўтрыманне (юргельд) было не толькі прэстыжна, але і абяцала прыхільнікаў для дому ў будучым. Усяго ў *„Квітах"* налічвалася 13 юргельднікаў: Паліт(к?) анскі, Фрыдрыхавіч, Павал Сколэк (?), Бруховіч (?), ваяводзіч Пац, ваяводзіч Цішкевіч (Тышкевіч), Валовіч Самуэль, Ферэнс, Градановіч (?), Францкевіч (Міхал), Кендзішэўскі (?), Готард (Тызенгаўз(?), Гасеўскі (Аляксандр)[71].

Адзіным цалкам напісаным імём у спісе было імя Самуэля Валовіча. Ён далучыўся да дому Сапегаў у Варшаве 8 мая 1596 г.[72] Верагодна, утрыманне гэтага ўжо сталага мужчыны было ўдзячнасцю Валовічам за падтрымку ў атрыманні Л. Сапегам вялікай канцылярыі ВКЛ і Слонімскага староства.

[66] *Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy*: t. V: *Ziemia połocka i województwo połockie XIV–XVIII wiek* / red. H. Lulewicz, Warszawa 2018, s. 26, 164, 257.

[67] LMAVB RS, F.17–106, арк. 47 адв.

[68] Тамсама, арк. 35

[69] Тамсама, арк. 34

[70] LMAVB RS, F.139–3701. *Ліст К. Радзівіла да Л. Сапегі 15.08.1625.*

[71] LMAVB RS, F.17–106, арк. 35.

[72] Тамсама, арк. 41 адв.

Далей у спісе юргельднікаў ідуць два „ваяводзічы" з невядомымі імёнамі: Пац і Тышкевіч. Найверагодней, малады Пац — нехта з сыноў ваяводы мсціслаўскага і кашталяна віленскага Паўла Паца — Пётр ці Мікалай. Што тычыцца ваяводзіча Тышкевіча (Цішкевіча), хутчэй за ўсё ім быў Януш Федаравіч — сын ваяводы наваградскага і старасты браслаўскага (1588–1610) Тэадора Скуміна Тышкевіча[73]. Супрацоўніцтва з імі зафіксавана ў 1591 г., калі нейкаму Ц(Т)ішкевічу скарб ВКЛ выдаў 200 коп на рэвельскай сустрэчы каралёў Вазаў[74].

Ферэнс — хутчэй за ўсё нашчадак Ференса–венгра, піўнічага ВКЛ пры Стэфане Баторыі. Нейкі *„Ферэнс — кухмістр прыстаў да двара"* ў 1597 г.,[75] а яго сын *„кухмістравіч"*, паводле *„Квітоў"*, таксама быў на ўтрыманні скарбу Л. Сапегі[76]. Фрыдрыхавічам мог быць Даніэль Шчыт-Забельскі ці нехта з сыноў Ветрынскіх Эпімахаў (або князя Фрэдэрыка Лукомскага). Хутчэй за ўсё, Готард — гэта Готард Ян Тызенгаўз — пазней ротмістр у Інфлянтах, жанаты на Сусане, дачцэ ўсвяцкага старасты Яна Пятра Сапегі[77]. Францкевічам, хутчэй за ўсё, быў Міхал Францкевіч Радзіміньскі — швагер Л. Сапегі, а панам Гасеўскім — Аляксандр Гасеўскі, будучы войт віцебскі, пазней — ваявода Смаленскі[78].

Але высакародныя слугі не могуць выконваць усіх функцый пры двары. Для гаспадарчага персаналу пры двары вялікага канцлера ўжываецца тэрмін „służki" (каля 28 асоб). У складзе служак пазначаныя кухмістр Ферэнц і памочнікі, доктар Корп, Бальцэр (цырульнік), Адам (капелан), арганіст, трубач і хор з распісаннем галасоў (тэнар, бас і г.д. — 10 чалавек), прачка, агароднік, цясляр, стольмах, каваль, паляўнічы і інш., але няма нікога на пасадзе адказнага за карэты, коней і стайню, што выглядае дзіўна для двара, які пастаянна вандруе[79]. Хаця на сёння мы не маем канкрэтных паказальнікаў у *„Квітах"* і не можам вылучыць нейкае прозвішча са спіса слуг, але вядома, што Л. Сапега наймаў пад свае культурніцкія праекты мастакоў і архітэктараў. Захавалася некалькі прыжыццёвых партрэтаў вялікага канцлера, засталіся цэрквы і палацы, збудаваныя па яго замове.

[73] *Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя,* т. 2: К — Я, Мінск 2006, с. 682.

[74] LMAVB RS, F.17–106, арк. 1.

[75] Тамсама, арк. 40.

[76] Тамсама, арк. 96

[77] K. Niesiecki, *Herbarz polski*, Lipsk 1842, t. IX, s. 186.

[78] В. У. Якубаў, *Кліентэла Льва Сапегі у Полацкім і Віцебскім ваяводстве ў канцы XVI — пачатку XVII ст.*, [у:] *Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў [Электронны рэсурс]: электрон. зб. навук. арт. IV міжнар. навук. канф. да 50-годдзя Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, Полацк, 19–20 крас. 2018 г.* / пад агул. рэд.: А. І. Корсак, Наваполацк 2018, с. 434–444 электронны доступ [дата доступа: 1.08.2020]: http://elib.psu.by/handle/123456789/23078

[79] LMAVB RS, F.17–106, арк. 53–82

Наяўнасць лекараў, музыкаў, кухара, майстроў-рамеснікаў, стварэнне манументальных і дэкаратыўных помнікаў мастацтва пад патранатам Л. Сапегі адназначна працавала на стварэнне культурнага капіталу і ўражання сярод наведвальнікаў і сучаснікаў як высокакультурнага двара.

Такім чынам, Л. Сапега валодаў досыць разгалінаванай сістэмай сацыяльных сувязяў, якія меліся ў сферах эканомікі, палітыкі, сям'і, рэлігіі і культуры. Трывалыя эканамічныя пазіцыі былі замацаваны ў маёнтках і ўласнасці ў Віцебскім, Полацкім, Віленскім, Троцкім, Наваградскім, Менскім, Інфлянцкім ваяводствах і Жамойці. Адпаведна, непасрэдных эканамічных інтарэсаў не было толькі ў Берасцейскім і Мсціслаўскім ваяводствах ВКЛ, але там мелі моцныя пазіцыі слугі і палітычныя саюзнікі — „прыяцелі" дому Сапегаў. „*Квіты*" фіксуюць выплату і выдачу тавараў як асноўную форму падтрымання сувязі.

Грашовыя магчымасці Л. Сапегі грунтаваліся не толькі на ўласнай маёмасці, але і на саюзе з Мамонічамі і іншымі мяшчанамі Вільні, Полацка, Магілёва, Рыгі з іх фінансавымі магчымасцямі. Наяўнасць у складзе двара служак, адказных за кухню, музыку, медыцыну, а таксама капелана сведчыць не толькі аб камфортнасці побыту, але і аб шырыні густаў і магчымасцях прэзентацыі высокай культуры пры двары Л. Сапегі.

У дадатак да эканамічнай магутнасці выкарыстанне палітычных статусаў канцлера, арандатара мытаў, „куратара маскоўскіх спраў" стварылі Л. Сапегу вялікую сетку кліентаў (больш 150 асоб). Яе ўдзельнікі паходзілі з розных рэгіёнаў ВКЛ, больш таго, у яе складзе былі прадстаўнікі розных зямель і народаў Польскай Кароны і немцаў, што зрабіла Л. Сапегу цікавым і моцным партнёрам для выгодных палітычных кантрактаў. У арыстакратычных колах сімвалічны палітычны капітал базаваўся на альянсе з „даўнімі" беларускімі княскімі родамі Друцкіх і Лукомскіх. Пашыраючыся на захад і сталіцу ВКЛ, кліенцкая сетка Л. Сапегі завязвала пачаткова няроўныя партнёрскія сувязі з біржанскімі Радзівіламі і кодэньскімі Сапегамі, а таксама Валовічамі, Войнамі і Пацамі. Друцкія і Радзівілы разглядаліся як сваякі і частка сям'і, за іх кошт сетка разрасталася. Росту сацыяльнага капіталу спрыялі выдача пазык у грашовай і натуральнай форме, дапамога сіротам і жанчынам, а таксама ўтрыманне на юргельдах прадстаўнікоў моладзі Валовічаў, Пацаў, Тышкевічаў і Зяновічаў. Фундацыя цэркваў, падтрымка святароў усіх хрысціянскіх веравызнанняў і іх сем'яў (Войнаў, Цярлецкіх, Рысінскіх) забяспечвалі палітычны ўплыў і падмацоўвалі сацыяльны прэстыж у шматканфесійным грамадстве ВКЛ. Структура кліенцкай сеткі, якая

ўключала прадстаўнікоў арыстакратычных родаў,ураднікаў маёнткаў, служылую шляхту, святароў і дзеячаў культуры, сведчыць аб высокай ступені сацыяльнага, эканамічнага, культурнага і сімвалічнага капіталу і аб адмысловай мэтанакіраванай дзейнасці Льва Сапегі па стварэнні living рознабаковага заплечча ва ўсіх сацыяльных інстытутах.


## Streszczenie

Viktar Yakubau, *Budowa sieci klientów Lwa Sapiehy w końcu XVI — początku XVII wieku*

Artykuł poświęcony jest strukturze kapitału społecznego w sieci klientów Lwa Sapiehy. Na przykładzie księgi wydatków dwóru potentata wyciągnięto wnioski na temat różnorodności więzi społecznych w strulturze społecznej. Pomimo obecności i wzrostu majątku ziemskiego podstawową formą tworzenia relacji między patronem a klientami były wpłaty i wypłaty gotówkowe. Ponadto, dzięki darowiznom oraz wsparciu finansowemu i politycznemu krewnych i dostojników różnych wyznań chrzysciajańskich w ramach sieci klienckiej, czynione są wysiłki w celu stworzenia wsparcia strukturalnego w sferze religijnej i kulturowej. Polityczne oparcie na stosunki rodzinne z rodami książęcymi na czele z Druckimi i Radziwiłłami zostało uzupełnione o udzielenie pożyczek oraz jurgieltów  przedstawicielom rodzin Paców, Wołłowiczów, Tyszkiewiczów, Tyzenhauzów, Zenowiczów oraz Chodkiewiczów.



## Abstract

Viktar Yakubau, *Construction of Leo Sapieha's client network at the end of the 16th — beginning of the 17th century*.

The article is devoted to the structure of social capital in the customer's network of Lew Sapieha. In result of analyzing receiptsof the magnatescourt book draws conclusions about versatility of social ties within the social structure. Despite the presence and growth of landed property the basic form of the creation of relations between patron and clients are already cash payments and tissue delivery. In addition, thanks to donations and financial and political support of church dignitaries relatives in the framework of a client network, efforts are visible to create support in the religious and cultural sphere.Political support on the relationships with the Belarusian princely clans led by Drutsk and Radziwill princes supplemented by the issuance of loans and content on yurgelde representatives of Pac, Volovich, Tyszkiewicz, Zenovich and Chodkiewicz families.

**Андрэй Вашкевіч (Гродна)**
**Сяргей Токць (Гродна/Варшава)**

# Ад Гожы да Байкала: драматычны лёс гродзенскага паўстанца Станіслава Сільвястровіча

Падзеі паўстання 1863–1864 гг. сталі ў апошнія гады самай папулярнай тэматыкай у даследаваннях беларускіх гісторыкаў, прысвечаных XIX стагоддзю. Культавай постаццю ў нацыянальнай гістарычнай памяці з'яўляецца адзін з кіраўнікоў паўстання на беларуска-літоўскіх землях Канстанцін Каліноўскі. Таксама ў апошнія гады ўбачыла свет шмат біяграфічных нарысаў, прысвечаных паўстанцам. Разам з тым, на нашу думку, застаюцца недастаткова высветленымі некаторыя важныя пытанні. І сярод іх — пытанне матываў удзелу ў паўстанні. Што датычыцца небагатых, але добра адукаваных шляхцічаў і дробных чыноўнікаў, то альтэрнатывай геройскай смерці ў лясной сутычцы з карнікамі ці на эшафоце часта выступала беспрасветная беднасць і ранняя смерць ад сухотаў ці іншай цяжкай хваробы, выкліканай нуднай і нецікавай працай у якой-небудзь губернскай установе. Прынамсі такая інтэрпрэтацыя матываў разам з высокімі ідэаламі і рамантыкай барацьбы можа выглядаць досыць пераканаўчай. Інакш выглядае сітуацыя, калі гаворка ідзе пра багатых памешчыкаў, якія ставілі на кон не толькі асабістае жыццё і маёмасць, але таксама маёмасць і кар'еры сваіх родных і сваякоў. І яскравым прыкладам тут можа паслужыць лёс Станіслава Сільвястровіча, уладальніка маёнтка Гожа, які стаў начальнікам паўстанцкай арганізацыі Гродзенскага павета. У дадзеным артыкуле аўтарамі зроблена спроба на падставе выкарыстання гісторыка-біяграфічнага метаду высветліць абставіны такога жыццёвага выбару Сільвястровіча і наступствы для самога героя і яго сям'і.

У верасні 1863 г. гродзенскаму губернатару Івану Скварцову паклалі на стол пісьмовы данос уладальніка маёнтка Грандзічы нейкага Філарэтава. Аўтар даносу скардзіўся на жыхароў прыгараднай вёскі Грандзічы, якія добраахвотна пагадзіліся сабраць ураджай з палеткаў памешчыка Станіслава Сільвястровіча, уладальніка суседняга маёнтка Гожа. *„3 сентября 1863 г. секретно. Ваше Сиятельство! Князь Юрий Николаевич! Угодно Вам видеть образчик Польского Патриотизма! — вот один из них:*




**Карта Гродзенскага павета ў другой палове XIX ст.**

*Из внимания к тому, что Помещик Имения Гожи Сильвестрович заключен в тюрьму за политические деяния — сегодня д. Грандичи (до 52 домов) паслали по одной и более работниц с каждого дома на работу упомянутому Сильвестровичу безвозмездно. Это называется Патриотическая Толока. Не признается ли Возможным доложить об этом Господину Начальнику Губернии. Вашего Сиятельства Покорный Слуга! В. Филаретов*[1]".

Справа сапраўды выглядала даволі незвычайна з увагі на тыя антаганізмы паміж сялянамі і памешчыкамі, якія толькі абвастрыліся с пачаткам рэалізацыі сялянскай рэформы ў 1861 г. 15 верасня 1863 г. земскі паліцэйскі спраўнік Гродзенскага павета падаў губернатару сабраную ім інфармацыю па гэтай справе, але ягоны рапарт у архіве канцылярыі губернатара не захаваўся[2].

На той час узгаданы Станіслаў Сільвястровіч знаходзіўся ў гродзенскай турме паводле падазрэння ў прыналежнасці да падпольнай паўстанцкай арганізацыі. Аднак ён цвёрда адмаўляўся прызнаць выстаўленыя яму абвінавачанні. У следчай справе захаваліся адказы Сільвястровіча на пытанні гродзенскай следчай камісіі ад 8 жніўня 1863 г.: „*Станислав Иванов сын Сильвестрович, лет от роду 30, уроженец Губернии Виленской, веры Римско-Католической, в Государственной службе не был и не состою в настоящее время, под судом и следствием не был. Женат. Детей имею двое. Воспитывался в городе Митаве в частном учебном заведении, после того поступил в Дерптский университет и окончил курс науки со степенью действительного студента (…). Участия в нынешнем возстании в Крае не принимал никакого, сочувствую оному на столько, что жаль мне столько пролитой крови, роли же в нем никакой не играю*"[3].

Праз паўгады Станіслава Сільвястровіча перавялі з Гродна ў Вільню, дзе ён таксама доўгі час не даваў прызнальных паказанняў. Яшчэ на допыце 7 красавіка 1864 г. Сільвястровіч адмаўляў свой удзел у паўстанні. А на наступны дзень яго зноў выклікалі на допыт і паказалі пісьмовыя прызнанні Эразма Заблоцкага, Ідэльфонса Мілевіча, Ігната Генюша і Людаміра Абрэмбскага, у якіх гаварылася пра яго значную ролю ў дзейнасці гродзенскай паўстанцкай арганізацыі. Так, у канцы сакавіка Ідэльфонс Мілевіч і Эразм Заблоцкі далі падрабязныя паказанні і назвалі дзясяткі прозвішчаў. Але Сільвястровіч ізноў адмаўляў свой удзел у паўстанцкім падполлі. І толькі 10 красавіка ён сам вызваўся на допыт і ўласнаручна

---

1 *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне* (далей — НГАБ у Гродне), ф. 10, воп. 13, адз. зах. 235, арк. 1.

2 Тамсама, арк. 4.

3 НГАБ у Гродне, ф. 3, воп. 3. адз. зах. 1, арк. 244–244 адв.

напісаў прызнанне: „*Быть может уже слишком поздно я приступил к искреннему сознанию в моих проступках, в следствие которых так давно страдаю. Находясь в Гродно под арестом в продолжении 8 месяцев, будучи только несколько раз спрашиваем тамошнею Комиссией, не видя в своем обвинении никаких доказательств, кроме одних лишь подозрений и более ничего в продолжении столь долгого времени, я запирался всего, будучи убежден, что со временем для неимения доказательств, дело мое должно замяться,— и хотя буду сужден за самое подозрение, но однако избегу сурового наказания (…) Если бы только я один был обвинен, я бы наверно искренне сознался в тот же самый день, но мысль, что кроме меня с этим делом есть связанных столько других лиц, которые я в своем сознании должен был бы непременно показать как виновных вместе со мною,— мысль эта столь меня тревожила, что я решился медлить свое сознание по крайней мере до тех пор, пока они сами себя не обвинят.*

*Более всего я боялся того, что если кто-нибудь из них, особенно из людей семейных, не чрез упорство, а только по случаю недоверия членам комиссии — не будет сознаваться, а только на основе моего показания может быть сужден по всей строгости законов — что тогда слёзы и упреки оставшегося семейства отравят остальную часть жизни моей и дитяти — После нескольколдневного колебания я убедился, что мое сознание нисколько им повредить не сможет*”[4].

Станіслаў Сільвястровіч таксама патлумачыў у сваім прызнанні асабістыя прычыны далучэння да паўстання. Паводле гэтага тлумачэння, асаблівы ўплыў на яго аказалі падзеі ў Варшаве, калі падчас масавых народных выступленняў 27 сакавіка 1861 г. было застрэлена расійскімі салдатамі 5 дэманстрантаў. Гэта выклікала акцыі салідарнасці з ахвярамі па ўсёй тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, у тым ліку і на Гродзеншчыне. Акрамя таго, ліберальныя палітычныя погляды Станіслава Сільвястровіча наблізілі да яго рэвалюцыйна настроеную гродзенскую моладзь: „*Освобождение от барщины моих крестьян в самый день объявления Манифеста 19-го февраля и препровождения их на самый умеренный оброк, как с одной стороны возбудило ко мне неудовольствие помещиков, которые боялись неповиновения своих крестьян, так с другой стороны, располагало ко мне молодежь, с которой я начал тогда более сближаться, имея между ними хороших знакомых еще с молодых лет, Эразма и Болеслава Заблоцких*”[5].

4 Тамсама, арк. 108 адв.

5 Тамсама.

Той факт, што Станіслаў Сільвястровіч у дзень абвяшчэння царскага маніфеста аб вызваленні сялян ад прыгоннай залежнасці добраахвотна вызваліў сваіх уласных сялян ад паншчыны, выглядае сапраўды незвычайным. Але, напэўна, праўда жыцця была, як заўсёды, больш складанай. Захавалася Устаўная грамата маёнтка Гожа, складзеная яго ўладальнікамі Станіславам і Казімірам Сільвястровічамі і ўведзеная ў дзеянне міравым пасярэднікам у лютым 1863 г. Гэта значыць, ужо ў той час, калі выбухнула паўстанне супраць Расійскай імперыі. Міравы пасярэднік так апісаў абвяшчэнне Устаўной граматы сялянам Гожы: *„1863 года февраль 16 дня Мировой Посредник Гродненской губернии и уезда 5-го участка Станислав Прушинский при бытности вотчинников имения Гожи Казимира и Станислава Сыльвестровичей призвав временно-обязанных крестьян того имения и посторонних добросовестных (…) прочел в слух от слова до слова составленную без участия крестьян (…) Уставную Грамоту противу изложенных в коей условий крестьяне объявили: во 1-х что, хотя наделенные им усадьбы могут заключать в себе две десятины, но среди усадеб находятся неудобные песчаныя участки, некогда не обсеменяемые, которые должны быть исключены из усадеб, во 2-х что у них количество пахотной земли и сенокосных лугов гораздо менее, чем показано по грамоте, и что некоторую часть земли они совершенно необсеменяют, или засевают в несколько лет раз, а потому не могут наверно знать количества своего надела, указывают при этом на обременительное исчисление издельной повинности и денежного оброка в сравнении качества занимаемой ими земли и потому от подписи акта отказались"*[6]. Аброк за зямлю, які паводле ўстаўной граматы павінны былі плаціць сяляне Сільвястровіча, сапраўды выглядаў немалым — 38 руб. ад сялянскага двара. Тут можна дадаць, што Паверачная камісія, якая правярала ўстаўныя граматы паміж сялянамі і памешчыкамі, у жніўні 1864 г. вызначыла сялянам Гожы выкупныя плацяжы ў суме каля 9 руб. у год, ці зменшыла іх у тры разы ў параўнанні з ўстаўной граматай.

Падчас дваранскіх выбараў на пасады міравых пасярэднікаў у канцы 1861 г. Станіслаў Сільвястровіч сабраў сярод прысутных памешчыкаў каля 80 рублёў на ўстанаўленне помніка загінуўшым у Варшаве дэманстрантам і перадаў гэтую суму Эразму Заблоцкаму. Магутны ўздым патрыятычных настрояў сярод мясцовай шляхты, які з асаблівай сілай выяўляўся падчас касцёльных набажэнстваў, усяліў у Сільвястровіча веру ў магчымасць перамогі паўстання супраць расійскай улады: *„Я думал, что все пойдет*

6 НГАБ у Гродне, ф. 10, воп. 3, адз. зах. 299, арк. 25-26.

*очень легко, коль скоро целый Край будет подготовлен к возстанию"*[7]. Але неўзабаве Сільвястровіч пераканаўся, што якраз памешчыцкі клас зусім не гарыць жаданнем актыўна ўдзельнічаць у паўстанні: *„Средств материальных, денег, не было кому и у кого собирать, ибо самый богаты клан в Крае, помещиков, не обманывал себя надеждой, и как более опытнейшие прежде времени не дали бы никакой помощи"*[8]. Таму, калі да Гродна дайшоў заклік з Варшавы да пачатку ўзброенага выступлення, *„могла лишь выступить одна лишь городская молодежь (…) я в увлечении предложил свое имение"*[9].

Такім чынам, Станіслаў Сільвястровіч прапанаваў гродзенскай моладзі, якая пажадала далучыцца да ўзброенай барацьбы, сабрацца ў яго маёнтку Гожа, а адтуль вырушыць у лес для арганізацыі ўзброенага аддзела. Але ў выніку 2 сакавіка адбылася акцыя з захопам цягніка на гродзенскай чыгуначнай станцыі і невялікая група моладзі выехала з Гродна ў кірунку станцыі Парэчча, каб пазней далучыца да паўстанцаў. Пасля каталіцкага Вялікадня Эразм Заблоцкі, які заняў у падпольнай паўстанцкай арганізацыі пасаду начальніка Гродзенскага ваяводства, прызначыў Станіслава Сільвястровіча цывільным начальнікам Гродзенскага павета. Аднымі з галоўных задач яго дзейнасці, паводле яго ўласных паказанняў, з'яўляліся збор сродкаў на патрэбы паўстання і наладжванне сувязі з паўстанцкай арганізацыяй Аўгустоўскай губерні Каралеўства Польскага. Сільвястровіч нават адмыслова набыў з гэтай мэтай двух ездавых коней. Акрамя таго, Сільвястровіч прызначаў людзей на пасады акруговых начальнікаў паўстанцкай арганізацыі, атрымліваў ад іх данясенні пра стан спраў і, у сваю чаргу, складаў падобныя данясенні ўжо ваяводскаму начальніку. У паказаннях Эразма Заблоцкага віленскай следчай камісіі ад 25 сакавіка 1864 г. быў урывак пра Сільвястровіча. Паводле Заблоцкага, апошні ў чэрвені атрымаў паперу з Вільні, *„в которой требовалось от него донести, в каком состоянии находится организация и дух народонаселения"*: *„По получению этой бумаги Сильвестрович пригласил меня на квартиру Идэльфонса Милевича, это было кажется в июне 1863 г., и мы втроем, т.е. я, Сильвестрович и Милевич составили ответ следующего содержания: так как в настоящее время вследствие строгости законного правительства такой повсеместный упадок духа, что нельзя рассчитывать на содействие населения, по этому если жонду*

7 Тамсама, арк. 109.

8 Тамсама, арк. 110.

9 Тамсама, арк. 110 адв.

*угодно продолжать борьбу, то пускай Царство Польское дает средства на это, тем более, что воеводская организация распустилась и для продолжения возстания не имеется ни денег, ни людей. Спустя некоторое время Сильвестрович был арестован"*[10].

Сам Сільвястровіч паказаў следчай камісіі, што ў самым канцы чэрвеня 1863 г. быў прызначаны ваяводскім начальнікам паўстанцкай арганізацыі, але амаль тут жа быў арыштаваны. У заключэнні палявога суда гаварылася, што *„в последних числах июня 1863 г. принявший после Калиновского должность коммисара воеводства Эразм Заблоцкий назначил Сильвястровича воеводским начальником на четыре уезда: Гродненский, Сокольский, Слонимский и Волковыский"*[11]. Але ўжо 30 чэрвеня ён быў арыштаваны.

На знак пратэсту супраць палітыкі ўрада з пачаткам паўстання пачалі масава падаваць у адстаўку чыноўнікі, якія былі абраныя на свае пасады на дваранскіх выбарах і паходзілі з асяроддзя мясцовых землеўладальнікаў. У першую чаргу гэта былі маршалкі шляхты, суддзі і міравыя пасярэднікі. Напрыклад, 4 сакавіка 1863 г. напісаў прашэнне аб адстаўцы выконваючы абавязкі губернскага маршалка Віктар Старжынскі. У гэтым прашэнні ён так тлумачыў губернатару свой учынак: *„Имея достаточное убеждение, основанное на неоднократных примерах, что при настоящих обстоятельствах занимаемая мною должность не только не соответственна прямому предназначению Предводителя Дворянства, но существенно бесполезна и не уважительна в отношении ходатайств по делам дворянского сословия (…) я побуждаюсь покорно просить Ваше Превосходительство предоставить по Начальству об увольнении меня от должности…"*[12]. На знак пратэсту супраць палітыкі ўладаў згодна падалі ў адстаўку 35 міравых пасярэднікаў Гродзенскай губерні, на якіх ускладалася задача рэалізацыі сялянскай рэформы 1861 г. Віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў 29 верасня 1863 г. прадпісаў гродзенскаму губернатару ўзорна іх усіць пакараць[13]. У выніку амаль усе чыноўнікі, што дэманстратыўна падалі ў адстаўку, былі высланы ў аддаленыя губерні Расійскай імперыі.

Пасаду суддзі Гродзенскага ўезда ад урада займаў на той момант родны брат Станіслава Сільвястровіча Казімір. Калі павятовы маршалак

10 Тамсама, арк. 391.
11 НГАБ у Гродне, ф. 3, воп. 3, адз. зах. 4, арк. 20.
12 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 13, адз. зах. 1362, арк. 1 адв.—2.
13 НГАБ у Гродне, ф 1, воп. 34, адз. зах. 123.

падаў у адстаўку, на яго было яшчэ ўскладзена выкананне абавязкаў маршалка шляхты Гродзенскага павета. Захаваўся паслужны фармулярны спісак Казіміра Сільвястровіча на 1862 г. Паводле гэтага дакумента, Казіміру тады было 40 гадоў і ён меў чын тытулярнага саветніка[14]. Як і Станіслаў, Казімір скончыў Дэрптцкі ўніверсітэт, прычым са ступенню кандыдата філасофскіх навук. У 1849 г. ён паступіў на цывільную службу ў канцылярыю гродзенскага губернатара. У 1852 г. Казімір займае дастаткова значную пасаду малодшага чыноўніка для асаблівых даручэнняў пры гродзенскім губернатары. У 1854 г. ён становіцца ўжо старшым чыноўнікам для асаблівых даручэнняў, але ў 1856 г. звальняецца са службы паводле ўласнага прашэння. У 1862 г. Казімір вяртаецца на дзяржаўную службу і, паводле прапановы віленскага генерал-губернатара Уладзіміра Назімава, прызначаецца суддзёй гродзенскага павятовага суда ад урада (у гэтым судзе таксама засядалі суддзі, якіх выбірала шляхта на выбарах). 31 жніўня 1863 г. гродзенскі губернатар Іван Скварцоў даслаў генерал-губернатару Міхаілу Мураўёву спіс усіх павятовых суддзяў, дзе паведаміў, што *„все означенные судьи, кроме Брестского, назначенного от короны, неблагонадежны и требуют замены другими”*[15]. У Гродзенскім павеце на той момант суддзёй яшчэ заставаўся Казімір Сільвястровіч, хаця яго брат Станіслаў ужо два месяцы знаходзіўся ў турме[16]. У выніку Казімір быў адхілены ад пасады. Невядома з даступных дакументаў, ці ведаў Казімір пра падпольную дзейнасць свайго роднага брата. Следчая камісія, прынамсі, такіх доказаў не знайшла.

Фармулярны спісак 1862 г. утрымліваў таксама інфармацыю пра сям’ю Казіміра. Ён быў жанаты з Аленай Гансеўскай, меў двух сыноў — Казіміра (нар. 3 жніўня 1855 г.) і Яна (нар. 27 лістапада 1862 г.), а таксама дзвюх дачок — Ядвігу (нар. 31 снежня 1857 г.) і Ганну (нар. 12 ліпеня 1859 г.). Пасля адстаўкі 1863 г. Казімір жыў з сям’ёй у сваім маёнтку Пералом па суседстве з Гожай.

Усяго ў Гродзенскай губерні напярэдадні паўстання налічвалася 1 518 памешчыкаў, у тым ліку 169 — у Гродзенскім павеце. Сярод іх большасць складалі сярэднія землеўладальнікі (ад 300 да 2 000 дзес. зямлі) — 840 (55,3 %), да іх ліку належаў і Станіслаў Сільвястровіч. Дробных землеўласнікаў (да 300 дзес. зямлі) было 604 (39,8 %), буйных

14 НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 37, адз. зах. 1511, арк. 1–5.

15 *Lietuvos valstybes istorijos archyvas* (далей — LVIA), f. 378, asp. 1858 o/o, b. 42, p. 292.

16 Тамсама, арк. 293.

(больш за 2 000 дзес. зямлі) — 74 (4,5 %)[17]. Абсалютная большасць памешчыкаў крытычна ставілася да расійскага ўрада, але зусім не гатова была ахвяраваць сваёй уласнасцю дзеля паўстання. Паводле даных дзяржаўнай адміністрацыі на 18 жніўня 1864 г., у Гродзенскай губерні быў канфіскаваны і ўжо прыняты на той момант у казну 41 шляхецкі маёнтак[18]. Акрамя таго, на месяц жнівень 1864 г. налічвалася 28 канфіскаваных маёнткаў, якія на той час яшчэ не былі прыняты ў казну. Напрыклад, у Гродзенскім павеце ўлады канфіскавалі маёнтак Азёры Леапольда Валіцкага, да якога належала 5 014 дзес. зямлі з агульным прыбыткам 10 559,5 руб. у год. Галоўнай прычынай быў той факт, што побач з маёнткам Валіцкага знаходзілася пушча, у якой размяшчаўся лагер паўстанцаў Гродзенскага павета, і шмат жыхароў мястэчка Азёры далучылася да аддзела паўстанцаў.

Паводле даных дзяржаўнай адміністрацыі на 21 студзеня 1865 г., у Гродзенскай губерні за ўдзел уладальнікаў ці членаў іх сямей у паўстанні было канфіскавана ці секвестравана ўсяго 70 панскіх маёнткаў, у тым ліку 13 — у Гродзенскім павеце[19]. Змрочныя настроі заможнай шляхты на той момант перадае ў сваіх мемуарах уладальнік маёнтка Масаляны Ян Біспінг: „*Ta zima i cały rok przyszły czyli 1864, były [to] najcięższe chwile dla biednej naszej Litwy, chwile odwetu i kary, panowanie szubienicy, całoroczne jęki w więzieniach, srogie sądy i zsyłki na Sybir tysiąca biedaków, wreszcie ruina mienia publicznego, sekwestry i konfiskaty*”[20]. Паводле даных на 1869 г., у Гродзенскай губерні ў ведамстве ўпраўлення дзяржаўных маёмасцей налічвалася 49 канфіскаваных і 7 секвестраваных маёнткаў. З ліку канфіскаваных 24 былі канфіскаваны поўнасцю, а астатнія — часткова[21].

Большасць пamеснай шляхты не падтрымала паўстанцаў нейкімі канкрэтнымі крокамі, а частка нават паставілася да іх крайне негатыўна. Да іх ліку належаў і вышэйзгаданы Ян Біспінг, які так пісаў пра паўстанцаў: „*…przeklęty czerwońców motłoch co raz bardziej się szerzył i krajem owładnął, pchnął go w otchłań powstania, aby w krwawej zawierusze w mętach nierządu łatwiej obłowić się mogli. Szlachta zawiniła słabością mając na czele zacnego hrabiego Andrzeja Zamoyskiego, który w popularność się bawiąc nie miał*

[17] П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Гродненская губерния,* Санкт-Петербург 1863, ч. 1, с. 722.

[18] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 22, адз. зах. 1456, арк. 125–142.

[19] Тамсама.

[20] J. Bisping, *Moje wspomnienia w Massalanach spisane. Pamiętniki Jana ordynata Bispinga 1842–1892*, Opracowanie, wstęp i przypisy Jerzy Z. Pająk i Jerzy Szczepański, Kielce–Kraków 2016, s. 123.

[21] НГАБ у Гродне, ф. 42, воп. 1, адз. зах. 33, арк. 1–31.

*najmniejszych politycznych zdolności ani przewidzenia. Margrabiego Wielopolskiego nie pojęto i nie oceniono, wreszcie za zdrajcę uważano, a on jedyny przecie, jako mąż stanu, żeby miał w kraju poparcie z rządem prawym, do porozumienia by doszedł i wszystko uratował. Lecz Bóg chciał widocznie Polskę ukarać odejmując jej wszelki rozsądek i oddając ją w ręce ohydnej tłuszczy czerwońców*"[22]. Зрэшты, нават самая нязначная падтрымка паўстання магла вельмі дорага каштаваць. Прыкладам тут можа паслужыць князь Георгій Чацвярцінскі, сын уладальніка маёнтка Скідзель Канстанціна Чацвярцінскага, які ахвяраваў на патрэбы паўстанцаў 120 рублёў. Гэтыя грошы ён перадаў уласнаручна „касіру" Гродзенскага павета — свайму суседу-памешчыку Тамашу Багатку. За гэта адстаўны штаб-ротмістр гусарскага графа Палена палка быў арыштаваны і прысуджаны палявым судом да высылкі ў *„малааддаленыя"* землі Сібіры. Гэта пры тым, што Чацвярцінскія з'яўляліся лаяльнымі падданымі Расійскай імперыі (бабка Георгія Калета Чацвярцінская атрымала маёнтак Скідзель у падарунак ад Кацярыны II за тое, што яе муж Антон Светаполк-Чацвярцінскі быў павешаны паўстанцамі ў Варшаве ў 1794 г.) і займалі высокія дзяржаўныя пасады. Зрэшты, Міхаіл Мураўёў змякчыў прысуд і аддаў Георгія на парукі бацькі — Канстанціна Чацвярцінскага, былога губернскага маршалка[23].

Вайсковую арганізацыю паўстанцаў у Гродзенскім уездзе ўзначаліў адстаўны падпалкоўнік Аляксандр Лянкевіч (Ляндэр), уладальнік невялікага маёнтка Панюкі каля Скідзеля. 21 красавіка 1863 г. аддзел паўстанцаў Лянкевіча (ва ўрадавых крыніцах называюцца лічбы да трохсот чалавек, паўстанец Ігнат Арамовіч у сваіх успамінах піша пра 36 добраахвотнікаў) увайшоў у мястэчка Азёры, якое знаходзілася на ўскрайку Гродзенскай пушчы на адлегласці ўсяго каля 20 км ад губернскага горада. Паўстанцы спалілі ўсе паперы ў канцылярыі казённага лясніцтва, забралі 316 рублёў, атрыманых за продаж лесу, і 134 рублі, прыгатаваныя на пабудову дома пад лясніцтва, а таксама 55 ружжаў, 2 састарэлыя пісталеты і 1 рэвальвер. Праўда, Ігнат Арамовіч у сваіх успамінах піша, што ўдалося знайсці ўсяго 25 стрэльбаў. Да паўстанцаў далучылася каля 20 жыхароў мястэчка Азёры[24]. Арамовіч сцвярджае, што ў аддзел Ляндэра ўступіла каля сотні бяззбройных сялян з навакольных вёсак. Напрыклад, паводле інфармацыі ўладаў, 20 красавіка група паўстанцаў увайшла ў вёску Талочкі, дзе да іх далучылася 4 шляхцічы, 6 аднадворцаў і 6 сялян[25].

22 J. Bisping, *Moje wspomnienia w Massalanach spisane*, s. 120–121.
23 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 34, адз. зах. 1948, арк. 157.
24 НГАБ у Гродне, ф 3, воп. 1, адз. зах. 15, арк. 16.
25 Тамсама, арк. 9.

Гэтых добраахвотнікаў Аляксандр Лянкевіч сабраў ў цяжкадаступным Святым балоце ў Гродзенскай пушчы для фарміравання з іх баяздольнай вайсковай адзінкі. Але 1 мая 1863 г. лагер Лянкевіча нечакана атакавалі ўрадавыя войскі і аддзел „Ляндэра” быў расцярушаны[26]. З рэштками (каля 25 чалавек) Лянкевіч вырушыў у Ваўкавыскі павет для аб’яднання з партызанскім аддзелам Густава Стравінскага (Млотка).

Той факт, што вельмі шмат паўстанцаў паходзіла з мястэчка Азёры, якое належала аднаму з багацейшых памешчыкаў Гродзенскай губерні Леапольду Валіцкаму, паслужыў падставай для арышту апошняга і канфіскацыі яго вялізнага маёнтка. Улады таксама пастанавілі выслаць у Астраханскую губерню 9 сямей з ваколіцы Эйсманты Надтабольскія, размешчанай на ўскрайку Гродзенскай пушчы[27].

Пра непасрэдныя сувязі Станіслава Сільвястровіча з узброенымі аддзеламі паўстанцаў следства ніякіх доказаў знайсці не змагло. Зрэшты, з сялян яго маёнтка Гожа да паўстання ніхто не далучыўся. Пасля ўласнага прызнання Сільвястровіч прасіў змякчыць пакаранне свайму стрыечнаму брату Сігізмунду Урублеўскаму: „*Пусть мне позволено будет просить за моего брата Врублевского, который столь молод, почти ребенок еще, неопытен, что же удивительного, что я успел его увлечь и ввергнуть в пропасть*”[28]. Ён пісаў, што бацька Сігізмунда, справавод дваранскай апекі Антон Урублеўскі, „*мой дядя, и я с малых лет был с ним в самых теплых отношениях*”[29].

Антон Урублеўскі паходзіў са шляхецкай ваколіцы Токары Брэсцкага павета, дзе яму разам з братам належала 27 дзесяцін зямлі. Гэтую зямлю браты здавалі ў арэнду, а самі пасяліліся ў Гродне, дзе ўладкаваліся на дзяржаўную службу. Яшчэ да гэтага Антон Урублеўскі атрымаў адукацыю ў Брэсцкім павятовым вучылішчы. Пазней ён купіў драўляны дом у Гродне.

Захаваўся службовы атэстат чыноўніка Антона Казіміравіча Урублеўскага за 1852 г.[30] Ён тады служыў сакратаром гродзенскага совеснага суда, а пасля ліквідацыі гэтай установы быў залічаны ў штат канцылярыі губернатара. На той час Антону Урублеўскаму было 40 год. У 1845 г. указам Герольдыі яму зацвердзілі дваранскае паходжанне. На службу

26 І. Арамовіч, *Мары. Успаміны аб партызанскім руху ў Гарадзенскім ваяводзтве ў 1863 і 1864 гг.*, „ARCHE-Пачатак”, 2010, № 12, с. 27.

27 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 34, адз. зах. 613.

28 НГАБ у Гродне, ф. 3, воп. 3, адз. зах.1, арк. 118 адв.

29 Тамсама, арк. 245.

30 НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 6, адз. зах. 816, арк. 6–7.

ў гродзенскі совесны суд Урублеўскі паступіў у 1836 г. У 1849 г. ён атрымаў чын тытулярнага саветніка. А ў 1851 г. совесны суд быў ліквідаваны. Урублеўскі атэставаўся як „*способный и достойный*" служачы. Быў у шлюбе з Каралінай Манькоўскай і меў сыноў Вітольда-Адольфа (нар. 17 чэрвеня 1839 г.), Сігізмунда-Фларэнціна (нар. 16 кастрычніка 1845 г.), Эдуарда-Вікенція (нар. 22 студзеня 1848 г.), Цыпрыяна (нар. 6 студзеня 1850 г.), дачку Аліну (нар. 15 студзеня 1852 г.). Старэйшы сын Вітольд на той час навучаўся ў Гродзенскай гімназіі.

Сігізмунд Урублеўскі вучыўся напярэдадні паўстання ў Кіеўскім універсітэце, а калі даведаўся пра яго пачатак, пастанавіў вярнуцца на радзіму, каб прыняць удзел у змаганні. Нягледзячы на сваю маладосць, ён вельмі доўга трымаўся ў турме і адмаўляўся ад дачы паказанняў. Сігізмунд быў арыштаваны ў жніўні 1863 г., а напісаў прызнальныя паказанні толькі 29 красавіка 1864 г. У паказаннях ён таксама патлумачыў прычыны свайго далучэння да падпольнай паўстанцкай арганізацыі: „*Когда возстание вспыхнуло в Царстве Польском, я был в Киеве. Увлеченный столь несбыточными надеждами, которые нас со всех сторон окружали, я намеревался сражаться с оружием в руках, но так как тогда на Украине никаких шаек не было, то я решился уехать на Литву, где, по общей молве, все население возстало.*

*Приехав в Гродно, я в своем предприятии охладел, но все таки намеревался еще отправиться в лес. Но время проходило, а о шайках в окрестностях города не было слышно.*

*Последних чисел месяца апреля или первых чисел мая мой двоюродный брат Станислав Сильвестрович сказал мне, что он Начальник Гродненского уезда, что не имеет времени переписывать бумаг на чисто и предложил мне заняться этим*"[31].

Паводле сабраных следствам доказаў і заключэння часовага палявога аўдытарыята Віленскай вайсковай акругі па Гродзенскай палітычнай арганізацыі, Сільвястровіч на пасадзе гродзенскага павятовага начальніка арганізоўваў у Гродне тайныя сходы, прызначаў людзей на пасады акруговых начальнікаў, прыкладаючы да пісьмовых загадаў сваю пячатку, а таксама арганізаваў раскладку 10%-нага грашовага збору з памешчыкаў на патрэбы паўстання: „*На обязанности Сильвестровича лежала пересылка бумаг от Воеводского начальника к начальникам уездов (…) с другой стороны принимал еженедельные рапорты от окружных вверенного ему уезда о положении возстания и на основании*

[31] Тамсама, арк. 265.

*этих рапортов делал донесения (…) Через имение Сильвестровича было устроено сообщение в Августовскую губернию. Он даже купил для этого пару лошадей"*[32]. 3 ліпеня 1864 г. быў вынесены прыгавор ваенна-палявога суда адносна ўдзельнікаў Гродзенскай паўстанцкай арганізацыі: Эразма Заблоцкага, Баляслава Заблоцкага, Станіслава Сільвястровіча, Юзафа Стравінскага, Адольфа Эйсманта, Сігізмунда Урублеўскага, Ігната Генюша. Адносна Сільвястровіча фармулёўка прысуду выглядала так: *„Помещика Станислава Сильвестровича, 31 год, за служение в той же [рэвалюцыйнай] организации членом и исправление должностей сначала уездного начальника, а потом Воеводского, в четырых уездах, участие в составлении упомянутой раскладки сбора с помещиков чрез подчиненных денег на возстание, предложение имения своего сборным пунктом для первоначального образования шайки, учреждение в этом же имении станции и пересылку чрез оную всех революционных бумаг к другим Уездным Начальникам, личное доставление в Августовский уезд и вообще вредное действие против правительства (…) казнить смертью разстреляянием"*[33].

Да расстрэлу быў прыгавораны таксама былы начальнік Гродзенскага ваяводства Эразм Заблоцкі. Сігізмунда Урублеўскага прысудзілі да 8 гадоў працы на заводах. Але 16 лістапада 1864 г. генерал-губернатар Мураўёў змякчыў прысуд палявога суда. Эразму Заблоцкаму смяротнае пакаранне замянілі на 15 гадоў працы ў рудніках, а Станіславу Сільвястровічу — на 8 гадоў працы на заводах. Сігізмунда Урублеўскага пазбавілі шляхецкіх правоў і выслалі на жыццё ў Табольскую губерню[34]. У 1868 г. Урублеўскі быў амніціраваны і змог выбрацца з Сібіры. Сігізмунд эміграваў у Аўстра-Венгерскую імперыю і быў прыняты на даследніцкую працу ў знакаміты Ягелонскі ўніверсітэт у Кракаве. Урублеўскі стаў сусветна вядомым навукоўцам у галіне хіміі і ў 1883 г. першым у свеце атрымаў звадкаваны азот. Варта дадаць, што яго малодшы родны брат Эдвард Урублеўскі таксама стаў вядомым навукоўцам у галіне фізікі, жыў і працаваў у Пецярбургу[35].

Кім жа быў Станіслаў Сільвястровіч? Як багаты памешчык стаў членам падпольнай арганізацыі, у якой запраўляла радыкальная моладзь? Род Сільвястровічаў асеў на Гродзеншчыне ў канцы XVIII ст. Дзед паўстанца, смаленскі мастаўнічы Юліян Сільвястровіч, 28 сакавіка 1787 г. набыў у Ігната

[32] НГАБ у Гродне, ф. 3, воп. 3, адз. зах. 4, арк. 19.

[33] НГАБ у Гродне, ф. 3, воп. 3, адз. зах. 1, арк. 360–360 адв.

[34] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 34, адз. зах. 1948, арк. 24 адв. — 25.

[35] В. Гапоненка, А. Кіштымаў, *Уладар гранічнага холаду,* Мінск 1995.

Сівіцкага маёнтак Гожа за 98 000 злотых[36]. Даволі падрабязныя звесткі пра сям'ю Сільвястровічаў утрымлівае ліст бацькі Станіслава Яна Сільвястровіча да маршалка шляхты Гродзенскага павета ад 15 лістапада 1849 г.[37]

**Прашэнне Яна Сільвястровіча Гродзенскаму павятоваму маршалку шляхты Ляхніцкаму**

[36] НГАБ у Гродне, ф. 96, воп. 1, адз. зах. 678, арк. 31–31 адв.

[37] НГАБ у Гродне, ф. 92, воп. 1, адз. зах. 209.

У гэтым лісце ён узгадвае пра свайго дзеда Казіміра Сільвястровіча, бацьку Юліяна, мастаўнічага Смаленскага ваяводства, а таксама пра трох родных братоў — Антона, Гілярыя і Казіміра. Антон служыў старшынёй межавога суда Гродзенскай губерні, Гіляры — суддзёй Гродзенскага земскага суда, а Казімір быў адстаўным капітанам Расійскай арміі. Таксама ў прашэнні ўзгадваюцца чатыры сыны Яна Сільвястровіча — Адольф-Карл, Уладзіслаў-Юліян (у пазнейшых дакументах фігураваў як Уладзіслаў), Казімір-Канстанцін (у пазнейшых дакументах фігураваў як Казімір) і наш герой Станіслаў-Антон-Фердынанд (нар. 15 лютага 1833 г.), а таксама дачка Пальміра-Лізавета-Тэрэза, якая выйшла замуж за падпалкоўніка Рыхтара. „*Для исполнения дела о принадлежности рода Сыльвестровичей к Дворянскому состоянию, нужно мне иметь свидетельство в том, что в 1811, 1816, 1817 и в 1834 году род Сыльвестровичей, а именно я ниже подписавшийся, а также дед мой Казимир Михайлович, отец мой Юлиан Казимирович Мостовничий Воеводства Смоленского, также братья мои Антон Председатель Граничного суда Гродненской губернии, Гилярий Судья Земский Гродненского уезда и Казимир отставной Капитан Императорской Российской Армии и наконец сыновья мои Адольф-Карл, Владислав-Юлиан, Казимир-Константин и Станислав-Антон-Фердинанд Сыльвестровичи причислены были к Дворянскому состоянию и что никто из помянутых лиц не был лишен по силе Законов прав Дворянского состояния*”[38].

Гіляры Сільвястровіч памёр 15 ліпеня 1836 г. і не пакінуў нашчадкаў. Яго ўласнасць перайшла да Яна Сільвястровіча[39]. У крыніцах няма таксама звестак пра дзяцей іншых родных братоў Яна Сільвястровіча — Антона і Казіміра. Магчыма, што яны таксама не пакінулі нашчадкаў па мужчынскай лініі. Прынамсі ў 1850-х гадах уладальнікамі маёнтка Гожа афіцыйна лічыліся сыны Яна Казімір і Станіслаў. У спісе шляхты Гродзенскага павета ад 1834 г. былі запісаны „*Иван Юлианов с сыновьями Адольфом, Владиславом, Казимиром и Болеславом*”[40]. Такім чынам, Станіслаў Сільвястровіч там адсутнічаў. Сітуацыю ў лісце да павятовага маршалка ад 1 жніўня 1854 г. патлумачыла „*вдова после Подполковника Французских войск Ивана Сыльвестровича*” Ганна Сільвястровіч, „*урожденная Милейтич*”: „*Муж мой Иван Сыльвестрович в первом браке с Людвигою урожденной Панцержинскою прижил сына Адольфа-Карла*

[38] Тамсама, арк. 6

[39] Тамсама, арк. 2, 4.

[40] Тамсама, арк. 7.

*и дочь Пальмиру-Елизавету-Терезию ныне вдову после Подполковника Рыхтера, во втором же браке со мною четырех сыновей Владислава-Юльяна, Константина-Казимира, Болеслава и Станислава-Антона-Фердинанда. При составлении списка дворян в 1832 году поданы все эти лица кроме самого младшего сына моего Станислава-Антона-Фердинанда, который не мог быть показан по этому списку, потому что родился в 1833 году и по книге 1836 года не значится, потому что эта книга составлена из списков, поданных в 1832 году, т.е. до его рождения. Ходатайство о причислении Болеслава не было принимаемо потому, что он в 1837 году умер*”[41].

Такім чынам, род Сільвястровічаў атрымаў пацвярджэнне шляхецтва ў лістападзе 1817 г. З тлумачэння Ганны Сільвястровіч вынікае, што ад першага шлюбу Яна Сільвястровіча з Людвікай Панцяржынскай нарадзіліся сын Адольф-Карл і дачка Пальміра-Лізавета-Тэрэза, а ад другога шлюбу нарадзіліся сыны Уладзіслаў-Юліан, Казімір-Канстанцін, Баляслаў (рана памёр) і Станіслаў-Антон-Фердынанд[42]. У лісце маршалка шляхты Ашмянскага павета Віленскай губерні да гродзенскага губернатара ад 14 сакавіка 1864 г. паведамлялася, што дваранін Гродзенскага павета Уладзіслаў Сільвястровіч стала пражываў з жонкай Ядвігай, сынамі Чэславам, Рышардам, Станіславам і дачкой Марыяй у Ашмянскім павеце[43]. Уладзіслаў, як і яго браты Казімір і Станіслаў, навучаўся ў Дэрптцкім універсітэце. 22 ліпеня 1842 г. Ян Сільвястровіч напісаў прашэнне да гродзенскага губернатара аб выдачы Уладзіславу пасведчання аб тым, што ён не прымаў удзелу ў паўстанні 1830–1831 гг.[44] Пасведчанне патрабавалася якраз для паступлення ў Дэрптцкі ўніверсітэт. Адносна старэйшага сына Яна Сільвястровіча Адольфа звестак у дакументах мы не знайшлі.

З перапіскі таксама вынікае, што Ян Сільвястровіч быў падпалкоўнікам французскіх войск. Вельмі верагодна, што ён удзельнічаў у вайне 1812 г. на баку Напалеона Банапарта. Падобныя эпізоды на той час сустракаліся ў біяграфіях немалой колькасці шляхцічаў Гродзеншчыны. Прычым гэта пазней не перашкаджала ім займаць высокія пасады ў мясцовых установах. Магчыма таксама, што „французскі” перыяд жыцця бацькі аказаў істотны ўплыў на фармаванне светапогляду Станіслава Сільвястровіча.

41 Тамсама, арк. 15 адв.
42 Тамсама, арк. 15–15 адв.
43 Тамсама, арк. 22–22 адв.
44 НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 3, адз. зах. 1898, арк. 1.



**Пахаванне Яна Сільвястровіча ў вёсцы Гожа Гродзенскага раёна, Беларусь**

Паводле інвентара 1845 г., маёнтак Гожа налічваў 1597 дзес. зямлі, з якіх 312 належала да панскай эканоміі і 995 — сялянам[45]. Прыгонных сялян налічвалася 26 двароў. Яны павінны былі адпрацоўваць 6 дзён паншчыны на тыдзень, а таксама 12 дзён згонаў і 12 дзён шарварку. Матэрыяльны стан сялян выглядаў вельмі добра. Тыповая гаспадарка мела каня, двух валоў, дзвюх кароў, двух цялят, восем авечак і пяць свіней. Можна сцвярджаць, што жыхары Гожы належалі да ліку самых заможных сялян Гродзеншчыны, хаця зямля ў Гожы была дрэннай якасці, але гажанцы прадавалі ў Гродна рыбу і дровы, на чым някепска зараблялі. Напэўна, што і ўладальнікі не імкнуліся выціскаць з іх усе сокі, як часам гэта рабілі іншыя паны ў той час. Пра гэта можа сведчыць і гісторыя з селянінам Ігнатам Юшкевічам, які ў сакавіку 1850 г. звярнуўся да гродзенскага губернатара са скаргай аб няправільным запісе яго ў склад прыгонных сялян маёнтка Гожа. У выніку разбору гэтай справы паліцэйскі спраўнік падаў губернатару наступную інфармацыю: *„Отец Игната Викентий прибыл около 1830 г. из Царства Польского, поселился в имении Гожа, женился на девке сей деревни Барбаре. Викентий умер, а жена опасалась, чтобы малолетнего сына не признали бродягой и просила управляющего Протасевича записать его в сказки имения Гожа. Сильвестрович находился тогда в Вильне на службе в комиссии для разбора долгов князей Радзивилов (…). Помещик Сильвестрович не препятствует Юшкевичу [у яго пошуках свабоды] и просит (…) исключить его из сказок имения Гожи с женою Марианною и сыном Казимиром”*[46].

[45] НГАБ у Гродне, ф. 96, воп. 1, адз. зах. 678.

[46] НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 35, адз. зах. 956, арк. 5–6 адв.

Уладальніку маёнтак Гожа прыносіў 1986 руб. прыбытку ў год. Яго давалі: зерневая гаспадарка — 1 245 руб., лугі — 90 руб., жывёлагадоўля — 50 руб., садаводства — 35 руб., вырошчванне бульбы — 150 руб., корчмы — 400 руб. За вылікам выдаткаў на службу (напрыклад, 60 руб. у год выплочвалася ўпраўляючаму маёнткам) і падаткаў заставалася 1 362 руб. чыстага прыбытку. Ян Сільвястровіч часта браў у арэнднае кіраванне суседнія маёнткі. У 1828 г. у яго ўзнікла спрэчка з уладальнікам Салецкага староства генерал-лейтэнантам расійскай арміі Івановым, камандзірам 19-й пяхотнай дывізіі. Іваноў сцвярджаў, што Ян Сільвястровіч ад 1817 г. арандаваў гэтае староства, *„Высочайше пожалованное Иванову"*, але не выплочваў яму арэндныя грошы. Адстаўны падпалкоўнік Ян Сільвястровіч, які на той момант з'яўляўся ўжо былым засядальнікам 2-га Грамадзянскага дэпартамента Галоўнага губернскага суда і пражываў у Вільні, прэтэнзіі генерала абвяргаў. Магчыма, што ў Вільні і нарадзіўся наш герой Станіслаў Сільвястровіч[47].

З архіўных дакументаў таксама вынікае, што Ян Сільвястровіч даволі часта пазычаў грошы розным асобам. У жніўні 1842 г. ён звярнуўся ў гродзенскае губернскае праўленне з просьбай аб дапамозе ў спагнанні з тагачаснага валынскага губернатара і памешчыка Гродзенскага павета Міхала Анджэйковіча пазыкі ў 3 636 рублёў[48].

На пачатку 1850-х гадоў маёнтак Гожа перажываў цяжкія часы. У 1851 г. гродзенскі земскі спраўнік пісаў губернатару, што сяляне Сільвястровіча не маюць хлеба і *„претерпевают"* голад з прычыны неўраджаю. Становішча сялян спраўнік акрэсліў як *„бедственное"*, вынікам чаго маглі быць эпідэміі і высокая смяротнасць. Дзеля папярэджання гэтага ўлады прадпісалі Сільвястровічам выдаць сялянам пазыку ў выглядзе зерня з запаснога хлебнага магазіна да будучага ўраджаю[49]. Першая палова 1850-х гадоў на Гродзеншчыне адзначалася вельмі неспрыяльнымі кліматычнымі ўмовамі. Сяляне называлі гэтыя гады „мокрымі". Летам выпадалі такія дажджы, што гінулі зерневыя пасевы, а сенажаці затапляла вадой, таму прападала сена. Да таго ж дажджы чаргаваліся з засухамі. У выніку пашырыўся голад, а услед за ім пайшлі эпідэміі тыфу і халеры. Насельніцтва губерні моцна скарацілася.

Магчыма і з гэтых прычын на пачатку 1850-х гадоў Сільвястровічы відавочна сутыкнуліся з матэрыяльнымі праблемамі. 14 мая 1852 г.

47 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 3, адз. зах. 129, арк. 1–18.

48 НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 30, адз. зах. 1977, арк. 1–16.

49 *Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Гродзенскага раёна,* Мінск 1993, с. 55–56.

Казімір Сільвястровіч пазычыў у Прыказе грамадскай апекі 16 800 рублёў на 26 гадоў[50]. На верасень 1864 г. па гэтай пазыцы заставалася сплаціць 9 635 рублёў[51]. Перашкодай для атрымання пазыкі выступаў той факт, што бацька Казіміра Ян 12 студзеня 1849 г. пазычыў 15 000 рублёў у сваёй жонкі Ганны пад забеспячэнне маёнткамі Гожа і Пералом. У студзені 1852 г. Ганна даслала ў павятовы суд ліст, у якім пісала, што сыны Казімір і Станіслаў вінаватыя ёй толькі 6700 руб., і прасіла не лічыць гэты доўг перашкодай для атрымання імі пазыкі[52]. У 1856 г. Прыказ грамадскай апекі ўстанавіў сваю апеку над маёнткам Гожа[53]. Гэта сведчыла пра тое, што Сільвястровічы не былі ў стане спраўна вяртаць пазычаныя грошы. Якраз у тым годзе Казімір Сільвястровіч выходзіць у адстаўку з дзяржаўнай службы. А 24 кастрычніка 1856 г. Сільвястровічы ўзялі яшчэ адну пазыку ў Прыказе грамадскай апекі — на суму 10 290 рублёў тэрмінам на 26 гадоў[54]. Апроч таго, Станіслаў Сільвястровіч яшчэ пазычыў у брата Уладзіслава, які жыў у Ашмянскім павеце Віленскай губерні, 2 000 рублёў[55]. Зрэшты, такая запазычанасць на той час з'яўлялася сярод мясцовых памешчыкаў хутчэй нормай, чым выключэннем.

У выніку арышту Станіслава Сільвястровіча летам 1863 г. маёнтак Гожа быў секвестраваны (накладзены арышт на ўсю маёмасць), а пасля прысуду — канфіскаваны. Прыбыткі з яго цяпер ішлі ў дзяржаўную казну. Маёнтак аддаваўся ў арэнду розным прыватным асобам — у першую чаргу дзяржаўным чыноўнікам. Сярод такіх былі і гродзенскі павятовы лекар Аляксандр фон-Заль, і начальнік канцылярыі губернатара Макарэўскі, які ў снежні 1865 г. вёў перапіску з палатай дзяржаўных маёмасцей аб умовах арэнды[56]. Але канчаткова ў чужыя рукі маёнтак Гожа так і не прадалі, паколькі з гэтым было звязана шмат фінансавых цяжкасцей.

Жонка Станіслава Юстына Сільвястровіч вясной 1865 г. некалькі разоў падавала гродзенскаму губернатару і віленскаму генерал-губернатару пісьмовыя просьбы аб выдачы ёй грашовай дапамогі на ўтрыманне дзяцей з прыбыткаў канфіскаванага маёнтка. Гродзенскі

[50] НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 9. адз. зах. 2233, арк. 55.
[51] НГАБ у Гродне, 10, воп. 3, адз. зах. 299, арк. 430 адв.
[52] НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 9, адз. зах. 2233, арк. 55 адв.
[53] НГАБ у Гродне, ф. 2, воп. 29, адз. зах. 1734.
[54] НГАБ у Гродне, ф. 10, воп. 3, адз. зах. 299, арк. 431.
[55] Тамсама.
[56] А. Вашкевіч, *Дарогаю 1863 г.*, [у:] *Мінулае Гродзеншчыны,* пад рэд. В. Шведа, Гродна 2004, вып. 10, с. 35.

губернатар пісаў у Вільню 27 жніўня 1865 г., што выдача дапамогі сем'ям дапускаецца паводле закона толькі з секвестраваных, але не з канфіскаваных маёнткаў, апроч таго, *„просьба Сильвестровичевой не заслуживает уважения и потому, что по конфискации имения Гожи, она распорядилась вывести тайно некоторые вещи и большею частью оставила в разных местах на сохранении, но действия эти были открыты и все вывезенное имущество отобрано"*[57].

Канфіскацыя маёнтка была для дзяржаўных уладаў насамрэч справай няпростай. Маёнткі Гожа і Пералом непадзельна належалі родным братам Станіславу і Казіміру Сільвястровічам. Казімір звярнуўся да ўладаў з просьбай пакінуць яму абодва гэтыя маёнткі *„до выдела половины, принадлежащей Станиславу, с обязательством выплаты в казну части дохода"*[58]. Аднак гродзенскі губернатар Скварцоў палічыў, што *„по случаю несостоятельности Казимира Сильвестровича не находит возможным предоставить ему в содержание секвестрованных частей брата"*. Казімір толькі атрымаў дазвол *„на жительство"* ў маёнтку Пералом, які застаўся ў яго *„ведении"*, а маёнтак Гожа перайшоў пад непасрэднае кіраванне палаты дзяржаўных маёмасцей. На практыцы гэта азначала, што маёнтак перадаваўся ў арэнду, пераважна дзяржаўным чыноўнікам. Апошнія не лічылі сябе абавязанымі прысвячаць шмат часу гаспадаранню, а тым болей не жадалі ўкладаць у маёнтак якія-кольвек уласныя фінансавыя сродкі. У выніку гаспадарка ўсё болей і болей занепадала. У чэрвені 1867 г. палата дзяржаўных маёмасцей прапанавала перадаць маёнтак Гожа таму ж Казіміру Сільвястровічу з абавязкам выплочваць у дзяржаўную казну частку прыбыткаў, якія прыходзіліся на долю Станіслава. Аднак Казімір 8 ліпеня 1867 г. у пісьмовай форме адмовіўся ад гэтай прапановы[59]. У 1860-ыя і на пачатку 1870-х гадоў Казіміру Сільвястровічу прыходзілася вельмі шмат часу траціць на спрэчкі і судовыя цяжбы з былымі прыгоннымі ў працэсе размежавання зямель сялян і маёнтка.

11 мая 1871 г. прашэнне гродзенскаму губернатару даслала Ядвіга Антонаўна Сільвястровіч — жонка трэцяга брата Станіслава Сільвястровіча Уладзіслава. У гэтым прашэнні яна пісала: *„Решением Гродненской Судебной Палаты, вышедшем в окончательную Законную силу, признан подлежащим удовлетворению с конфискованного*

[57] НГАБ у Гродне, ф.1, воп. 14, адз. зах. 29, арк. 6 адв.

[58] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 14, адз. зах. 1066, арк. 1 адв.

[59] Тамсама, арк. 2.

*у Станислава Сильвестровича имения Гожа долг мужа моего Владислава Иванова Сильвестровича в две тысячи рублей серебром с процентами, который не прежде может быть уплачен, как по окончательному выделу в Казну половины из имений Гожи и Пшелома за Станислава Сильвестровича и продажи той половины. Крайне нуждаясь деньгами покорнейше прошу сделать распоряжение о скорейшем выделе*"[60]. Ядвіга Сільвястровіч на той час пражывала ў горадзе Яраслаўлі. Нам невядома, якім чынам яна там апынулася і ці было гэта звязана з палітычнай дзейнасцю яе мужа. Дарэчы, у пісьме нічога не гаварылася пра яго месцазнаходжанне.

Справа падзелу маёнтка Гожа пасоўвалася вельмі марудна. Міравы пасярэднік 4-га ўчастка Гродзенскага павета пісаў губернатару 17 мая 1871 г.: „*К производству проекта выдела в казну половины из имения Гожа и Перелом я в нынешнем году приступить не могу, ибо местным крестьянам предоставлены б[ывшей]. Поверочной Комиссией большие пространства лесов, которые в настоящее время не могут быть указаны в натуре ни крестьянами, ни помещиком, и за которые у них идут постоянные споры, произвесть же отграничение нельзя, так как выкупные акты еще не утверждены Главным выкупным Учреждением*"[61]. У выніку справа гэтая падвісла ў мёртвай кропцы. Да таго ж брат Станіслава Казімір пастанавіў з часам вярнуцца на дзяржаўную службу. 10 кастрычніка 1874 г. ён падаў прашэнне да гродзенскага губернатара, дзе акрэсліў сваё жаданне „*определиться в государственную гражданскую службу в Великороссийских губерниях*"[62]. Паліцэйскі спраўнік Гродзенскага павета выдаў Сільвястровічу пасведчанне, што „*он к бывшим в 1863 — 1864 годах политическим беспорядкам прикосновенен не был и в политическом отношении благонадежен*"[63]. Нам невядома, ці паступіў Казімір Сільвястровіч на службу ў „*Вялікарасійскія*" губерні, але ў матэрыялах справы аб спадчыне маёнтка Гожа ён ужо болей не фігураваў. З дакумента 1885 г. вынікае, што Казімір Сільвястровіч у красавіку таго года перадаў паўнамоцтвы на кіраванне маёнткам Пералом нейкаму Уладзіславу Хлюдзінскаму. Сам жа ён у той час пражываў у горадзе Сувалкі Польскага Каралеўства[64], дзе, магчыма, знаходзіўся на дзяржаўнай службе.

---

60 Тамсама, арк. 9.

61 Тамсама, арк. 10.

62 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 7, адз. зах. 963, арк. 1.

63 Тамсама, арк. 2.

64 НГАБ у Гродне, ф. 10, воп. 3, адз. зах. 299, арк. 785 адв.

10 жніўня 1878 г. гродзенскі губернатар атрымаў ліст ад віленскага генерал-губернатара, у якім апошні пісаў пра атрыманую ім пісьмовую просьбу Юстыны Сільвястровіч. Яна прасіла дазволіць вярнуцца на радзіму мужу Станіславу альбо хаця б дазволіць яму пражыванне ў Пскоўскай губерні. Юстына паведамляла, што яна хварэе на сухоты і не ў стане знайсці сродкі на выхаванне дзяцей. Муж пражываў на той момант у горадзе Ядрын Казанскай губерні і, як пісала Юстына, *„не может в месте высылки приискать занятий, которые могли бы обеспечить существование его семейства”*[65]. Губернатар адпісаў у Вільню, што *„просительница проживает в Волынской губернии и в Гродно имущества не имеет”*. Такім чынам, ён паспрабаваў адмахнуцца ад гэтай справы.

Тады сам Станіслаў Сільвястровіч падаў хадайніцтва аб дазволе яму прыехаць у Гродзенскую губерню на 6 месяцаў *„для свидания с женою и детьми, а равно устройства хозяйства и приведения его в порядок от обременительных долгов”*[66]. Паліцэйскі спраўнік Гродзенскага павета падаў губернатару інфармацыю пра стан сям'і Сільвястровічаў: *„Станислав Сильвестрович имеет жену, проживающую в имении Гожа, и двух сыновей, воспитывающихся в Гродненской и Люблинской гимназиях. Его имение находится в неудовлетворительном состоянии, так как в нем нет живого инвентаря и хозяйственно-земледельческих орудий, и, кроме того, обременено долгами. Жена Сильвестровича будучи болезненною до того, что едва ходит, не может приискать способа, чтобы мало-мальски поправить хозяйство”*[67]. Гродзенская дваранская апека таксама падала сумную карціну становішча маёнтка Гожа: *„На основании Высочайшего повеления 3 февраля 1874 г. имение Гожа освобождено от конфискации и передано в ведение опеке до разрешения вопроса права собственности. Из описи 25 мая 1875 г. видно, что все строения требуют капитальных починок, скота во все не имеется в имении, а дохода показано 457 рублей”*[68]. Апека прызнала 21 верасня 1876 г. спадчыннікамі маёнтка сыноў Станіслава Сільвястровіча Фелікса і Станіслава з выдзелам іх маці Юстыне 1/7 часткі нерухомай і ¼ часткі рухомай маёмасці з прызначэннем яе апякункай непаўналетніх сыноў. На той момант маёнтак Гожа быў закладзены ў Санкт-Пецярбургу ў „сохранной казне” і за ім лічылася 4 217 руб.

65 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 7, адз. зах. 2631, арк. 1.

66 Тамсама, арк. 7.

67 Тамсама, арк. 8–8 адв.

68 Тамсама, арк. 12.

нявыплачаных пазыкаў[69]. У выніку гэтай перапіскі ў лістападзе 1878 г. віленскі генерал-губернатар дазволіў Сільвястровічу прыехаць на чатыры месяцы ў Гродзенскую губерню. Такім чынам, 9 снежня 1878 г. Станіслаў пасля 15 гадоў вымушанай адсутнасці вяртаецца ў Гожу і сустракаецца са сваімі роднымі.

Гродзенскі павятовы спраўнік, які павінен быў назіраць за былым паўстанцам, пісаў губернатару: *„(…) я имел случай беседовать с Сильвестровичем, убедился в трезвом его взгляде на предмет заблуждения, в котором он жестоко пострадал”*[70]. 1 лютага 1879 г. Юстына Сільвястровіч падала прашэнне губернатару з просьбай вызваліць мужа ад паліцэйскага нагляду, што дазволіла б яму *„приискать себе в Царстве Польском или в другой местности Российской Империи средств для содержания семейства и обеспечения образования детям”*[71]. А 28 лютага ўжо сам Станіслаў падаў прашэнне, у якім прасіў дазволіць яму яшчэ на 4 месяцы застацца на радзіме. У выніку яго побыт у Гродзенскай губерні быў падоўжаны на 4 месяцы, да 9 жніўня 1879 г. З гэтага ліста таксама вынікала, што Сільвястровіч знаходзіўся на жыхарстве ў Казанскай губерні з 1875 г. 30 мая 1879 г. ён напісаў новае прашэнне губернатару, у якім прасіў дазволу перасяліцца ў Люблінскую губерню Царства Польскага, *„где, имея родных, я мог бы скорее найти себе частную службу и средства для обеспечения быта моему семейству”*[72]. Але на гэтую просьбу ён атрымаў адмову.

7 ліпеня 1879 г. Сільвястровіч зноў прасіў дазволу застацца яшчэ на чатыры месяцы ў Гродзенскай губерні. Генерал-губернатар Пётр Альбядзінскі дазвол даў, але пры гэтым прадпісаў гродзенскаму губернатару ў снежні 1879 г. выслаць Сільвястровіча ў Казанскую губерню. Сільвястровіч працягваў змагацца за побыт на радзіме і 8 лістапада прасіў не высылаць яго ў Казань, паколькі, як тлумачыў у хадайніцтве, ён напісаў казанскаму губернатару ліст з просьбай аб перасяленні ў Пскоўскую губерню і *„получил уже известие, что могу иметь надежду на благополучную резолюцию”*[73]. Таксама прасіў гродзенскага губернатара дазволіць застацца яшчэ хаця б на два месяцы, каб падзяліць маёнтак Гожа паміж жонкай і сынамі. Паліцэйскі земскі спраўнік назваў просьбу Сільвястровіча *„уважительной”*. У выніку

[69] Тамсама, арк. 12 адв.
[70] Тамсама, арк. 13.
[71] Тамсама, акр. 23 адв.
[72] Тамсама, арк. 32 адв.
[73] Тамсама, арк. 44 адв.

генерал-губернатар Альбядзінскі ізноў дазволіў. 6 сакавіка 1880 г. гродзенскі паліцмайстар паведаміў губернатару, што Station Станіслаў Сільвястровіч 5 сакавіка выехаў у горад Ядрын Казанскай губерні[74]. Такім чынам, амаль 18 месяцаў яму ўдалося пабыць у родным доме. А 7 ліпеня 1880 г. Міністэрства ўнутраных спраў паведаміла пра тое, што хадайніцтва Сільвястровіча аб пераездзе ў Люблінскую губерню *„признано не подлежащим удовлетворению”*[75].

Аднак пазней Сільвястровічу ўсё ж удалося перабрацца бліжэй да радзімы. 18 лістапада 1894 г. Міністэрства ўнутраных спраў запатрабавала ад губернатараў звесткі пра ўдзельнікаў паўстання 1863 г., якім *„даровано освобождение от полицейского надзора с восстановлением с законными детьми в прежних правах происхождения”*[76]. 16 лютага 1895 г. кіеўскі губернатар напісаў да гродзенскага калегі ліст з інфармацыяй пра Станіслава Сільвястровіча: *„Проживающий в с. Городищах-Пустоваровских Сквирского уезда Станислав Иванов Сильвестрович заявил, что он уроженец с. Гожа Гродненского уезда, происходит из потомственных дворян Гродненской губернии, был лишен всех прав и преимуществ и сослан в каторжные работы на 8 лет. В 1866 г. срок был сокращен на половину. В 1883 г. он отправился в Казань. Там был освобожден от полицейского надзора с дозволением повсеместного в империи жительства, за исключением столиц, Северо и Юго Западного края. В силу ж всемилостивейшего манифеста 15 мая 1883 г. это ограничение было отменено”*[77].

Кіеўскі губернатар прасіў гродзенскага калегу прадставіць звесткі пра паходжанне Станіслава Сільвястровіча і пра яго сям'ю. Гродзенскі губернатар, у сваю чаргу, звярнуўся да віленскага генерал-губернатара, паколькі, як сцвярджаў у сваім пісьме, усе справы Сільвястровіча былі перададзены ў Вільню. 17 красавіка 1895 г. адтуль прыйшоў адказ: *„Сильвестрович был начальником Гродненского уезда, а потом начальником воеводства с действительным участием в главных распоряжениях по организации* (паўстанцкай — А. В., С. Т.). *Бывший Виленский полевой Аудиториат за такие деяния полагал казнить Сильвестровича смертию — разстрелянием, но конфирмацией Муравьева 12 ноября 1864 г. взамен смертной казни сослать его в каторжную*

74 Тамсама, арк. 59.

75 Тамсама, арк. 62–62 адв.

76 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 24. адз. зах. 1721, арк. 1.

77 Тамсама, арк. 1–2.

*работу на заводах на восем лет*”[78]. У выніку Сільвястровіч апынуўся ў Сібіры, дзе ў 1866 г. „*по делу о возмущении на Кругобайкальской дороге, определен был по приговору полевого военного суда в сильном подозрении и на основании законов подвергнут был содержанию в оковах и отряде испытуемых в течении одного года*”[79].

Такім чынам, пасля бунту катаржнікаў Сільвястровіч цэлы год вымушаны быў працаваць у кайданках. Але на падставе царскага загада ад 25 мая 1868 г., які датычыў паўстанцаў 1863 г., Сільвястровіч „*был уволен от работы с перечислением в разряд сосланных на житие*”. А паводле падобных загадаў ад 13 мая 1871 г. і ад 9 студзеня 1874 г. — „*возстановлен в прежних правах состояния с правом переместиться во внутренние губернии России*”[80]. Гэта значыла, што Сільвястровічу вярталіся дваранскае званне і адпаведныя прывілеі. Што ж датычыла паходжання Сільвястровіча, дык Гродзенскі дваранскі дэпутацкі сход адказаў на запыт губернатара, што „*по причине пожара в Гродне 29 мая 1885 г. истреблены все дела и дворянский архив сего собрания, а в том числе и дело о дворянстве рода Сильвестровичей*”[81]. Гэта была няпраўда, паколькі справа аб шляхецтве Сільвятровічаў захоўваецца і па сённяшні дзень у архіве Гродзенскага дваранскага сходу. Такім чынам, гэтую справу альбо не змаглі, альбо не пажадалі адшукаць. 17 мая 1895 г. губернатар адаслаў усю гэтую інфармацыю ў Кіеў. Гэта была апошняя справа пра Станіслава Сільвястровіча, якая захавалася ў губернатарскім архіве.

Нам невядома, ці ўдалося Станіславу Сільвястровічу вярнуцца на радзіму. Таксама няма звестак пра дату і месца яго смерці. Але маёнтак Гожа захаваўся ва ўласнасці яго сыноў. З дакументаў вынікае, што 13 лістапада 1897 г. уласнікам маёнтка Гожа стаў лекар Фелікс Сільвястровіч, сын Станіслава[82]. Уладальнікамі ж маёнтка Пералом у 1903 г. былі Баляслаў Сільвястровіч і Марыя Гяйбовіч, дзеці Казіміра Сільвястровіча[83].

У матэрыялах пра выбары дэпутатаў Дзяржаўнай Думы Расійскай імперыі за 1909 г. захаваліся звесткі пра ўладальнікаў маёнткаў Гродзенскай губерні. Паводле гэтых дадзеных, уладальнікамі маёнтка

78 Тамсама, арк. 5–5 адв.

79 Тамсама, арк. 5 адв.

80 Тамсама.

81 Тамсама, арк. 7.

82 НГАБ у Гродне, ф. 10, воп. 3, адз. зах. 299, арк. 790.

83 Тамсама, арк. 791.

Гожа на той час з’яўляліся сыны паўстанца Станіслаў і Фелікс Сільвястровічы. Прычым у дакуменце быў допіс, што Станіслаў на той момант ужо памёр. Фелікс жа Сільвястровіч у Гожы стала не пражываў, а працаваў лекарам у Мінску. Уладальніцай маёнтка Пералом пазначана ў гэтым дакуменце Марыя Сільвястровіч-Гяйбовіч. У 1913 г. Станіслава Ігнацьеўна Сільвястровіч, якая, напэўна, была жонкай ці Станіслава, ці Фелікса, запрасіла ў дзяржаўным банку крэдыт на развіццё маёнтка Гожа. Як вынікае з апісання маёнтка, зробленага супрацоўнікам банка, ён знаходзіўся ў добрым стане: *„все хозяйство ведется очень умело”*. Адносна самой Станіславы Сільвястровіч гэты супрацоўнік адзначыў, што *„пользуется репутацией честной, энергичной и аккуратной помещицы”*[84]. Ёй быў выдадзены крэдыт на суму 2500 руб. Такім чынам, нягледзячы на ўсе драматычныя падзеі 1860-х гадоў, маёнтак Гожа застаўся ва ўласнасці нашчадкаў Станіслава Сільвястровіча, якія здолелі пасля доўгага заняпаду зноў зрабіць яго паспяховай гаспадаркай.

Што ж паслужыла прычынай авантурнага, з пункту гледжання большасці сучасных яму памешчыкаў, рашэння Сільвястровіча прыняць чынны ўдзел у паўстанні, за што прыйшлося яму заплаціць вялікі кошт? Галоўную ролю, як нам уяўляецца, адыгралі асабістыя чалавечыя якасці і маральныя ідэалы Станіслава. Можна меркаваць, што ён прытрымліваўся вельмі ліберальных як для тагачаснага землеўладальніка палітычных і сацыяльных поглядаў. Напэўна, на фармаванне гэтых поглядаў паўплывала гісторыя яго сям’і, сяброўскае акружэнне ў гімназіі ў Мітаве і ў Дэрптцкім універсітэце. Можна таксама меркаваць, што кіраванне гаспадаркай маёнтка не задавальняла яго амбіцый, і вольны час Сільвястровіч прысвячаў размовам з радыкальнай гродзенскай моладдзю і абмеркаванню палітычных і сацыяльных праблем свайго краю. У кожным разе ён свядома зрабіў свой выбар, за які дорага заплаціў. Падчас следства і на сібірскай катарзе Станіслаў Сільвястровіч, як можна меркаваць на падставе гістарычных дакументаў, паводзіў сябе вельмі годна і мужна, кіруючыся высокімі маральнымі стандартамі, якім ён, наколькі сведчаць гістарычныя крыніцы, ніколі не здрадзіў.

84 НГАБ у Гродне, ф. 27, воп. 1, адз. зах. 656, арк. 7, 8.

## Streszczenie

Andrei Waszkiewicz, Siarhei Tokć, *Od Hoży do Bajkału: dramatyczne losy grodzieńskiego powstańca Stanisława Sylwestrowicza*

W niniejszym artykule autorzy wykorzystując metodę biograficzno-historyczną podjęli próbę przedstawienia przyczyn dołączenia do powstania styczniowego zamożnego posiadacza ziemskiego z powiatu grodzieńskiego Stanisława Sylwestrowicza oraz skutków tej decyzji dla niego samego i jego rodziny. Stanisław Sylwestrowicz wyróżniał się wśród miejscowych ziemian liberalnymi poglądami politycznymi, co więcej wywoływał niezadowolenie swego środowiska korzystnymi dla chłopów warunkami znoszenia pańszczyzny. Takie podejście zbliżyło go do rewolucyjnie nastawionej młodzieży grodzieńskiej. Gdy wybuchło powstanie, Stanisław Sylwestrowicz zgodził się objąć w podziemnej administracji stanowisko naczelnika powiatu grodzieńskiego. W areszcie wykazał się niezłomnością i nie wydał nikogo ze swych towarzyszy z podziemia. Na syberyjskiej katordze Sylwestrowicz dołączył do buntu więźniów, za co został ukarany rocznym nakazem pracy w kajdanach. Dopiero w 1888 r. mógł na krótko powrócić do rodzinnego majątku by spotkać się z rodziną. Z pewnością na formowanie jego poglądów wpłynęły historia rodziny, postawa przyjaciół z gimnazjum w Mitawie i na uniwersytecie w Dorpacie. Można przypuszczać, że zarządzanie majątkiem nie spełniało jego ambicji i dlatego wolny czas spędzał na rozmowach z przedstawicielami radykalnej inteligencji, podczas których omawiali polityczne i społeczne problemy swego kraju. W 1863 r. świadomie dokonał wyboru, który wiele go kosztował. Podczas śledztwa i na syberyjskiej katordze Stanisław Sylwestrowicz, jak można wnioskować na podstawie dokumentów historycznych, zachował postawę pełną godności i męstwa, kierując się wysokimi standardami moralnymi, których nigdy nie zdradził.



## Abstract

Andrey Washkewich, Sergei Tokc, *From Gozha to Baikal: dramatic destiny of Grodno`s rebel Stanislav Silviastrovich*

In this article the authors try to find out the reasons of Stanislau Silvestrovich`s (a wealthy landowner of Hrodna district accession to the revolt in 1863, and the consequences of this choice for the hero himself and his family, on the basis of using the historical-biographical method. Stanislau Silviastrovich stood out among local landowners for his liberal political views and even caused general dissatisfaction in his own environment due to his

favorable conditions for the peasants to be liberated from serfdom. This brought him closer to the revolutionary youth of Grodno. When the revolt broke out, Stanislau Silviastrovich agreed to take the position of the head of the Hrodna district in the underground organization. After his arrest, he showed extraordinary tenacity and did not betray any of his underground comrades. In the Siberian hard laborcamp, Silviastrovich also joined the rebellion of convicts, for which he was forced to work in handcuffs for a whole year. In 1888 he was able to return to his native estate for some time and meet with his family. Probably, his family history, a friendly environment at the gymnasium in Mitau and at the University of Dorpat (Derpt) influenced the formation of his views. It can also be assumed that the management of the estate did not fully satisfy his ambitions and Silvestrovich devoted his free time to conversations with the radical intelligence and to discuss the political and social problems of his region. Generally, in 1863 he consciously made his choice, for which he paid dearly. During the investigation and in the Siberian hard labor camp, Stanislav Silvestrovich, as can be seen from historical documents, behaved very dignified and courageous, guided by high moral standards, which he did not betray.

**Іна Соркіна**
**(Варшава/Гродна)**

# *„Важакамі натоўпу былі жанчыны”:* жаночы фактар у змаганні капылян за свабоду і зямлю ў XIX ст.

Сённяшні горад Капыль, цэнтр Капыльскага раёна Мінскай вобласці, у XIX ст. быў невялікім мястэчкам Слуцкага павета, аддаленым ад бойкіх гасцінцаў, буйных рэк і чыгуначных магістралей. Аднак жыццё капылян, паводле выяўленых архіўных крыніц, было бурлівым, насычаным драматычнымі падзеямі, звязанымі з упартым змаганнем на працягу канца XVIII —XIX ст. за вяртанне страчанай свабоды і зямлі.



**Мястэчка Капыль, Слуцкі павет**

Адным з негатыўных наступстваў далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі было скасаванне Магдэбургскага права. Жыхары хрысціянскага веравызнання большасці мястэчак, якія раней знаходзіліся на становішчы „местаў” і якія гарадскіх правоў у Расійскай імперыі не атрымалі, былі запрыгонены: страцілі статус мяшчан і былі пераведзены ў катэгорыю прыгонных сялян. Такі лёс напаткаў і капылян. Прывілей на Магдэбургскае права быў нададзены Капылю вялікім князем літоўскім і каралём польскім Янам Казімірам Вазай 27 жніўня 1652 г. (па просьбе

ўладальніка мястэчка князя Багуслава Радзівіла). У 1795 г. падчас рэвізіі (перапісу насельніцтва) мяшчане-хрысціяне Капыля былі запісаны прыгоннымі. Гэта выклікала моцнае супрацьдзеянне з боку капыльскай мяшчанскай грамады. Капыляне намагаліся вярнуць асабістую свабоду (страчаны мяшчанскі статус) і права на зямлю (пры правядзенні валочнай памеры ў сярэдзіне XVI ст. мястэчкі атрымалі ад дзяржавы пэўную колькасць зямлі, якую мяшчане лічылі сваёй уласнасцю). Гістарычнымі крыніцамі для рэканструкцыі гэтага змагання сталі дакументы Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Вільні і Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Мінску. Архіўныя матэрыялы яскрава сведчаць, што барацьба за свабоду і зямлю стала сямейнай справай жыхароў Капыля: побач з мужчынамі былі іх жонкі, а пры вулічным супрацьстаянні з паліцыяй жанчыны нават былі наперадзе.



**Матэрыялы аб судовым працэсе паміж Радзівілаўскай масай і жыхарамі мястэчка Капыль у XIX ст. (Lietuvos valstybės istorijos archyvas, f. 459, ap. 1, b. 4035)**

У выніку шматлікіх скаргаў і прашэнняў, доўгай судовай цяжбы, якая расцягнулася на чвэрць стагоддзя, капылянам удалося дамагчыся ў 1833 годзе прызнання іх асабіста вольнымі, але зямля заставалася ўласнасцю памешчыка — графа Льва Вітгенштэйна, які стаў уладальнікам

Капыля ў 1832 г., пасля смерці жонкі Стэфаніі Радзівіл[1]. Капыляне з гэтым не пагадзіліся і працягнулі барацьбу. Зацятасць, з якой мяшчане змагаліся за волю і зямлю, веданне імі сваіх правоў, валоданне даўнімі дакументамі (нягледзячы на амаль пагалоўную непісьменнасць), сведчаць аб добрым узроўні самаацэнкі капылян, высокім развіцці грамадскай актыўнасці. У дакументах, якія адлюстроўваюць гэтыя старонкі гістарычнага мінулага Капыля, узгадваюцца імёны актывістаў дадзенага змагання: прадстаўнікоў капыльскіх мяшчанскіх родаў Малевічаў, Гурло, Жылуновічаў, Шкілевічаў, Рубісаў, Радзечкаў, Татарынчыкаў, Чарнушэвічаў, Зарамбоўскіх, Дземідовічаў, Красуцкіх ды інш. Вельмі актыўнымі ў гэтай барацьбе былі і капыльскія жанчыны, асабліва ў час адкрытага супрацьстаяння і вулічных сутычак з прадстаўнікамі ўладаў і адміністрацыі памешчыка. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захаваліся дакументы, якія праліваюць святло на пратэставыя настроі і дзеянні жыхароў Капыля ў 1852, 1869, 1878 і 1892 гадах.

У кастрычніку 1852 г. мясцовыя чыноўнікі вялі следства па справе аб *„буйстве і свавольстве капыльскіх мяшчан супраць уладальніка князя Вітгенштэйна”*, якое распачалося пасля скаргі паверанага князя Вітгенштэйна надворнага саветніка Яманта на самавольныя парубкі, што рабіліся капыльскімі мяшчанамі ў лясах, а таксама на гвалтоўнае адабранне імі ў сялян князя агародаў, палёў і сенажацяў. Было арыштавана 5 чалавек. Зачыншчыкаў, сярод якіх найбольш актыўным быў Павел Дземідовіч, перадалі ў Слуцкі гарадавы магістрат. Аднак там прынялі рашэнне аб іх вызваленні, пакінуўшы пад наглядам паліцыі, і тым далі магчымасць, як адзначана ў чыноўніцкай перапісцы па гэтай справе, *„вярнуўшыся на месца жыхарства, зноў пасяліць беспарадкі паміж капыльскімі мяшчанамі, якія ўхіляюцца ад плацяжу аброку за землі”*[2].

„Гарачым” на драматычныя падзеі было для капылян лета 1869 г. 30 чэрвеня гэтага года ў паліцэйскім упраўленні была прынята пастанова аб вопісе маёмасці мяшчан для пакрыцця стратаў эканоміі памешчыка — князя Вітгенштэйна, а таксама аб недазволенасці карыстацца самавольна засеянымі палямі і агародамі. У пачатку ліпеня ў Капыль для апісання маёмасці капылян прыбыў Шацінскі, які пазней быў ахарактарызаваны ў чыноўніцкай перапісцы як *„недастаткова цвярозы і даволі грубага*

[1] Падрабязна пра гэта гл.: І. Соркіна, *Змаганне мяшчанскай грамады Капыля за свабоду і зямлю ў XIX ст.*,: [у] *Капыль і магдэбургскае права: нарысы гісторыі горада XIV–XIX ст.* / А. Доўнар, С. Сергачоў, А. Скеп’ян [і інш.]; пад рэд. І. Соркінай. Гродна 2012, с. 132–159.

[2] *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі* (далей — НГАБ), ф. 175, воп. 1, адз. зах. 163. *Перапіска па справе капыльскіх мяшчан-хрысціян з князем Вітгенштэйнам аб землях*, арк. 7, 16–19.

*нораву*", а дзеянні яго былі прызнаныя „*нетактоўнымі і з відавочнымі адступленнямі ад закону*"[3]. У час правядзення вопісу маёмасці капыльскіх мяшчан адбываліся вулічныя бойкі, у якіх нароўні з мужчынамі ўдзельнічалі і жанчыны. Агульнымі намаганнямі капыляне здолелі адбіць у паліцэйскіх арыштаванага старасту Ігната Татарынчыка, якога змясцілі ў доме Клейнбарта (на Рынку): „*Пачалася мітусня паміж мяшчанамі, хтосьці ўдарыў у царкоўны звон, і цэлы натоўп, у большасці жанчыны, з крыкамі рушыў да дома Клейнбарта, патрабуючы выдачы старасты*". Шацінскаму прыйшлося паклікаць на дапамогу казакоў. Пры апісанні маёмасці Антона Чарнушэвіча і спробе забраць у яго каня зноў мяшчане па ўдары ў звон сабраліся разам, каб даць адпор: „*Збегся цэлы натоўп мяшчан, і завязалася бойка, у якой казакі ўжылі нагайкі, збівалі Антона Чарнышэвіча, а яго жонку адштурхнулі і кінулі на зямлю; казакам таксама даставаліся ўдары ад мяшчан. Калі ж конь быў адабраны і натоўп разышоўся, то на месцы бойкі засталіся ў непрытомным стане дзве жанчыны: Кацярына Малюковіч і жонка мешчаніна Кандрата Мароза. Станавы прыстаў, які падаспеў да канца бойкі, сам адліваў гэтых жанчын вадою і на падводзе развёз іх па хатах*"[4].

Яшчэ адно сутыкненне адбылося на падворку Сафрона Чыпуля, што жыў на Свержаньскай вуліцы (зараз вуліца К. Маркса). З-за адсутнасці ў яго маёмасці паліцэйскія пачалі разбураць хату. Яны ўжо раскідалі страху, а потым узяліся расцягваць бярвенні. Пётр Гурло, Прохар Дзямідовіч і Аляксандр Зарамбоўскі кінуліся да царквы і ўдарылі ў званы. Збегліся людзі. Пачалася бойка.



**Капыль. Каля Вазнясенскай царквы. 1913 год**

Пасля завяршэння апісання маёмасці капылян на чарзе было выкананне прадпісання паліцэйскага ўпраўлення не дазваляць мяшчанам збору збожжа з палёў, гародніны — з агародаў. Капылянам было абвешчана, што ўраджай з самавольна засеяных зямель будзе сабраны адміністрацыяй князя пад кантролем паліцыі. Мяшчане аднагалосна заявілі, што яны гэтага не дапусцяць.

[3] НГАБ, ф. 295, воп. 1, адз. зах. 2025. *Справа аб непаслушэнстве капыльскіх мяшчан Слуцкага павета ўладам пры спагнанні з іх чыншу за землі князя Вітгенштэйна*, арк. 92 адв.

[4] Тамсама, арк. 93–95.

25 ліпеня 1869 г. у Капылі адбыліся падзеі, пра якія мінскаму губернатару Ягору Касінаву слуцкі спраўнік рапартаваў тэлеграмай: *„Пыстаў 3 стана, даведаўшыся, што жанчыны спяшаюцца на поле, каб зжаць арыштаваны хлеб, адправіўся для складання пра тое акта (разам са служачым княжацкай адміністрацыі Траццяковым, панятымі і староннімі сведкамі). Заўважыўшы пыстава, жанчыны, што жалі жыта, сталі сыходзіць. Мяшчане, якія былі ў засадзе, выскачылі з каламі, напалі на тых, хто прыйшоў, збілі панятых, тысяцкіх, асабліва трох казакоў, якія кватаравалі ў мястэчку. Пыстаў з Траццяковым і казачым афіцэрам паспелі з'ехаць на падводзе”*[5]. Гэтая бойка адбывалася на палетку, што знаходзіўся на Нясвіжскім тракце „за крыжамі”.



**Капыль у канцы 1930-х гг. Здымак з боку в. Каменшчына**

Улады вымушана пайшлі на саступкі: мяшчанам дазволілі самім сабраць ураджай. Але актывісты пратэстаў былі пакараныя. У Капыль з дазволу віленскага генерал-губернатара былі накіраваны дзве сотні Данскога казацкага палка. Два месяцы працавала следчая камісія па справе *„аб буйствах капыльскіх мяшчан”*. Пастановай гэтай камісіі ад 18 верасня 1869 г. да зняволення ў слуцкім турэмным замку былі прысуджаны галоўныя абвінавачаныя: мяшчане Аляксандр Зарамбоўскі, Васіль Малюкевіч, Сафрон Чыпуль, Пётр Гурло, Прохар Дземідовіч і Ларыён Красуцкі[6]. Меней вінаватымі прызналі яшчэ 27 мяшчан, якія

[5] Тамсама, арк. 1–1 адв.

[6] Тамсама, арк. 52.

патрапілі пад нагляд паліцыі[7]. Справу перадалі на разгляд Мінскай палаты крымінальнага і грамадзянскага суда.

Аднак судовы пераслед не спыніў змагання капылян за зямлю. Пра гэта сведчыць, у прыватнасці, рапарт слуцкага павятовага спраўніка губернатару Валерыю Чарыкаву ад 28 лістапада 1878 г.: *„Судовы прыстаў з'езда міравых суддзяў Слуцкай акругі Жукоўскі, прыводзячы ў выкананне (…) судовае рашэнне аб аднаўленні правоў валодання зямлёю князя Вітгенштэйна, парушанага мяшчанамі Капыля, сустрэў з іх боку супраціў. Калі Жукоўскі з прыставам 3-га стана пайшлі па дамах для ўручэння мяшчанам пазоваў, то знайшлі дамы замкнёнымі (…). Мяшчане сабраліся на вуліцах са сваімі жонкамі, узброіліся некаторыя палкамі, кінуліся да іх, кідаючы ў іх кавалкамі памерзлай зямлі і наносячы ўдары палкамі (…)"*[8].

У паліцэйскім рапарце мінскаму губернатару Мікалаю Трубяцкому аб падзеях у Капылі ад 28 кастрычніка 1892 г., калі з дапамогай паліцыі з мяшчан Капыля спрабавалі спагнаць 300 рублёў за неаплачаны чынш за зямлю, паведамлялася: *„Калі падышлі да дома Герасіма Красуцкага, то ён быў зачынены, і тут жа сабраўся натоўп каля 300 чалавек, наперадзе былі жанчыны, якія з крыкамі і пагрозамі забаранілі ўвайсці ў дом Красуцкага. Пазбягаючы гвалту, судовы прыстаў, паліцыянты і панятыя адправіліся ў іншы дом, Юстына Бычынскага, але калі ўвайшлі ў двор, натоўп разламаў агароджу, расхапаў калы і стаў пагражаць бойкай (…). Важакамі натоўпу былі: Леон і яго жонка Ганна Радзечкі, Алена Чарнушэвіч, Віктар Шкурынскі, Ульяна Татарынчык, Ксенія Радзечка, Адар'я Гурло, Фаіна Дземідовіч, Ганна Пашкевіч, Марына Чарнушэвіч, Ірына Зарамбоўская, Марыя Праташчык"*[9]. Як бачым, лідарамі гэтага пратэсту выступілі жанчыны.

Надзвычай цікавую характарыстыку мяшчанам Капыля даў у рапарце мінскаму губернатару камандзіраваны з Мінска ў мястэчка чыноўнік губернскага праўлення Касакоўскі. Паводле яго меркавання, *„толькі меншая частка капылян — добрасумленныя і сціплыя людзі, астатнія ж — шалёныя, дамагальныя, хітрыя…"*. Гэтую „шалёную" большасць чыноўнік падзяліў на тры часткі: *„хадакі"*, *„запявалы"* і *„натоўп"*. Хадакі непасрэдна былі заняты справамі вырашэння шматгадовай спрэчкі паміж мяшчанамі і памешчыкам. Запявалы — пасярэднікі паміж хадакамі і натоўпам. Хадакі

7 Тамсама, арк. 53–54.

8 НГАБ, ф. 242, воп. 1, адз. зах. 1902. *Справа па рапарце слуцкага павятовага спраўніка аб непаслушэнстве мяшчан м. Капыль пры выдаленні іх з арандуемых імі ў памешчыка Вітгенштэйна зямель. 1878–1879 г.*

9 НГАБ, ф. 295, воп. 1, адз. зах. 5380. *Рапарт слуцкага павятовага спраўніка аб супраціўленні жыхароў м. Капыль, аказаным уладам пры прывядзенні ў выкананне судовых рашэнняў. 1892 г.*

і запявалы знаходзіліся на поўным забеспячэнні грамады. Асобы, якія былі згодны падпарадкавацца начальству, не адважваліся выступіць адкрыта супраць агульнай стратэгіі і тактыкі, бо баяліся помсты грамады[10]. Прыведзеныя Касакоўскім факты сведчаць пра высокую ступень самаарганізацыі мяшчанскай грамады Капыля ў барацьбе за свае правы.

Між тым надыходзіла новае стагоддзе. Прадстаўнікі шэрагу пералічаных вышэй мяшчанскіх сем'яў Капыля актыўна ўключацца ў складаныя палітычныя працэсы і падзеі XX ст. Мястэчка Капыль адыграе ў іх даволі прыкметную ролю. Яно стане адным з цэнтраў яўрэйскага і беларускага нацыянальных рухаў, станаўлення сацыял-дэмакратыі, падорыць краіне і свету сузор'е вядомых палітычных і культурных дзеячаў[11].



**Капыль у час рэвалюцыі 1905–1907 гг.**

Такім чынам, рэканструкцыя на аснове гістарычных крыніц асноўных этапаў і падзей змагання капылян за вяртанне страчаных правоў на волю і зямлю ў XIX ст. дазваляе вызначыць яго поспехі (вызваленне ад прыгоннай залежнасці ў 1833 г.) і няўдачы (зямля засталася памешчыцкай уласнасцю), назваць імёны капылян і капылянак, якія прымалі актыўны

[10] НГАБ, ф. 295, воп. 1, адз. зах. 2025. *Справа аб непаслушэнстве капыльскіх мяшчан Слуцкага павета ўладам пры спагнанні з іх чынша за землі князя Вітгенштэйна*, арк. 88–92.

[11] Падрабязна пра гэта гл.: І. Соркіна. *У пошуку Айчыны: жыхары мястэчак у эпоху нацыяналізмаў (на прыкладзе Капыля),* „Rocznik Centrum Studiów Białoruskich / Гадавік Цэнтра Беларускіх Студыяў”, 2018, № 4, с. 109–156.

ўдзел у гэтым змаганні. Мы бачым за гэтым усім важнейшы інстытут самаарганізацыі і самакіравання жыхароў Капыля — мяшчанскую хрысціянскую грамаду, сфарміраваную самімі мяшчанамі. У тэкстах шматлікіх скаргаў і прашэнняў у розныя інстанцыі, у дзеяннях (у тым ліку гвалтоўных), накіраваных супраць чыноўнікаў і паліцыі, капыльская мяшчанская абшчына праявіла сябе як арганізаваная структура, з дапамогай якой людзі мэтанакіравана і ўпарта баранілі свае правы і адстойвалі ўласныя інтарэсы. На першы план ставіліся менавіта інтарэсы грамады. Неабходныя для грамады рашэнні прымаліся на сходзе яе актыву („*хадакоў*” і „*запявал*”, як гэтых людзей называлі чыноўнікі), што адбываўся, як правіла, у карчме на Рынку. Выяўлены згадкі аб тым, што мелася агульная грашовая маёмасць, якая фарміравалася шляхам правядзення складак унутры абшчыны. У барацьбе за „старыну” (за вяртанне страчаных правоў на свабоду і зямлю) праявілася і такая важная для яе акалічнасць, як добрае веданне капылянамі сваёй гісторыі, асабліва той яе часткі, якая датычыла іх правоў, стараннае захоўванне прывілеяў і іншых важных дакументаў.

Дадзенае мікрагістарычнае даследаванне дазваляе на прыкладзе Капыля выявіць важнасць жаночага фактару ў грамадскім жыцці мястэчка, паказаць праявы грамадскай актыўнасці жанчын, што разбурае гендэрны стэрэатып жаночых паводзінаў, характэрны для традыцыйнага грамадства, калі жанчына ўяўлялася несамастойнай, цалкам залежнай ад мужчыны, а жаночая доля — як ціхае існаванне ў сям’і, клопат пра дзяцей, пра чысты і ўтульны дом, смачную ежу для мужа… Але рэальныя ролевыя функцыі жанчыны ва ўмовах мадэрнізацыі істотна змяняліся. Прадстаўніцы прыгожага полу Капыля нароўні з мужчынамі, а часам і больш актыўна ў параўнанні з імі, праяўлялі сваю пазіцыю і вялі дзейнасць на карысць агульнай справы грамады.

Адлюстраваныя вышэй аспекты мінулага Капыля XIX ст. праліваюць святло на пытанне ўнёску жыхароў мястэчак у фарміраванне грамадзянскай супольнасці ў Беларусі (у разуменні гэтага паняцця як супольнасці, якая характарызуецца актыўнасцю ды здольнасцю да самаарганізацыі, вызначэння і дасягнення мэтаў без імпульсу з боку дзяржаўнай улады). На вялікі жаль, гэтыя пазітыўныя працэсы з-за неспрыяльных гістарычных фактараў замаруджваліся, часам перапыняліся, яны застаюцца пакуль незавершанымі, але значна актывізуюцца ў вызначальныя для будучыні нашай краіны моманты.

## Streszczenie

Ina Sorkina, *„Na czele tłumu stały kobiety”: czynnik kobiecy w walce mieszkańców Kapyla o wolność i ziemię w XIX wieku*

Na przykładzie miasteczka Kapyla w powiecie słuckim przedstawiono rolę kobiet w walce mieszkańców o przywrócenie odebranego po inkorporacji ziem białoruskich w skład Imperium Rosyjskiego statusu mieszczan i prawa własności ziemi. Źródłami historycznymi stanowiącymi podstawę rekonstrukcji omawianej walki są dokumenty Litewskiego Państwowego Archiwum Historycznego w Wilnie i Narodowego Archiwum Historycznego Białorusi w Mińsku. Materiały archiwalne świadczą o tym, że walka o wolność i ziemię stała się istotną sprawą dla rodzin mieszkańców Kapyla: wraz z mężczyznami były również ich żony, które podczas starć ulicznych z policją wysuwały się nawet na pierwszy plan. Niniejsze opracowanie mikrohistoryczne pozwala na przykładzie Kapyla przedstawić znaczenie czynnika kobiecego w życiu społecznym miasteczka, ukazać przejawy społecznej aktywności kobiet, co burzy stereotypowe pojmowanie kobiecych ról społecznych charakterystyczne dla tradycyjnego społeczeństwa, w którym kobiety miały być niesamodzielne, całkowicie zależne od mężczyzn, a kwintesencję kobiecego losu miało stanowić ciche życie rodzinne oraz troska o dzieci i męża. Wbrew temu rzeczywista rola kobiet uległa znaczącym zmianom. Mieszkanki miasta Kapyla na równi z mężczyznami, a czasami nawet bardziej aktywnie, prezentowały swoje stanowisko i działały na rzecz dobra wspólnego społeczności.

## Abstract

Ina Sorkina, „Women were the leaders of the crowd”: *feminine factor in the battle of people of Kapyl for their freedom and lands in XIX Century*

As an example of the town of Kapyl in Slutsk district, is shown the role of women in the stubborn struggle for the return of the bourgeois status and land ownership for the citizens of Kapyl, lost after the incorporation of the Belarusian lands into Russia. Documents of the Lithuanian State Historical Archive in Vilnius and the National Historical Archive of Belarus in Minsk became historical sources for the reconstruction of this struggle.Archival materials clearly show that the struggle for freedom and land has become a family affair of the residents of Kopyl: next to the men were their wives, and in the street confrontation with the police, women were standing right in the front. This micro-historical study allows us to use the example of Kapyl to identify the importance of the female factor in the public life of the town,

to show the manifestations of women's social activity, which destroys the gender stereotype of women's behavior, typical for traditional society, where the main role of the woman was just calm existence in the family and taking care for children and husband.But the real role of women in the context of modernization have changed significantly. Representatives of the „beautiful" sex of Kapyl, alongside with men, and sometimes more actively than them, showed their position and worked for the common cause of the community.

**Вольга Зубко**
**(Вінніца)**

# „Панская зацея”, альбо Беларусь між Літвой і Польшчай у 1920–1922 гг.

Вільня і Віленскі край у XX стагоддзі неаднаразова выступалі аб’ектам геапалітычных інтарэсаў не толькі Германіі і Краіны Саветаў, але таксама Польшчы, Літвы і Беларусі. Беларусь, з улікам этнічнага і этнаграфічнага фактараў, мела на тое ці не самае большае права.

16 лютага 1918 г. Літоўская Тарыба абвясціла аб адраджэнні незалежнай Літвы са сталіцай у Вільні. Праз год, 27 лютага 1919 г., горад стаў сталіцай новастворанай Літоўска-Беларускай рабоча-сялянскай Савецкай Рэспублікі, у склад якой увайшлі амаль уся тэрыторыя сучаснай Літвы і заходняя частка Беларусі. Прычыны ініцыяванага Леніным і Свярдловым стварэння Літоўска-Беларускай савецкай дзяржавы сучаснымі гісторыкамі да канца не вызначаны. Дырэктар Інстытута гісторыі Літвы Альвідас Нікжэнтайціс бачыць у стварэнні ЛітБелССР савецкі варыянт гістарычнай Літвы. А вось старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Літвы Чэславас Лаўрінавічус лічыць, што, ствараючы ЛітБелССР, Масква свядома фліртавала з Польшчай, якая мела прэтэнзіі на Літву і Беларусь як на спрадвечна польскія тэрыторыі. Зрэшты, неўзабаве праект ЛітБелССР быў замарожаны да лета 1920 г., калі Савецкая Расія заключыла з Літвой мірны дагавор. Між тым у спакоі рэгіён застаўся ненадоўга: ужо ў пачатку кастрычніка 1920 г. камандзір Першай Літоўска-Беларускай дывізіі Люцыян Жалігоўскі па ўзгадненні з лідарам ІІ Рэчы Паспалітай Юзафам Пілсудскім падняў на „бунт” сваіх салдат і заняў Вільнюс, які практычна не было каму абараняць: пасля адыходу савецкіх войскаў на ўсход літоўскія войскі дыслацыраваліся інакш.

Пасля ўзяцця Вільні ды прылеглых да горада тэрыторый была створана новая дзяржава — Сярэдняя Літва. Зрэшты, і яна праіснавала нядоўга: ужо ў 1922 г. сейм дзяржавы прыняў рашэнне далучыцца да Польшчы. І вось тут, як адзначае Эдмундас Гімжаўскас, робіцца прыкметным „*беларускае палітычнае адценне*”. Па-першае, Люцыян Жалігоўскі, які нарадзіўся пад Ашмянамі Гродзенскай вобласці, ажыццявіў фактычна план Юзафа Пілсудскага, які называў сябе беларусам падчас допыту яшчэ ў 1887 г. Па-другое, не ўся віленская інтэлігенцыя выбірала польскі бок.

Па-трэцяе, пачаўся актыўны працэс фарміравання беларускай, літоўскай і польскай нацый на Віленшчыне. Людзі проста выбіралі, да якога народа яны будуць належаць[1].

10.01.1921 г. Берлін. Аляксандр Цвікевіч (1888–1937) — міністр замежных спраў БНР (1920–1923) — у адным са сваіх лістоў у Коўна Вацлаву Ластоўскаму (1883–1938) — старшыні Савета Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі (1919–1922) — пісаў: *„За уселякую цану трэба трымацца Літвы і арганізаваць Віленшчыну і Гарадзеншчыну. Літва, ні пры якіх варунках ня можа ігнараваць нас, так сама як і мы ня можэм ігнараваць яе. Мы да зарезу патрэбны друг другу. Толькі разам мы можам хоць крыхку забяспечыць сябе ад маіорызацыі палякамі. Мне здаецца, што гэта добра разумеюць усе літоўскія дзеячы і што дзеля гэтага мы можэм спакойна працаваць на далей разам з імі”*[2].

Часопіс *„Сялянская доля”*, снежань 1921 г. (тэкст друкуецца з захаваннем правапісу і пунктуацыі. — В.З.):

*„Алесь Лазіна. Панская зацея*

*У шерегу тых захадаў, якія робіть польская шляхта, каб кінуць на плечы нашому беларускаму народу сваe панаваньне, апошні час з'явілася ў паноў новая зацея-прыманка — гэты Віленскі Сойм.*

*Польскія захватчыкі ведаюць добра, што Віленшчына да Гродзеншчына гэта ня іх краіны, што апынулыся яны на чале ўлады праз насільствы над мясцовым жыхарствам, належачым да слаўнай у мінуўшчыне дзяржавы — ВК Літоўска-Беларускага.*

*Але гэта не застанаўлівае польскіх паноў, учапіўшыхся, як той воўк у овечку, у нашу родную земельку.*

*Такая уже панская парода, што ня можа абыйсьціся без таго, каб ня крыўдзіць прастых людзей…”*[3].

Нацыянальныя рухі ў Еўропе паступова і дынамічна развіваліся на працягу ўсяго XIX стагоддзя, аднак з пачаткам Першай сусветнай вайны працэс паскараецца. І справа была не толькі ў тым, што абодва бакі з задавальненнем і энтузіязмам падтрымлівалі разнастайныя нацыянальна-вызваленчыя ініцыятывы (асабліва ў стане апанентаў). Увесь гэты свет і яго ўспрыманне чалавекам змяніліся да непазнавальнасці.

---

1 Э. Гімжаўскас, *Беларускі фактар пры фармаванні літоўскай дзяржавы*, Беласток-Вільня 2012.

2 *Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі,* Minsk-New-York-Prague-Vilnius 1998, т. 2, кн. 2, с. 1005–1006.

3 *Центральний державний архів громадських об'єднань України* (далей — ЦДАГО України, м. Київ), ф. 269 „Документи і матеріали Української держави, військових, громадсько-політичних діячів, представників науки, культури, інших осіб”, оп. 1, спр. 122, арк. 7–8.

Нацыянальная ідэнтычнасць, якая больш выразна ўсведамлялася, вяла непасрэдна да ідэі пра нацыянальную дзяржаву. І ў гэтых адносінах развіццё ідэй і сродкаў дасягнення пастаўленых мэтаў зближае Літву і Беларусь. Да таго ж горад Вільня зрабіўся адным з цэнтраў, у якім канцэнтраваліся найбольш яркія прадстаўнікі палітычнага і грамадскага жыцця абодвух народаў. Многія з іх былі проста знаёмы паміж сабой, таму і ўзаемнае пранікненне ідэй і пазіцый зусім не здаецца чымсьці незвычайным.

Да 1917 г. паміж літоўскімі і беларускімі арганізацыямі ды і проста грамадскімі дзеячамі існавалі цалкам прыязныя і канструктыўныя адносіны. Прычына гэтага была простая: у інтэлектуальным асяроддзі намецілася імкненне да незалежнасці, якое грунтавалася на гістарычнай традыцыі. А якраз агульная гісторыя і крыху рамантызаваны погляд на эпоху Вялікага Княства Літоўскага сталі прычынай такіх узаемаадносін. Зусім не супадзенне, што людзі, якіх без перабольшання можна назваць архітэктарамі нацыянальных дзяржаваў, як Літвы, так і Беларусі, — Ёнас Басанавічус і Вацлаў Ластоўскі — шмат гадоў сур'ёзна і глыбока займаліся гісторыяй. Аднак стварэнне Літоўскай Тарыбы прывяло да пратэстаў з боку беларусаў — мэта стварэння гэтага органа была цалкам зразумела сучаснікам: незалежная Літоўская дзяржава ўспрымалася беларускімі дзеячамі як спроба падзяліць гістарычную памяць, саму краіну (якая, праўда, яшчэ не існавала), разбурыць агульную эканамічную прастору. Аднак, нягледзячы на рознагалоссі, з'явіліся і новыя тэмы для дыялогу: Тарыба старалася як мага больш актыўна супрацоўнічаць з беларускімі арганізацыямі. Больш за тое, у яе склад павінны былі ўвайсці прадстаўнікі нацыянальных меншасцей, і тут ужо сапраўды без беларусаў абысціся было цяжка: палякі не палічылі мэтазгодным удзельнічаць у Тарыбе, габрэі гэтак жа не спяшаліся ўвайсці ў склад новага органа кіравання. Асабліва цесныя адносіны ў Тарыбы склаліся з віленскай групай беларусаў, у прыватнасці з так званай групай Ластоўскага[4].

Ужо ў кастрычніку 1917 г. паміж бакамі пачаліся перамовы. Нягледзячы на тое, што яны хутка зайшлі ў тупік (беларусы прапанавалі ні больш ні менш як стварыць сумесную дзяржаву, пашыраную за кошт беларускіх тэрыторый, але падзеленую па моўнай прыкмеце), было прынята рашэнне працягнуць дыялог пасля таго, як пройдзе Віленская канферэнцыя беларускіх арганізацый. 25–28 студзеня 1918 г. канферэнцыя адбылася. У сваёй рэзалюцыі яна адмовілася прызнаваць

[4] T. Błaszczak, *Białorusini w Republice Litewskiej 1918–1940*, Białystok 2017, s. 23–39.

Тарыбу *„як адзіны голас Літвы і Беларусі і не прымае адказнасці за яе палітычныя абавязацельствы”*. Такім чынам нават у канфрантацыі з Тарыбай беларускія арганізацыі выступілі за адзіную з Літвой дзяржаву. На гэтай канферэнцыі таксама была абрана Віленская Беларуская Рада, прадстаўнікі якой актыўна ўдзельнічалі ў сакавіку 1918 г. у абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі.

У красавіку 1918 г. паміж Тарыбай і прадстаўнікамі Віленскай Беларускай Рады нарэшце пачаліся перамовы, на якіх беларусы зноў пацвердзілі сваю прыхільнасць ідэі федэратыўнай дзяржавы, паднялі пытанне межаў і прапанавалі садзейнічанне ў наладжванні сувязей з Мінскам. Прапанова была больш чым прывабная, аднак паўнамоцтваў весці перамовы аб федэрацыі Тарыба не мела. Зрэшты, у той жа дзень двум прадстаўнікам беларусаў было прапанавана ўвайсці ў склад Тарыбы. Фактычна можна было казаць аб прызнанні беларускімі прадстаўнікамі новай дзяржавы, якая пакуль толькі фармуецца, з якой яны звязвалі і сваю будучыню.

У восень 1918 г. германская акупацыйная адміністрацыя канчаткова перастала перашкаджаць стварэнню новых структур у Літве. Віленская Беларуская Рада 3 лістапада абвясціла сябе раўнапраўным з Тарыбай органам кіравання і прапанавала стварыць сумесны парламент. Таксама гаворка ішла аб прапарцыйным прадстаўніцтве ў парламенце і ўрадзе, уздымалася пытанне аб стварэнні беларускіх узброеных сіл і асобнай інспекцыі школ. Такім чынам, для перамоў узнікала ўсё больш і больш тэм, адмахнуцца ад супрацоўніцтва абодвум бакам было ўжо немагчыма.

27 лістапада 1918 г. шэсць прадстаўнікоў Рады ўвайшлі ў склад Дзяржаўнага Савета Літвы (ён змяніў Тарыбу ў ліпені 1918 г.). Таксама было створана Міністэрства па беларускіх справах, якое ўзначаліў Язэп Варонка. Антанас Сьметона зачытаў рэзалюцыю прэзідыума Дзяржаўнага савета Літвы, якая была прынята аднагалосна: *„Пасля таго як Беларуская Рада абвясціла, што яна стаіць на падмурку незалежнасці Літоўскай дзяржавы і хоча працаваць разам з літоўскай уладай над аднаўленнем Літоўскай дзяржавы, Дзяржаўная рада, не прывязваючы пытанне да адсоткавых суадносін прадстаўнікоў розных народаў у Літве, уключае ў свой склад шасцярых прадстаўнікоў беларусаў, абапіраючыся на перамовы паміж Беларускай Радай і прэм’ер-міністрам і заяву самой Рады пра тое, што шасцёра беларусаў прадставяць усіх беларусаў Літвы”*[5].

Віленскія беларусы пад уплывам акта 16 лютага, несумненна, прыклалі нямала намаганняў для абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі

[5] Тамсама, с. 46.

ў сакавіку 1918 г. Аднак дзеля справядлівасці варта адзначыць, што ўласна ўплыў віленскіх беларускіх арганізацый не распаўсюджваўся на ўсю тэрыторыю Беларусі. Але ідэі, неаднаразова выказаныя Віленскай Радай, былі дастаткова папулярнымі. Так, у Гродне сфармавалася ўласная ўладная структура — Урад, які яшчэ да эвакуацыі беларускага міністэрства ў Гродне прыняў рашэнне аб далучэнні да Літвы. Над ваеннай камендатурай былі ўзняты два сцягі: літоўскі трыкалор і беларускі бел-чырвона-белы. Неадкладна пачынаюць фарміравацца і вайсковыя часткі: камендацкая рота ў 350 чалавек і першы гродзенскі полк (пасля — першы беларускі полк, актыўна змагаўся за свабоду і незалежнасць Літоўскай дзяржавы). Варта таксама адзначыць, што, нягледзячы на назву, полк быў шматнацыянальным, у ім служылі прадстаўнікі самых розных нацыянальнасцей: беларусы, літоўцы, рускія, татары, яўрэі (больш за 20 % асабовага складу). Нягледзячы на досыць сумны фінал гродзенскай беларуска-літоўскай эпапеі, можна з упэўненасцю казаць аб шчырым жаданні беларусаў будаваць сумесную дзяржаву.

Парадаксальна, але досыць прахалоднае стаўленне літоўскай эліты да праекта сумеснай літоўска-беларускай дзяржавы дазволіла падхапіць гэтую ідэю, мабыць, галоўным праціўнікам нацыянальных рухаў таго часу — бальшавікам. Зусім няўдалы па прычыне сваёй радыкальнасці сацыяльна-эканамічны эксперымент паставіў пад пагрозу стварэнне Савецкай Літвы. У якасці альтэрнатыўнага варыянта было прынята рашэнне аб стварэнні сумеснай дзяржавы: ЛітБела. Па сутнасці, гэта была спроба стварыць нейкае падабенства „сацыялістычнага ВКЛ". Зрэшты, сам кіраўнік рэспублікі Вінцас Міцкявічус-Капсукас у сваіх мемуарах наракаў на тое, што вельмі цяжка было знайсці ва ўрад прыдатнага кандыдата з беларусаў[6].

Нягледзячы на складаныя адносіны з БНР і нават спрытныя інтрыгі супраць незалежнай Беларускай дзяржавы на Парыжскай мірнай канферэнцыі, 11 лістапада 1920 г. быў падпісаны сакрэтны дагавор паміж урадам Ластоўскага і Дзяржаўным Саветам Літвы аб узаемным прызнанні і супрацоўніцтве.

Ваенная і палітычная сітуацыя пачынаючы з 1920 г. моцна змянілася. Фактычна Беларусь аказалася падзеленай паміж Савецкай Расіяй і Польшчай, і беларускае пытанне ў Літве сышло на другі план. Зрэшты,

6 *Виленские белорусы: За Литву от свободных волн Балтии до пущ белорусских земель*. URL: https://www.delfi.lt/multimedija/100-let-slitvoi/vilenskie-belorusy-za-litvu-ot-svobodnyh-voln-baltii-do-pusch-belorusskih-zemel.d?id=76993715(Доступно: 15.05.2020 г.).

спадзяванні беларусаў Літвы міжваеннага часу можна перадаць словамі віншавальнай прамовы, абвешчанай Дамінікам Сямашкам (1878–1932) — міністрам па беларускіх справах з 1920 па 1923 г.: *„Вітаючы аб'яднанне літоўскага народа, я, як прадстаўнік беларусаў, падкрэсліваю, што гэты гістарычны факт мае такое ж вялікае значэнне і для беларускага народа. Пасля таго як літоўскія землі аб'ядналіся на захадзе, пачнецца аб'яднанне літоўскіх зямель і на ўсходзе. Мы добра памятаем, што няма Літвы без Вільні, што ніхто не зможа выключыць з яе межаў Гродна, Беласток і Белавежу, што ніякая пагроза крывёю і жалезам не прымусіць нас забыцца пра сыноў вільнюскіх і гродзенскіх зямель. І зараз, калі мы дасягнулі свабодных хваляў Балтыі, мы будзем дамагацца зялёных пушчаў беларускіх зямель”*[7].

Цікава тое, што часткова матэрыялы аб розыгрышы „беларускай карты” ў палітычным супрацьстаянні паміж Літвой і Польшчай у 1920–1922 гг. апынуліся і ва ўкраінскіх архівах. Так, у Цэнтральным дзяржаўным архіве грамадскіх аб'яднанняў Украіны захоўваецца фонд 269 *„Дакументы і матэрыялы ўкраінскай дзяржавы, ваенных, грамадскіх і палітычных дзеячаў, прадстаўнікоў навукі, культуры і адукацыі, іншых асоб (1886–1952)”*, у якім ёсць і некалькі беларускіх папак. Дакументы гэтых папак ілюструюць, у асноўным, жыццё беларускай эміграцыі ў міжваеннай Чэхаславакіі (1918–1939). Так, справа 874 *„Дэпартамент фінансаў і яго журнал рэгістрацыі, кнігі авансаў, уваходныя дакументы Супольнасці ўкраінскіх студэнтаў-эмігрантаў з Вялікай Украіны”* (40 аркушаў) змяшчае спіс усіх беларускіх студэнтаў, якія былі членамі Супольнасці. Справа 891, за выключэннем *„Статута і рэкамендацыйных лістоў Цэнтральнага саюза ўкраінскіх студэнтаў, праекта праграмы студэнцкага бюлетэня”* (машынапіс), змяшчае *„Статут Саюза ўкраінскіх і беларускіх студэнтаў у Брацiславе”* (рукапіс)… (16.01.1923–31.12.1924)” (46 аркушаў). Справа 893 дапаўняе справу 874. Яна мае назву *„Перапіска Савета дырэктараў Супольнасці ўкраінскіх студэнтаў-эмігрантаў з Вялікай Украіны з членамі, украінскімі студэнамі і іншымі эміграцыйнымі арганізацыямі; чэшскімі ўстановамі ў арганізацыйных, фінансавых, эканамічных і іншых пытаннях дзейнасці. Абвяшчэнне аб правядзенні сустрэч, сходаў і іншых мерапрыемстваў (27.12.1922–15.12.1927)”* (105 аркушаў).

Але найбольш цікавыя папкі 120 і 122. Гэта так званыя літоўскія тэчкі. Тут усяго дзве ксеракопіі аднаго газетнага артыкула, які датычны выбараў у Віленскі сойм. Хутчэй за ўсё, гэты артыкул павінен быў

---

[7] T. Błaszczak, *Baltarusių emigrantų veikla Kaune 1919–1926 metais*, „Kauno istorijos metraštis”, 2007, t. 8, p. 174–184.

папоўніць інфармацыйны (газетны і кніжны) фонд бібліятэкі Беларускага кабінета Украінскага сацыялагічнага інстытута ў Празе (1925–1932), таму і апынуўся пазней ва ўкраінскай (архіўнай) дакументацыі.

*„Алесь Лазіна. Панская зацея*

*…На што ж патрэбен полькай шляхце Віленскі Сойм, калі у іх есць ужо свой панскі Сойм у Варшаве?*

*Справа у тым, што палякі трымаюцца, як у Віленшчыне, так Гародзеншчыне насільствам і тое, што залезьлі сюды, ашукаўшы мясцовае жыхарства, нарэшці стало ўсім відавочна. І ніводна з вялікіх дзяржаў, ня можа погадзіцца з тым, каб прызнаць правы Польшчы на Віленшчыну і Горадзеншчыну.*

*Лапчывым панам трэба схіліць жа на свой бок вялікія дзержавы і дабіцца іх прыязні і згоды, каб Віленшчына і Гародзеншчына былі прызнаны каленіямы Польшчы.*

*І вось гэты зьдірцы і грабежнікі нашага народу надумаліся перед усім сьветам паказаць, што наш замучаны народ самахоць разам, з літвінамі, жадая, як «панскай ласці» лезьці ў нарыхтованую для яго пятлю, бо, бачыць, пятля то ня прастая, а панская.*

*Так меркуець паміж сабой гвалтоўная польская шляхта.*

*Пасадзіўшы наших беларускіх ксендзаў (як ксендза Пятроўскага з Барун Ашмянскага павету) у турмы за тое, што стаяць за просты народ, паны прысылаюць цэлыя грамады варшавскіх ды іншых ксендзаў.*

*Гэтыя пужають пеклам ды іншым страхацьцем нашых цемных вясковых, кабет і прапануюць ім „Рай Сьветлы", калі будуць галасаваць за панскі Віленскі Сойм.*

*На селян натравяць сваіх „канарак"-жандараў з нагайкамі ды бізунамі і, прымусіўшы наш народ пайсьці на выбары у Віленскі Сойм, польскія лаўкачы прымусяць падаваць галасы за панскія спіскі і, падмахляваўшы выбары, апавясцяць на ўвесь свет: „Бачыце, усе з намі, так і баўтаюцца на панськім матузку".*

*Затым Віленскі Сойм прагаласуе аб далучэньні да Варшавы і так справа буде скончана: наш народ апыніцца ў панськім варшавськім стойте…"*[8].

Літоўская Тарыба пачынаючы з 1920-х гадоў абрала курс на будаўніцтва Літвы для ўсіх. Прыняты вектар павінен быў дапамагаць пазбягаць этнічных канфліктаў у краіне. Сярод усіх нацыянальных меншасцей Літвы беларуская дыяспара была, мабыць, самай шматлікай.

[8] ЦДАГО України, м. Київ, ф. 269, оп. 1, спр. 122, арк. 7–8.

Пік „беларусафільства" літоўскіх чыноўнікаў прыпадае на 1920–1922 гг. — перыяд канфрантацыі з Польшчай у барацьбе за Віленскі край, альбо Сярэднюю Літву.

У ходзе завяршальнага этапу савецка-польскай вайны ўвосень 1920 г. абвастрыліся польска-літоўскія адносіны. Каменем спатыкнення стаў статус горада Вільні, які лічылі сваім беларусы, літоўцы і палякі. Згодна з умовамі заключанага раней дагавора аб перамір'і, горад адыходзіў Літоўскай Рэспубліцы. Гэта не задавальняла Польшчу, і са згоды Начальніка дзяржавы Ю. Пілсудскага камандзір аператыўнай групы „Беняконі", якая складалася з беларусаў-каталікоў, ураджэнцаў Віленшчыны, генерал Л. Жалігоўскі падняў мяцеж супраць перадачы Вільні Літве і са сваімі атрадамі заняў горад, выбіўшы адтуль літоўцаў. Л. Жалігоўскі абвясціў стварэнне новай дзяржавы Сярэдняй Літвы (Вільня ўключна з Ашмянскім, Віленскім, Троцкім і Свенцянскім паветамі) і 12 кастрычніка 1920 г. выдаў шэраг дэкрэтаў, якія рэгулявалі жыццё на захопленай тэрыторыі.

Пытанне аб дзяржаўнай прыналежнасці гэтых зямель на некаторы час стала праблемай агульнаеўрапейскага значэння. Міжнародная супольнасць і яе тагачасны прадстаўнік Ліга Нацый прапанавалі бакам некалькі варыянтаў урэгулявання канфлікту. Сярод іх быў план плебісцыту, які павінен быў вызначыць лёс краю.

Адразу ж пасля заняцця Вільні генерал Л. Жалігоўскі заявіў, што ён ставіць перад сабой задачу склікаць прадстаўнікоў усяго мясцовага насельніцтва, якія б і вырашылі лёс гэтых зямель. Тады ж, паводле яго загада, пачалася падрыхтоўка і да саміх выбараў. 1 лістапада 1920 г. з'явіўся адпаведны дэкрэт *„Па пытанні выбараў у Сейм у Вільні"*, аднак прызначаная там дата 9 студзеня 1921 г. пазней была зменена на 8 студзеня 1922 г. Функцыі ўрада выконвала камісія Сярэдняй Літвы. Яе старшынёй быў Вітальд Абрамовіч. Галоўнай задачай камісіі лічылася забеспячэнне палітычнай і эканамічнай стабільнасці краю.

У той час на Віленшчыне пражывала 530 тысяч жыхароў, з якіх 40 % — беларусы[9]. У выпадку рэферэндуму лёс рэгіёна фактычна залежаў ад пазіцыі беларусаў.

Варта адзначыць, што яшчэ ў 1919 г. галоўны фінансіст БНР Васіль Захарка (1877–1943) выдаў у Берліне *Memorandum des Finanzministers der Weißruthenischen Volkrepublik (Мемарандум Міністэрства фінансаў БНР)* на нямецкай мове, у якім Віленскі край безумоўна выступаў адной

[9] М. В. Кобрин, *Белорусское национальное движение в Средней Литве в октябре 1920 г. — марте 1922 г.*, „Вопросы истории", 2009, № 11, с. 146–150.

з правінцый (абласцей) БНР. Гэты дакумент выйшаў з друку ў 200 асобніках. Кожны асобнік меў 16 старонак[10] і быў гэтакім даведнікам для беларускай дэлегацыі ў час працы Парыжскай мірнай канферэнцыі.

Фактычна *Memorandum* складаўся з некалькіх раздзелаў, у якіх характарызаваліся шэсць беларускіх правінцый (Віленская, Віцебская, Гродзенская, Мінская, Магілёўская і Смаленская) і абгрунтоўваўся іх эканамічны патэнцыял. Так, у першым раздзеле дакумента, у прыватнасці, прыведзены працэнт (%) жыхароў нацыянальных дыяспар на тэрыторыі правінцый БНР:

| **Gowernements** | **Weißruthenier** | **Polen** | **Großrussen** | **Juden** | **Ukrainer** | **Letter** | **Litauer** | **Deutsch** |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Wilna** | 61,6 | 5,2 | 3,8 | 15,8 | - | - | 13,1 | 0,5 |
| **Witebsk** | 62,7 | 2,4 | 11,3 | 10,5 | - | 9,0 | - | 4,1 |
| **Mohilew** | 83,1 | 0,7 | 4,0 | 12,0 | - | - | - | 0,2 |
| **Grodno** | 71,0 | 9,6 | 0,4 | 15,4 | 3,0 | - | 0,2 | 0,8 |
| **Minsk** | 71,0 | 5,6 | 2,1 | 4,2 | 3,9 | - | - | 2,0 |
| **Smolensk** | 62,0 | - | 33,8 | - | - | - | - | - |

Як бачым, В. Захарка інфармаваў, што ў Віленскім рэгіёне беларусы складалі 61,6 % ад агульнай колькасці насельніцтва краю, літоўцы — 13,1 %, а палякі — усяго 5,2 %[11]. У *Memorandum* Васіль Іванавіч таксама адзначаў пра Віленскі край (пераклад з нямецкай аўтарскі — В. З.) тое, што ў рэгіёне 336 000 гектараў зямлі *(Ladndfondes)*, што зямля багатая ў асноўным ляснымі ўгоддзямі — 260 000 гектараў; што ў правінцыі — 1 803 гаспадаркі з 16 608 рабочымі, а рэнтабельнасць гэтых гаспадарак разлічваецца ў былых расійскіх рублях у памеры 33 288 000 руб.; што тут вырошчваюцца пшаніца, авёс, грэчка і бульба; што насельніцтва рэгіёна ў першую чаргу разводзіць буйную рагатую жывёлу, авечак, свіней, коз, курэй і гусей; што ў рэгіёне працуюць харчовыя, металаапрацоўчыя і дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы[12].

У Віленскім краі дзейнічала некалькі нацыянальных беларускіх арганізацый. І ўсе яны вымушаны былі адразу прыняць рашэнне пра сваё стаўленне да выбараў. Найбольш уплывовым стаў Беларускі нацыянальны камітэт (БНК), які імкнуўся да стварэння Вялікага княства Беларуска-Літоўскага (Літоўска-Беларускай рэспублікі). Гэтая арганізацыя

[10] ЦДАГО України, м. Київ, ф. 269, воп. 1, ад. зах. 120.
[11] Тамсама, арк. 2.
[12] Тамсама, арк. 3–15.

выступала за фарміраванне аўтаномнага беларускага кантона, які меў бы поўную нацыянальна-культурную аўтаномію (а таксама пэўныя атрыбуты дзяржаўнасці, у першую чаргу войска), у межах чатырох паветаў: Ашмянскага, Навагрудскага, Слонімскага і Баранавіцкага. Сябры БНК не выключалі супрацоўніцтва з Польшчай. Так, раней БНК прыняў удзел у выбарах у гарадскую раду ў Вільні 7 верасня 1919 г. Быў вылучаны спіс з 17 членаў, аднак, на жаль, камітэт пацярпеў поўнае паражэнне, не здолеўшы правесці ніводнага са сваіх прадстаўнікоў[13]. Найбольш вядомымі дзеячамі БНК былі яго старшыня Фабіян Акінчыц, ксёндз Адам Станкевіч, дырэктар Віленскай гімназіі Міхаіл Кахановіч, пісьменнік Максім Гарэцкі і грамадскі дзеяч Аляксандр Карабач. У першую чаргу БНК займаўся культурна-асветніцкай дзейнасцю. Пад яго кантролем у Сярэдняй Літве дзейнічалі 178 пачатковых школ, а таксама Віленскі кааператыўны саюз, які аказваў фінансавую падтрымку БНК. У яго падначаленні быў таксама Саюз сельскай гаспадаркі, у які ўваходзіла шмат беларускіх дзеячаў. Праз гэтую арганізацыю ажыццяўлялася сувязь з беларускімі камуністамі ў Мінску, а менавіта з наркамам ваенных спраў БССР Язэпам Адамовічам.

Другой уплывовай беларускай арганізацыяй была Найвышэйшая Рада Беларускай Народнай рэспублікі (БНР), якая ўзнікла пасля расколу Рады БНР у снежні 1919 г. Яна была лаяльнай Польшчы і дзейнічала легальна ў Вільні. У яе ўваходзілі Сымон Рак-Міхайлоўскі, Андрэй Якубецкі, Браніслаў Тарашкевіч, Вацлаў Іваноўскі, Аркадзь Смоліч, Антон Луцкевіч, Яўген Ладноў, а палітычным кірункам была антылітоўская і антынямецкая дзейнасць. Філіялам Найвышэйшай Рады быў Беларускі дзяржаўны камітэт (БДК), які знаходзіўся ў пастаянным кантакце з польскай разведкой[14]. У Вільні дзейнічалі наступныя беларускія партыі: эсэраў, сацыял-дэмакратаў, сацыялістаў-федэралістаў. Найбольш уплывовай і шматлікай сярод іх была партыя беларускіх эсэраў. У Коўне знаходзілася Замежнае бюро партыі, а ў Вільні — Абласны камітэт, у які ўваходзілі Улас Дубіна, Андрэй Якубецкі, Аляксандр Карабач, Пётр Крачэўскі, Язэп Міхалевіч, Уладзімір Пракулевіч, В. Радзевіч, І. Шыла, Кузьма Цярэшчанка, Павел Жаўрыд. Гэты камітэт быў прадстаўніцтвам урада Вацлава Ластоўскага

[13] А. В. Пашкевич, А. Н Чернякевич, *Опыт легальной политической борьбы в белорусском национальном движении накануне выборов в парламент II Речи Посполитой 1922 года*, [в:] *Сельское хозяйство — проблемы и перспективы.* Сб. науч. трудов УО „Гродненский государственный аграрный университет", Гродно 2005, т. 1, с. 23–27.

[14] T. Błaszczak, *Białorusini w Republice Litewskiej 1918–1940*, s. 188.

(БНР) у Вільні. Самай нешматлікай беларускай арганізацыяй была „Беларуская краёвая сувязь”. Яе ўзначальваў Павал Аляксюк, і яна мела ярка выяўлены паланафільскі накірунак. Яе друкаваным органам была газета *„Jednásc”*. Так, напрыклад, у адказ на дэкларацыю Віленскага БНК пра байкот выбараў (а ў якасці асноўных аргументаў супраць удзелу ўсіх беларускіх арганізацый у выбарах у цэлым прыводзіліся тыя, што значная частка бежанцаў-беларусаў яшчэ не вярнулася з Расіі, што тэрыторыя, прызначаная для выбараў, выдзелена штучна з літоўска-беларускіх зямель, а Беларусь наогул не фігуруе як бок спрэчкі, ды і фальсіфікацый не пазбегнуць) „Краёвая сувязь” правяла 12–13 снежня 1921 г. у Вільні з’езд, на якім была зацверджана рэзалюцыя: *„прыняць удзел і працаваць сярод беларускага народа ў напрамку выбараў у сойм Сярэдняй Літвы…”*[15].

У той час адзіным беларускім палітычным цэнтрам, арыентаваным выключна на Літву, быў Абласны камітэт партыі беларускіх эсэраў. Гэты орган кантраляваў Вацлаў Ластоўскі, старшыня Савета Міністраў БНР (1883–1938). Ён жыў у Коўне. Шукаючы сродкі і падтрымку ў барацьбе за свае ідэалы, беларускія палітычныя арганізацыі вымушаны былі ўстанавіць сувязь з урадам Ластоўскага ў Коўне.

Літоўскі ўрад таксама вырашыў выкарыстаць Ластоўскага і яго прыхільнікаў, каб атрымаць падтрымку беларусаў Віленскага рэгіёна. Вось чаму ў Коўне яму прапанавалі падпісаць пагадненне аб супрацоўніцтве паміж БНР і Літоўскай Тарыбай. Гэты палітычны крок уразіў беларускіх патрыётаў. Беларусы, у сваю чаргу, спадзяваліся, што пагадненне аб супрацоўніцтве прывядзе да прэцэдэнту легітымізацыі БНР.

30 кастрычніка 1920 г. Ластоўскі заявіў, што пагадненне аб супрацоўніцтве замацуе *„ўмовы сумеснага жыцця”* і *„непадзельнасць”* абодвух народаў. Літоўска-Беларускі дагавор быў заключаны 11 лістапада 1920 г. Беларускія патрыятычныя арганізацыі паабяцалі Літве падтрымку падчас плебісцыту. Эміграцыйны ўрад БНР дазволіў ураду Літвы кантроль над усімі беларускімі вайсковымі суполкамі і даў права прадстаўляць Беларусь на міжнароднай арэне. Літоўцы, у сваю чаргу, абяцалі дапамагчы вызваліць тэрыторыю Заходняй Беларусі, акупаваную Польшчай, і арганізаваць на гэтай тэрыторыі беларускую дзяржаву. Ластоўскі таксама выказваўся пра магчымасць утварэння саюзнай Літоўска-Беларускай дзяржавы — своеасаблівага пераўвасаблення Вялікага Княства Літоўскага

[15] А. В. Пашкевич, А. Н Чернякевич, *Опыт легальной политической борьбы в белорусском национальном движении накануне выборов в парламент II Речи Посполитой 1922 года*, с. 23–27.

з агульным парламентам і адзінай сталіцай у Вільні. Да ўсяго сказанага: ні ў падпісаным дагаворы, ні ў вуснай дамоўленасці нічога не гаварылася аб Усходняй Беларусі.

Важна тое, што пагадненне аб супрацоўніцтве 1920 г., у якім нават не была ўказана дата ўступлення яго ў сілу і якое, па сутнасці, было не дамовай, а мемарандумам, прывяло да надзвычайнай палітычнай актывізацыі беларускіх ячэек не толькі ў Літве, але і за яе межамі (у Еўропе).

Літоўскае кіраўніцтва працягвала паспяхова гуляць „беларускай картай". На патрэбы ўрада БНР быў выдзелены 1 мільён ауксінгаў. Ластоўскі разгарнуў бурную агітацыю і прапаганду.

На працягу некалькіх месяцаў на карысць Літвы, у якой беларусы бачылі больш надзейнага саюзніка, чым Польшча (галоўны аргумент — пераемнік ВКЛ), пераарыентаваліся практычна ўсе беларускія знешнепалітычныя цэнтры. Нават БНК, які спрабаваў сабатаваць заклік беларусаў Віленскай вобласці да польскага войска, выказаў падтрымку літоўцам.

Газета беларускіх сацыял-дэмакратаў *„Беларускі звон"* восенню 1920 г. заявіла, што няма такіх беларускіх дзеячаў, якія б не спачувалі літоўцам. Газета *„Наша меркаванне"* таксама заклікала чытачоў падтрымаць Літву ў плебісцыце[16].

Коўна нават ініцыіравала накіраванне дэлегацый БНР у еўрапейскія краіны (Вялікабрытанію, Германію, Францыю) і ЗША, а таксама ў Лігу Нацый (Жэневу). Там беларусы заклікалі здаць Гродзеншчыну і Віленшчыну Літве. Перш за ўсё было заяўлена, што паміж беларусамі і літоўцамі існуе гістарычнае адзінства і што Вільня — гэта *„святы горад"*, які *„ніколі не будзе польскім"*. Таксама характэрна, што БНР звярнулася да Лігі Нацый і еўрапейцаў з дакументацыяй, якая эканамічна падтрымлівала патрабаванні літоўска-беларускага адзінства.

Паказальнай у гэтым плане была і Першая Усебеларуская канферэнцыя ў Празе, якая адбылася ў канцы верасня 1921 г. Менавіта яна прадэманстравала канчатковае рашэнне беларускіх палітычных сіл пра байкот выбараў у Віленскі сойм. Пазней гэтае рашэнне было пацверджана на пасяджэнні Віленскага БНК 10 снежня 1921 г.

*„Алесь Лазіна. Панская зацея*

*...І ўзапраўды, што можа даць нашаму народу Віленскі Сойм?*

16 М. В. Кобрин, *Белорусское национальное движение в Средней Литве в октябре 1920 г. — марте 1922 г.*, с. 146–150.

*Скліканы панамі-акупантамі, трымаючыміся на чужацкай польскай вайсковай сіле,— ен з’яўляецца відавачнай наругай над правамы нашага народу, бо чужацкая улада ня мае права, ў прысутнасьці свайго войска, склікаць Сойму у акупованым краі.*

*Як мы бачым, паны, прызвычаўшыся да насільства як той пьяніцца да гарэлкі, ня здаляюць ўтрымацца да прадаўжаюць свою каінаву справу.*

*Скліканы акупантамі Віленскі Сойм з’яўляецца новай панскай выдумкай, каб гальмаваць правы буларускага народу на самаадзначэньне і павядзе наш народ да культурнага і гаспадарскага занепаду.*

*Віленскі Сойм замацує за польскімі панамі-каланістам тыя землі, якія з прадвеку належалі жыўшым у братоўскым паразуменьны беларусам і літвінам, паліваліся потам і крывію наших бацькоў.*

*Віленскі Сойм нясе занепад дабрабыту і волі нашому народу…*

*Віленскі Сойм жадаець прымусіць наш народ прыслухоўвацца палітыцы варшавскіх паноў і адпаведаць за усе тыя авантуры, якія прагавітае панства увесь час выдумляе.*

*Уцягнуўшы наш народ у свае варшавскае стойла, паны, пересварыўшыся з усіма суседьзямі — чэхамі, немцамі і расейцамі, прымусяць і нас ваяваць-праліваць за іх панскія інтарэсы нашу селянскую кроў*”[17].

Ідучы насустрач заявам Літвы і БНР з нагоды стварэння Сярэдняй Літвы, Ліга Нацый яшчэ 28 кастрычніка 1920 г. вырашыла правесці плебісцыт на спрэчнай тэрыторыі. Польскі ўрад 7 студзеня 1921 г. даў згоду на яго правядзенне, аднак канкрэтныя тэрміны вызначаны не былі.

Некаторыя беларускія дзеячы з Найвышэйшай Рады БНР занялі згодніцкую пазіцыю ў адносінах да Польшчы і ўвайшлі ў склад Часовай камісіі па кіраванні Сярэдняй Літвой. Так, Вацлаў Івановскі заняў пост кіраўніка дэпартамента грамадскага забеспячэння, яго брат Ежы Іваноўскі — дырэктара дэпартамента замежных спраў, Браніслаў Тарашкевіч — кіраўніка аддзела беларускай адукацыі ў дэпартаменце асветы. Дзеянні гэтых беларускіх дзеячаў асудзіў БНК. А падчас сустрэчы прадстаўнікоў Найвышэйшай Рады БНР з прадстаўнікамі місіі Антанты было падкрэслена, што правамоцным прадстаўніком беларускага народа з’яўляецца ўрад Вацлава Ластоўскага, які займае іншыя пазіцыі.

17 студзеня 1921 г. дэлегацыя БНР на чале з Ластоўскім прысутнічала на адкрыцці сесіі літоўскага парламента ў Коўне, дзе міністр замежных спраў Літвы заявіў аб дасягненні поўнай згоды паміж беларусамі

[17] ЦДАГО України, м. Київ, ф. 269, оп. 1, спр. 122, арк. 7–8.

і літоўцамі. 18 лютага 1921 г. друкаваны орган БНК газета „*Наша думка*" вылучыў патрабаванне правесці плебісцыт не толькі ў Сярэдняй Літве, але і на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая ўваходзіла ў склад Польшчы па ўмовах Рыжскага перамір'я. „*Наша бяда ў тым, што мы не маем ні пядзі ўласнай зямлі, на якой была б беларуская ўлада. Па гэтай прычыне мы павінны згаджацца на плебісцыт на тых тэрыторыях, дзе наша насельніцтва складае звыш 80 %. Плебісцыт — гэта ўсё ж такі лепш, чым прамое далучэнне да чужой краіны ці падзел паміж суседзямі*"[18].

Замаруджанне Польшчы прывяло да таго, што плебісцыт не адбыўся. 2 сакавіка 1921 г. Савет Лігі Нацый прыняў рашэнне аб перадачы развязання польска-літоўскага канфлікту на разгляд урадавых дэлегацый, якія сабраліся на пасяджэнне пад старшынствам прадстаўніка Бельгіі ў Лізе Нацый — міністра замежных спраў Бельгіі Поля Гіманса. 20 красавіка 1921 г. у Бруселі пачаліся польска-літоўскія перамовы. Урад БНР таксама адправіў туды сваю дэлегацыю на чале з В. Ластоўскім. Каб нейтралізаваць дзейнасць Ластоўскага ў Бруселі, урад Польшчы супрацьпаставіў яму Найвышэйшую Раду БНР. 5 мая 1921 г. ад яе імя ў Брусель быў адпраўлены ліст, у якім гаварылася, што „*…пажаданні Віленскай дэлегацыі, прадыктаваныя з Коўна, не падзяляе беларускае насельніцтва*". Гэты ліст затым стаў аргументам у руках польскай дэлегацыі. Прадстаўнікі дэлегацыі БНР А. Карабач і М. Кахановіч уручылі Гімансу ліст, з якога рабілася зразумела, што „*не толькі спрэчныя тэрыторыі, але і ўсе беларускія землі, перададзеныя бальшавікамі Польшчы, павінны быць перададзены Літоўскай рэспубліцы*".

У ходзе перамоў Гіманс неднаразова заклікаў абодва бакі да кампрамісу, але ні адна дэлегацыя не саступала. 20 мая 1921 г. ён прапанаваў свой першы праект урэгулявання канфлікту. Гэты праект прадугледжваў стварэнне віленскага і ковенскага кантонаў (па прыкладзе Швейцарыі) у аўтаномнай Літоўскай рэспубліцы, пры гэтым Вільня адыходзіла да Літвы. Але гэты праект адхілілі абодва бакі. 28 чэрвеня 1921 г. перамовы былі перапынены і адноўлены толькі 15 ліпеня 1921 года. БНК у гэты час адправіў мемарандум Гімансу, які змяшчаў ацэнку яго першага праекта ўрэгулявання праблемы. У цэлым БНК падтрымліваў праект, але патрабаваў карэкціроўкі яго некаторых палажэнняў. У прыватнасці, прадугледжваўся прыклад кантона не толькі для Віленшчыны, але і для ўсёй Заходняй Беларусі ў складзе Літвы, а таксама прадугледжвалася раўнапраўнае выкарыстанне ў Віленскім павеце трох моў — польскай,

18 T. Błaszczak, *Białorusini w Republice Litewskiej 1918–1940*, s. 202.

літоўскай, беларускай. Адказу на свой запыт БНК не атрымаў. 3 верасня 1921 г. Гіманс прапанаваў другі праект урэгулявання польска-літоўскага канфлікту, па якім Віленскі край павінен быў быць зноў аўтаномным кантонам у складзе Літвы, пры гэтым прадугледжвалася стварэнне агульных міністэрстваў замежных спраў і эканомікі. Але абодва бакі зноў адхілілі праект Гіманса. Перамовы канчаткова зайшлі ў тупік. 24 верасня 1921 г. Гіманс зрабіў справаздачу ў Савет Лігі Нацый аб сваім паражэнні ў дадзеным пытанні. У выніку было прынята рашэнне аб спыненні ўсіх працэдур у вырашэнні польска-літоўскага канфлікту. Савет Лігі Нацый заклікаў Польшчу і Літву прыйсці да ўрэгулявання дадзенага пытання мірным шляхам.

*„Алесь Лазіна. Панская зацея*

*…Вось, браты-беларусы, хто шануе правы народу, хто жадае быць гаспадарам на зямельцы свах бацькоў, каму дарага воля і дабробыт народу, хто жадае міру і спакойнай працы на карысць беларускага адраджэньня, усе, хто верыць у справядлівасць, не падтрымлівайце панькай зацеі — ня йдзіце на выбары ў панскі Віленскі Сойм.*

*Няхай гэта зацея ліхадумцеў нашага народу акупантаў-палякаў — каланістаў концыцца нічым.*

*Калі сілком, або пагрозай будуть прымушаць йсьці на выбар, як мага адмаўлясцеся і ў крайнім випадку давадзіце да ведама або усіх насільствах і ашуканствах польскіх захватчыкоў. Усе гэтыя весткі пасылайце да вашых абаронцеў, да рэдакцыі „Селянскай долі".*

*Шляхі да нас прастые, іх ведае кожны шчыры сьвядомы сын нашай Бацькаўшчыны.*

*Адзіным нашым лозунгам і пажадаьнем павіны быць моцны дужы покліч: „Вон з нашай землі, гвалтоўнікі, насільнікі, ліхадзеі, лапчывые крывапійцы паны акупанты-каланісты. Ваш Сойм у Варшаве та й дурыце сябе голову, а тутка дайце нам супакой.*

*Наш народ сам па сваей совесьці і разуменьню ў згодне і супрацоўніцтве з суседзямі, хутчэй, чым вы, завядзе лад у сваей старожцы і забезпечыць дабробыт усіх працоўных мас"*[19].

Пасля таго як стала відавочна, што Ліга Нацый не ў стане вырашыць польска-літоўскі канфлікт, Польскі сойм прыняў спецыяльную рэзалюцыю аб правядзенні ўсеагульных выбараў у сойм Сярэдняй Літвы, які і павінен быў вырашыць далейшы лёс Віленшчыны. Літоўскі ўрад выказалася рэзка

[19] ЦДАГО України, м. Київ, ф. 269, оп. 1, спр. 122, арк. 7–8.

супраць выбараў. Літоўцы вырашылі іх сарваць і пачалі падрыхтоўку ўзброенага паўстання ў Сярэдняй Літве. Падобную пазіцыю занялі і беларускія партыі і арганізацыі, што ўваходзілі ў БНК, які ў гэтым пытанні цесна ўзаемадзейнічаў з урадам Ластоўскага.

6 снежня 1921 г. урад Ластоўскага афіцыйна заклікаў байкатаваць выбары ў сойм Сярэдняй Літвы. Але гэты заклік падтрымалі не ўсе беларускія партыі і арганізацыі. Так, 11–12 снежня 1921 г. у Вільні прайшоў Беларускі з'езд. Яго ініцыятарам была арганізацыя „Беларуская краёвая сувязь", якая дзейнічала легальна і мела прапольскія погляды. Галоўнымі кіраўнікамі з'езда былі Павал Аляксюк, Арсен Паўлюкевіч, Вячаслаў Адамовіч. З'езд быў арганізаваны для таго, каб заклікаць беларусаў прыняць удзел у выбарах. 120 удзельнікаў з'езда былі асабіста запрошаны Алексюком. Дэкларацыі, прынятыя на з'ездзе, заклікалі падтрымаць польскія ўлады ў правядзенні выбараў у парламент Сярэдняй Літвы.

Выбары ў Віленскі сойм адбыліся, як і планавалася раней, у студзені 1922 г. Агітацыя супраць выбараў прымусіла Часовую камісію Сярэдняй Літвы ў ноч з 19 на 20 студзеня 1922 г. арыштаваць 29 вядомых беларускіх грамадскіх дзеячаў. Акрамя гэтага, былі праведзеныператрусы ў БНК, у Віленскай гімназіі, друкарні, рэдакцыях беларускіх газет у Вільні. У сувязі з гэтым Рада БНР звярнулася з чарговым мемарандумам да Лігі Нацый з просьбай абараніць беларускі народ ад гвалту і бясчынстваў з боку палякаў, а таксама даслаць камісара для абароны правоў і інтарэсаў насельніцтва Віленшчыны ад польскага тэрору. Але на гэты пратэст Ліга Нацый адказу не дала.

20 лютага 1922 г. сойм Сярэдняй Літвы прыняў рэзалюцыю звярнуцца да Польшчы з просьбай аб уваходзе ў яе склад. Праз месяц, 24 мая 1922 г., польскі сойм ратыфікаваў гэта рашэнне. Дзяржаўнае ўтварэнне Сярэдняя Літва перастала існаваць. На яго тэрыторыі было створана Віленскае ваяводства ў складзе Польшчы. Гэтую акцыю прызнала Канферэнцыя амбасадараў Лігі Нацый, але не прызналі беларускі і літоўскі ўрады. Урад БНР імкнуўся абгрунтаваць права беларускага народа на сваю дзяржаўнасць і тэрытарыяльную цэласнасць. Ён неаднаразова падкрэсліваў, што Вільня і Віленшчына — беларуская этнічная тэрыторыя. У барацьбе за гэта беларускія нацыянальныя арганізацыі і партыі разлічвалі на падтрымку літоўскага ўрада. Літоўцы, са свайго боку, на працягу многіх гадоў актыўна супрацоўнічалі з беларускімі палітыкамі, бачылі ў іх добры козыр у сваёй палітычнай гульні з палякамі. Але ў той жа час саюз Літвы з БНР не прынёс нейкіх рэальных вынікаў ні беларусам,

ні літоўцам. Праблемы, звязаныя з узнікненнем і існаваннем Сярэдняй Літвы, яскрава паказалі, што на шляху да незалежнасці беларускі народ мог разлічваць толькі на ўласныя сілы.


## Streszczenie

Volha Zubko, *„Pańska zacieja", albo Białoruś miedzy Litwą i Polską w latach 1920-1922*

Dla kręgów politycznych Polski i Litwy, po odzyskaniu niepodległości, ważnym zagadnieniem były stosunki z białoruskimi organizacjami społeczno-politycznymi, które powstały na ich terytoriach po zawarciu pokoju w Rydze. Litwini aktywniej współpracowali z białoruskimi politykami traktując ich jako kartę przetargową w swej grze z Polakami. Jednak w tym samym czasie sojusz Litwy z BNR nie przyniósł żadnych korzyści ani Białorusinom, ani Litwinom. Polska mniej uwagi poświęcała siłom białoruskim. Były one jej potrzebne przeważnie dla rozstrzygnięcia istotnych problemów, takich jak legitymizacja i dołączenie do swego terytorium Wilna i Wileńszczyzny (Litwy Środkowej). Oczywiście pośród białoruskich organizacji i ich działaczy brakowało jedności. Jedni (jak Wacław Łastouski i inni) orientowali się na i współpracowali z litewską Tarybą, drudzy (jak Fabian Akińczyc, Paweł Aleksiejuk i inni) współpracowali z rządem polskim.



## Abstract

Volha Zubko, „Man`s idea", *of Belarus in between Lithuania and Poland in 1920–1922*

For the political forces of Poland and Lithuania, after gaining independence, an important issue was the relationship with the Belarusian national and political organizations that found themselves in their territories after the Treaty of Riga. Lithuanians cooperated more actively with Belarusian politicians and saw them as a good trump card in their political game with Poles.But at the same time, the union of Lithuania with the BNR did not bring any real results to either Belarusians or Lithuanians. Poland paid less attention to Belarusian forces. It needed the forces mainly to solve important problems, such as the legitimization and annexation of Vilnius and the Vilna region (Central Lithuania). Naturally, there was no unity among Belarusian organizations and activists. Some (Vaclav Lastovsky and others) associated and cooperated with the Lithuanian Tariba, others (Fabian Akinchyts, Pavel Aleksiayuk and others) with the Polish government.

**Tadeusz Gawin**
**(Warszawa/Grodno)**

# Oblicza sowietyzacji północno-wschodnich województw II RP (Zachodniej Białorusi)* w latach 1939–1941

Odtajnione wystąpienie Stalina przed członkami Biura Politycznego KC WKP(b) z 19 sierpnia 1939 roku potwierdza, że naczelnym zadaniem polityki zagranicznej ZSRR w końcu lat 30. XX wieku było nie zachowanie pokoju w Europie, lecz pomoc Hitlerowi w rozpętaniu wojny. Stalin mówił: *„Powinniśmy przyjąć niemiecką propozycję* (zawarcia paktu — T. G.) *i grzecznie odesłać z powrotem angielsko-francuską misję. Pierwszą korzyścią, którą osiągniemy, będzie likwidacja Polski"*[1]. Nie troska o Białorusinów i Ukraińców w Zachodniej Białorusi i Zachodniej Ukrainie, lecz likwidacja Polski była głównym zadaniem Stalina w wojnie, którą planował wywołać wspólnie z Hitlerem. Stalin był przekonany, że osłabione wojną Niemcy nie będą w stanie w ciągu najbliższych dziesięciu lat rozpocząć wojny z ZSRR.

Kilka tygodni później, 14 września 1939 r. w centralnym partyjnym organie WKP(b) „Prawdzie" został zamieszczony artykuł zatytułowany *O przyczynach wewnętrznych klęski militarnej Polski,* przygotowujący społeczeństwo sowieckie do mającej nastąpić inwazji na Polskę[2]. Jako jeden z głównych powodów dotychczasowych klęsk armii polskiej wskazywano złą (zbrodniczą) politykę II Rzeczypospolitej w stosunku do mniejszości narodowych, bezpośrednio wywodząca się z burżuazyjno-obszarniczego dziedzictwa państwa polskiego[3].

Trzy dni później, 17 września 1939 roku na skrwawioną wojną z hitlerowskimi Niemcami Polskę, która nie przestawała bronić Warszawy, napadł Związek Radziecki, wypełniając w ten sposób zobowiązania sojusznicze wobec Niemiec. Zabijając polskich oficerów i żołnierzy w potyczkach zbrojnych, rozstrzeliwując jeńców, w tym ludność cywilną, która okazała opór

* *"Zachodnia Białoruś"* to tereny województw: Białostockiego, Nowogródzkiego i Poleskiego które od 17 września 1939 r. i do 22 czerwca 1941 r., były anektowane przez władzę radziecką. Natomiast zgodnie z prawem międzynarodowym formalnie uznawane były jako część II Rzeczypospolitej.

1 *Центр хранения историко-документальных коллекций, бывший ОСОБЫЙ архив СССР*, ф.7, оп.1, д. 1223; https://www.gumer.info/bibliotek_Buks/History/Article/stal_rech39.php, (27.11.2019)

2 W. Śleszyński, *Historia w służbie polityki. Zmiany polityczne a konstruowanie przekazu historycznego na ziemiach białoruskich w XX i XXI wieku,* Białystok 2018, s. 155.

3 Ibidem, s. 155.

w Grodnie[4] i w innych miastach Zachodniej Białorusi[5], ZSRR wziął na siebie odpowiedzialność za wspólne z Niemcami wywołanie II wojny światowej.

Łamiąc zawarty z Polską 25 lipca 1932 roku pakt o nieagresji, rząd radziecki złamał również podpisany w 1921 roku traktat ryski, w którym uznał wschodnie granice Polski[6]. W celu usprawiedliwienia agresji rząd radziecki przygotował notę podpisaną przez Mołotowa, którą bez powodzenia próbowano wręczyć polskiemu ambasadorowi w Moskwie Wacławowi Grzybowskiemu. Pilnie wezwany 17 września do Ludowego Komisariatu Spraw Zagranicznych dyplomata polski zdecydowanie odmówił przyjęcia noty o godz. 3:15 czasu moskiewskiego, ponieważ uznał to za działanie bezprawne[7].

W nocie Mołotow napisał: „*Państwo polskie i jego rząd faktycznie przestały istnieć. Wskutek tego traktaty zawarte między ZSRR a Polską umowy utraciły swą moc. (…) Biorąc pod uwagę tę sytuację, rząd radziecki wydał rozkazy naczelnemu dowództwu Armii Czerwonej, aby jej oddziały przekroczyły granicę i wzięły pod obronę życie i mienie ludności zachodniej Ukrainy i zachodniej Białorusi, chroniąc ją przed niebezpieczeństwem zrujnowania i ucisku, skąd by ono nie pochodziło*”[8].

W wyniku agresji radzieckiej wschodnie województwa II Rzeczypospolitej znalazły się pod okupacją ZSRR. Okupacja trwała 21 miesięcy i 5 dni — od 17 września 1939 roku do wybuchu wojny radziecko-niemieckiej 22 czerwca 1941 roku[9]. Anektowane przez Związek Radziecki ziemie stanowiły 52% terytorium II Rzeczypospolitej (około 201 tys. km$^2$) i 25% jej ludności[10].

4 Więcej na ten temat w: C. Grzelak, *Wilno — Grodno — Kodziowce 1939*, Warszawa 2002; idem, *Płonące kresy. Wilno — Grodno — Kodziowce 1939. Bitwa z Armią Czerwoną na północno-wschodnich terenach Rzeczypospolitej,* Warszawa 2013; M. Lipka, *Tragedia oficerów Polskiej Marynarki Wojennej,*<http: //historia.trojmiasto.pl/Tragedia-oficerow-Polskiej-Marynarki-Wojennej-n55525.html>, [dostęp: 24.02.2016].

5 Więcej na ten temat w: L. Komaiszko, *Po pół wieku — do bratniej mogiły,* „Czerwony Sztandar", 10.10.1989; T. Gawin, *Zwycięstwa i porażki. Odrodzenie polskości na Białorusi w latach 1987–2000,* Białystok 2003, s. 105–108; Z. Mierzwiński, *Generałowie II Rzeczypospolitej,* Warszawa 1990, s. 195–200.

6 Oprócz tego 9 lutego 1929 r. w Moskwie podpisano wspólny protokół rządów ZSRR, Polski, Estonii, Łotwy i Rumunii, dotyczący wejścia w życie podpisanego w Paryżu 27 sierpnia 1928 r. traktatu przeciwwojennego o wyrzeczeniu się wojny jako instrumentu polityki narodowej. Był to pierwszy akt międzynarodowy, w którym rząd radziecki oświadczył, że nigdy i w żadnej sytuacji nie rozpocznie agresji wojskowej przeciwko swoim zachodnim sąsiadom. J. Łojek, *Agresja 17 września 1939. Studium aspektów politycznych,* Warszawa 1990, s. 19.

7 Więcej na ten temat w: А. Тарас, *Анатомия ненависти. Русско-польские конфликты в XVIII–XX вв.,* Минск 2008, с. 559–560.

8 *Российский государственный архив социально-политической истории* (dalej — РГАСПИ), ф. 82, оп. 2, д. 1285, л. 48–49: *Записки, информация, материалы Народного Комиссариата Иностранных дел, относящиеся к Польше 1922–1942 гг.*

9 K. Jasiewicz, *Rzeczywistość sowiecka 1939–1941 w świadectwach polskich Żydów*, Warszawa 2009, s. 35; J. J. Milewski, *17 września 1939 r. — zderzenie i dialog pamięci: polskiej, białoruskiej i żydowskiej*, [w:] *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі*, рэд. А. Смалянчук, Мінск 2015, s. 36–49; J. J. Milewski, A. Dobroński, *Armia Czerwona w relacjach świadków wydarzeń wrześniowych 1939 r. na ziemiach II Rzeczypospolitej Polskiej*, [w:] *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі,* рэд. А. Смалянчук, Мінск 2015, s. 50–62.

10 Więcej na temat okupacji sowieckiej w: А. Тарас, *Анатомия ненависти. Русско-польские конфликты в XVIII–XX вв.*, Минск 2008; W. Śleszyński, *Okupacja sowiecka na Białostocczyźnie 1939–1941. Propaganda*

Mówiąc o Polsce jako o państwie faszystowskim, gnębiącym przedstawicieli innych narodowości, Stalin oświadczył: „*Zniszczenie tego państwa w danej sytuacji oznacza, że jeszcze o jedno burżuazyjno-faszystowskie państwo będzie mniej! Czy będzie źle, gdy po rozbiciu Polski upowszechnimy system socjalistyczny na inne terytoria i ludność?*”[11]

Polityka Kremla w pierwszym etapie agresji na Polskę zawarta była w dyrektywie nr 01 Rady Wojskowej Frontu Białoruskiego, dotyczącej ustanowienia władzy radzieckiej w Zachodniej Białorusi i Zachodniej Ukrainie. Dyrektywę przygotowano i podpisano 16 września 1939 roku w Smoleńsku i przekazano wojskom biorącym udział w tzw. wyzwoleniu narodów pracujących spod eksploatacji panów i kapitalistów[12]. Sformułowano w niej 11 podstawowych zadań, które należało wykonać w pierwszej kolejności. Praktycznie rzecz biorąc Dyrektywa wskazywała drogę do sowietyzacji północno-wschodnich ziem II Rzeczypospolitej.

Pod pojęciem sowetyzacji rozumiano kompleks środków politycznych, ekonomicznych, kulturowych, religijnych i innych, opracowany przez najwyższe struktury partii i władzy państwowej Związku Radzieckiego, mający na celu tłumienie wszelkich przejawów sprzeciwu wobec ideologii komunistycznej, siłą narzuconej całemu społeczeństwu, zarówno w samym ZSRR, jak i w państwach od niego zależnych. W rezultacie krajom tym narzucono rozwiązania gospodarczo-społeczno-kulturalne początkowo obowiązujące w Rosji Radzieckiej, a później w ZSRR.

Zsowietyzowanie północno-wschodnich ziem II Rzeczypospolitej (Zachodniej Białorusi) miało być przeprowadzone na wzór radziecki. Najważniejszym była likwidacja istniejącej władzy „burżuazyjno-obszarniczej” i ustanowienie tymczasowych zarządów, tworzonych przy bezpośrednim

*i indoktrynacja*, Białystok 2001; idem, *Główne kierunki w polityce narodowościowej władz sowieckich na północno-wschodnich ziemiach II Rzeczypospolitej (Białoruś Zachodnia) w stosunku do ludności polskiej w latach 1939–1941*, [w:] *Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi*, red. E. Skrobocki, Grodno 2004; K. Jasiewicz, *Zagłada polskich Kresów. Ziemiaństwo polskie na Kresach Północno-Wschodnich Rzeczypospolitej pod okupacją sowiecką 1939–1941. Studium z dziejów zagłady dawnego narodu politycznego*, Warszawa 1997; *Okupacja sowiecka (1939–1941) w świetle tajnych dokumentów. Obywatele polscy na kresach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej pod okupacją sowiecką w latach 1939–1941*, wybór, oprac., wstęp K. Jasiewicz, T. Strzembosz, M. Wierzbicki, Warszawa 1996; *Studia z dziejów okupacji sowieckiej (1939–1941). Obywatele polscy na kresach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej pod okupacją sowiecką w latach 1939–1941*, red. T. Strzembosz, Warszawa 1997; A. Głowacki, *Sowieci wobec Polaków na ziemiach wschodnich II Rzeczypospolitej 1939–1941*, Łódź 1998; M. Gnatowski, *W radzieckich okowach (1939–1941). Studium o agresji 17 września 1939 r. i radzieckiej polityce w regionie łomżyńskim w latach 1939–1941*, Łomża 1997; J. Łojek, *Agresja 17 września 1939*, Warszawa 1990; L. Mikhailik, *Kościół katolicki na Grodzieńszczyźnie 1939–1956*, Warszawa 2008; T. Bodnar, *Znad Niemna przez Sybir do II Korpusu*, Wrocław 1997; A. Tomczyk, *Abyśmy mogli wybaczyć*, Warszawa 2001; B. Mazur, *Katyń: relacje, wspomnienia, publicystyka*, Warszawa 1989; A. Paul, *Katyń*, Warszawa 2006; P. Eberhardt, *Polska ludność kresowa: rodowód, liczebność, rozmieszczenie*, Warszawa 1998.

11 М. Мельтюхов, *Советско-польские войны*, Москва 2001, с. 278.

12 *Дзяржаўны архіў грамадскіх арганізацый Гродзенскай вобласці* (dalej — ДАГАГВ), ф. 9, воп. 33, ад. зах 3, арк. 3.

udziale operatywnych grup czekistów, które kontrolowały życie społeczne na okupowanych terytoriach[13].

Drugim ważnym zadaniem było zajęcie drukarń i wydawanie gazet w trzech językach — białoruskim, ukraińskim i polskim. Następne zadanie polegało na zabezpieczeniu ludności miejskiej w żywność i utworzeniu gwardii robotniczej. Zarządy tymczasowe powinny były zorganizować pierwsze akcje represyjne związane z podziałem ziemi należącej do ziemian, klasztorów i wysokich urzędników państwowych. Bezpośrednimi wykonawcami tych akcji były komitety chłopskie tworzone pod kierownictwem zarządów tymczasowych[14].

W specjalnym 5. punkcie dyrektywy tymczasowo zabroniono nie tylko zakładania kołchozów na okupowanych ziemiach wschodniej Polski, ale nawet zakazano agitacji do ich tworzenia[15]. Ostrożność w sprawie kolektywizacji świadczyła o dobrym rozeznaniu przedstawicieli nowej władzy w sprawach gospodarczych i tradycji miejscowej ludności, która bardzo ceniła własność ziemi.

Z dyrektywy nr 01 wynikało również, że władza radziecka zamierzała ostatecznie dokonać czwartego rozbioru Polski. Zamiast istniejącego niepodległego państwa polskiego planowano stworzenie Polskiej Socjalistycznej Republiki Radzieckiej[16].

Wielkie narodowe i religijne rozwarstwienie społeczeństwa, niski poziom życia większej części ludności, wpływ propagandy komunistycznej i jej podziemnej agentury[17], bezwzględna polonizacja sprzyjały kształtowaniu prokomunistycznych przekonań politycznych i kontestowaniu polskiej państwowości zarówno przed 17 września 1939 roku, jak i w pierwszych dniach sowieckiej ofensywy[18]. Przejawy dyskryminacji narodowej i religijnej różnych grup narodowych w przedwojennej Polsce przywiodły do tego, że liczne z nich uroczyście witały nową władzę z nadzieją na pozytywne zmiany w życiu społecznym, politycznym i gospodarczym, a żołnierzy Armii Czerwonej traktowały jako swoich wyzwolicieli[19].

---

13 K. Jasiewicz, *Pierwsi po diable. Elity sowieckie w okupowanej Polsce 1939–1941 (Białostocczyzna, Nowogródczyzna, Polesie, Wileńszczyzna)*, Warszawa 2001.

14 ДАГАГВ, ф. 9, воп. 33, ад. зах. 3, арк. 3.

15 Ibidem.

16 Ibidem.

17 Ibidem.

18 L. Mikhailik, *Kościół katolicki na Grodzieńszczyźnie*, s. 34.

19 M. Wierzbicki, *Stosunki polsko-białoruskie w okresie okupacji sowieckiej ziem północno-wschodnich II Rzeczypospolitej (1939–1941)*, [w:] *Studia z dziejów okupacji sowieckiej (1939–1941)*, Warszawa 1997, s. 7; E. Mironowicz, *Świadomość narodowa ludności białoruskiej Białostocczyzny (1944–1948)*, [w:] *Colloquium narodów: materiały z sympozjum „Litwini, Białorusini, Ukraińcy, Polacy — przesłanki pojednania"*, Łódź 1987, s. 50.

W pierwszych dniach okupacji radzieckiej na Grodzieńszczyźnie miały miejsce wystąpienia antypolskie, akcje dywersyjne, zbrojne bunty antypaństwowe oraz wypadki okazywania pomocy wywiadowczej jednostkom Armii Czerwonej[20].

Pisarz białoruski Alaksiej Karpiuk, potępiając przestępstwa zorganizowanych przez komunistów z KPZB grup bojowych, mówił w 1991 roku: *„My, Białorusini, mieliśmy „swój osobisty punkt widzenia", byliśmy oczarowani, bo przyszli „nasi"! W tym czasie Polacy przeżywali tragedię, lecz niewielu im współczuło"*[21]. Należy podkreślić, że było dosyć dużo wypadków, gdy Białorusini bronili Polaków, przedstawicieli państwa polskiego, podpisując i wysyłając petycje z żądaniem uwolnienia z aresztu „dobrych panów", przejawiając w ten sposób życzliwość i lojalność wobec nich[22]. Na przykład mieszkańcy białoruskiej wsi Sawalówka w rejonie grodzieńskim ukrywali przed samosądem bojówek KPZB swoich polskich sąsiadów osadników, sami narażając się na niebezpieczeństwo[23].

Grodzieńska badaczka Łarysa Michajlik uważa, że na obszarze polskich Kresów Wschodnich zderzyły się nie tylko dwie siły wojskowe, ale przede wszystkim dwa absolutnie różne światy. Z jednej strony był to świat oparty na tradycji wiary w Boga, z drugiej — świat odrzucający religię, niosący na bagnetach polityczne i kulturalne hasła obce większości okupowanego narodu[24]. Dla duchowieństwa katolickiego uzbrojeni obcy przybysze ze wschodu niczego dobrego przynieść nie mogli. W ich pamięci i w pamięci mieszkańców zachowały się tragiczne wspomnienia z rewolucji 1917 roku i wojny polsko-bolszewickiej, podczas których nie było litości ani dla księży, ani dla świątyń. Ateistyczna polityka ZSRR nie rokowała żadnej nadziei na normalne życie religijne[25].

Politykę władz okupacyjnych na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej (Zachodniej Białorusi) w okresie od 17 września 1939 roku do 22 czerwca 1941 roku wobec Polaków można podzielić na dwa etapy. Pierwszy (wrzesień 1939 roku — czerwiec 1940 roku) był czasem wzmocnionych nastrojów antypolskich, aresztów i represji, w tym zabójstw Polaków bez sądu i śledztwa oraz wypędzenia (deportacji) do północnych i wschodnich regionów

[20] Дз. Гаўрылін, *Падпольны райком дзейнічае*, [w:] *Памяць. Гродзенскі раён*, Мінск 1993, с. 80; J. Siemiński, *Walczące Grodno*, Białystok 1990, s. 35.

[21] T. Gawin, *Związek Polaków na Białorusi 1988–2005. Historia działalności*, Białystok 2007, s. 65; A. Karpiuk, *Nie będę mówił o Polakach*, „Głos znad Niemna", 1993, nr 36 (70).

[22] S. Silwanowicz, *Wydarzenia września 1939 na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej*, [w:] Problemy świadomości narodowej ludności polskiej na Białorusi, pod red. E. Skrobockiego, Grodno 2004, s. 289.

[23] A. Tomczyk, *Abyśmy mogli wybaczyć*, s. 223–229.

[24] Ibidem, s. 39.

[25] K. Biegun, *Prześladowanie Kościoła na ziemiach zagarniętych przez ZSRR po 17 IX 1939*, „Więź", 1993, nr 9 (419), s. 119.

ZSRR. Propozycja stworzenia Polskiej Socjalistycznej Republiki Radzieckiej, wysunięta przez byłego więźnia politycznego i byłego sekretarza związków zawodowych z Włocławka Stanisława Stanisławskiego i wysłana z Prużany 20 października 1939 roku do RKL ZSRR i KC WKP(b) została odrzucona, chociaż początkowo Kreml rozpatrywał taką możliwość[26]. Drugi etap (czerwiec 1940 roku — czerwiec 1941 roku) charakteryzował się stosunkowo liberalnym stosunkiem do Polaków.

W celu zalegalizowania zajęcia polskich ziem wschodnich i jednocześnie zniszczenia polskich struktur państwowych postanowiono zwołać Zgromadzenie Ludowe Zachodniej Białorusi[27]. 22 października 1939 roku „wybrano" deputowanych do Zgromadzenia Ludowego, które obradowało 28–30 października w Białymstoku i ogłosiło ustanowienie w Zachodniej Białorusi władzy radzieckiej[28]. 12 listopada 1939 roku na nadzwyczajnej III sesji Rady Najwyższej BSRR podjęto uchwałę o przyłączeniu Zachodniej Białorusi do BSRR. Pozwoliło to „legalnie" narzucić zasadę ludowładztwa (w formie istniejącej w Związku Radzieckim) na byłych ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej[29].

5 grudnia 1939 roku Prezydium Rady Najwyższej BSRR zatwierdziło nowy podział administracyjno-polityczny przyłączonej Zachodniej Białorusi. Utworzono pięć obwodów: baranowicki, białostocki, brzeski, wilejski i piński, które z kolei dzieliły się na rejony liczące po 35–50 tys. ludności. Władzę administracyjną na szczeblu obwodu i rejonu sprawowały komitety wykonawcze rad deputowanych robotniczych. Prezydium Rady Najwyższej BSRR zatwierdzało skład obwodowych komitetów wykonawczych, te z kolei — rejonowych, a rejonowe — rad wiejskich. Ostatecznie władzę administracyjną od zarządów tymczasowych komitety wykonawcze przejęły w marcu 1940 roku[30].

W związku z tym, że w systemie władzy politycznej w ZSRR główną rolę kierowniczą odgrywała partia komunistyczna, równolegle z powstawaniem struktur władzy wykonawczej tworzono struktury partyjne. W latach 1939–1940 do pracy w zachodnich obwodach BSRR z Moskwy i Mińska skierowano

---

26 Stanisław Stanisławski proponował na „wyzwolonych" etnicznych ziemiach polskich stworzenie Polskiej Socjalistycznej Republiki Radzieckiej w składzie ZSRR z językami urzędowymi polskim, rosyjskim, białoruskim i innymi w zależności od potrzeb językowych i składu narodowościowego ludności. РГАСПИ, ф. 82, оп. 2, д. 1285, л. 51–53.

27 ДАГАГВ, ф. 9, воп. 33, ад. зах 3, арк. 3.

28 А. Трафімчык, *Успаміны заходнікаў пра першыя савецкія выбары ў Ганцавіцкім раёне Брэсцкай вобласці*, [w:] *Восень 1939 года ў гістарычнай традыцыі і вуснай гісторыі*, Мінск 2015, с. 95–104.

29 K. Jasiewicz, *Rzeczywistość sowiecka 1939–1941 w świadectwach polskich Żydów*, s. 55.

30 E. Mironowicz, *Historia państw świata w XX wieku. Białoruś*, Warszawa 1999, s. 153.

У Ганцавічах з пачаткам германа-польскай вайны на аснове цывільнай, але ваенізаванай арганізацыі „Związek Strzelecki" стварылася народнае апалчэнне. Ці адыграла яно нейкую ролю ў тых падзеях, нам засталося невядома.



**Мабілізацыя і маршыраванне „Стралецкага саюза" ў Ганцавічах пасля весткі пра напад Германіі на Польшчу. Дзіця побач з калонай — Ян Станіслаў Туміловіч (фота з яго сямейнага архіва)**

Паводле пасляваенных успамінаў падпалкоўніка Яна Дышкевіча, аднаго з кіраўнікоў участка „Ганцавічы", да 16 верасня тут арганізавалі абарону на выпадак нападзення з усходу: гэта значыць Чырвонай арміі. Атрад пяхоты заняў пазіцыі ля моста ў Крышылавічах па дарозе на Востраў. Узвод пяхоты бараніў мост у вёсцы Галынка па дарозе на Агарэвічы. Узвод кулямётчыкаў у суправаджэнні пяхоты (у параўнанні з іншымі гэта найбольш моцная мілітарная адзінка) павінен быў ахоўваць ад нападу чыгунку на Ганцавічы ў месцы яе перакрыжавання са Слуцкім трактам[9].

Таксама асобна трэба зазначыць, што першыя „баявыя" крокі па Круговіцкай гміне вайна зрабіла яшчэ да нападу Савецкага Саюза на Польшчу 17 верасня 1939 г. З наступленнем вермахта нямецкія бомбы зваліліся на беларускія гарады і мястэчкі. Адразу пасля нападу авіяцыя люфтвафэ пачала бамбардзіраваць найбольш важныя стратэгічныя

9 *Wrzesień 1939 na Kresach w relacjach*, s. 110.

аб'екты, перадусім аэрадромы, чыгуначныя вузлы і нават звычайныя станцыі. У выніку пацярпелі, напрыклад, Гродна, Ліда, Кобрын, Баранавічы, Ганцавічы[10]. З апошняга прыкладу бачна, што нямецкія самалёты далятали практычна да польска-савецкай мяжы.

Па сведчаннях відавочцы-ганцаўца Яна Туміловіча, у выніку бамбардзіровак былі забітыя і параненыя. Калі верыць яго ўспамінам, дык на тэрыторыі Круговіцкай гміны ахвяры былі і з боку немцаў: *„Перад 10.IX.39, увечары, мая маці перавязала польскага жаўнера, дала хлеба, малака, коўдру, ён ледзь хадзіў. Ён сеў пад дрэвам. Нямецкі самалёт ляцеў даволі нізка, забіваючы людзей на дарозе. Мы пабеглі ў сховішча. Жаўнер прыцэліўся, стрэліў са стрэльбы, самалёт узляцеў уверх і ўпаў за лесам, людзі віталі, яны хацелі павіншаваць, але жаўнер быў мёртвы. Сёння я ведаю, што гонар быў мацнейшы, чым смерць. Налёты спыніліся. Мы ведалі, што Польшча была пад нямецкай акупацыяй"*[11].

Тым не менш, думаецца, што прыведзены аповед больш падобны да выдуманага, з шэрагу тых, якія нярэдка паўставалі пасля вайны ў выніку характэрных для грандыёзных падзей міфалагізацыі і гераізацыі. Алагічным для кантэксту выглядае адзінокі паранены і галодны (!) вайсковец у той час, калі пагранічныя часці і ў Ганцавічах, і ў Людвікове былі прыведзены да павышанай ступені падрыхтаванасці. Такі неверагодны факт, як знішчэнне варожага самалёта, таксама не мог быць праігнараваны ў іншых успамінах і крыніцах, але яго верыфікацыя нічога не дала. Адзінай пацверджанай дакументальна інфармацыяй з'яўляюцца звесткі пра наяўнасць ахвяр сярод мірных жыхароў Заходняй Беларусі ў выніку налётаў люфтвафэ. Таму такія маглі быць і ў мястэчку Круговіцкай гміны, бо праз яго праходзіла чыгунка, у ім размяшчалася вайсковая часць.

Прычым бамбардзіроўкам заходнебеларускіх населеных пунктаў і мірных жыхароў спрыяў Савецкі Саюз: паводле просьбы германскага боку з Мінска падаваліся спецыяльныя радыёсігналы ў якасці дапамогі для арыентацыі налётаў нямецкай авіяцыі[12]. Нямецкія бомбы падалі на галовы „заходнікаў" да пераходу польскай мяжы Чырвонай арміяй. Гэта значыць, савецкае кіраўніцтва дапамагала гітлераўцам знішчаць мірнае

10 Гл. падрабязней: *Pierwsze dni września 1939 r. w meldunkach sieci polskiego dozorowania przeciwlotniczego, wybór i przyg. A. Wesołowski, B. Stachula,* „Rocznik archiwalno-historyczny centralnego archiwum wojskowego" 2010, Nr 3/32, s. 221–306.

11 J. S. Tumiłowicz, *Wspomnienia Zesłańca,* „Echa Polesia" 2008, Nr 1, s. 31.

12 В. С. Коваль, *Довкола радянсько-польскої війни 1939 року,* „Історичні зошити" 1991, № 1, с. 32, 37; K. Sobczak, *Polska wojna wrześniowa na dwoch frontach 1.09–17.09–6.10.1939*, Warszawa 2005, s. 141–142; S. Dębski, *Między Berlinem a Moskwą. Stosunki niemiecko-sowieckie 1939–1941,* Warszawa 2007, s. 103–104.

насельніцтва Заходняй Беларусі, якую неўзабаве Чырвоная армія мелася ісці нібыта вызваляць.

Напярэдадні 17 верасня польскі бок неаднаразова назіраў неспакойны рух у стане савецкага войска. Адпаведныя праявы адзначыў капітан Шумлінскі: *„За некалькі дзён перад уваходжаннем савецкіх войскаў на тэрыторыю Польшчы ўздоўж мяжы было заўважана павелічэнне трафіку машын. Ноччу ўвесь пагранічны ўчастак быў асветлены рознакаляровымі ракетамі"*. Паводле капітана, савецкія вайскоўцы ні ў якім разе не хавалі сваіх намераў. На польскім баку ўлічвалася гэтая інфармацыя, бо даходзіла да падобных здарэнняў і ў папярэднія гады. Раніцай 17 верасня, паміж 4 і 5 гадзінамі па польскім часе (маскоўскі адрозніваўся на дзве гадзіны), тэлефоны разрываліся па ўсім польска-савецкім пагранічны. Кожная застава, якой яшчэ не перарвалі сувязь, паведамляла пра савецкую агрэсію[13].

## Баявыя дзеянні

У той дзень, калі яшчэ нават не развіднела, Чырвоная армія перайшла мяжу з Польшчай, тым самым парушаючы не менш за пяць падпісаных савецкім кіраўніцтвам міжнародных дакументаў, у тым ліку і ў першую чаргу — Рыжскі мірны дагавор 1921 г., які і ўстанаўліваў тую мяжу, а таксама дамовы з Польшчай аб ненападзенні 1932 г. Але паводле больш свежага дакумента — Савецка-германскай дамовы аб ненападзенні ад 23 жніўня 1939 г. — Заходняя Беларусь і польскія землі ажно да Варшавы траплялі ў сферу ўплыву СССР.

На Слуцкім участку ў кірунку Брэста войскам камандаваў камдзіў Васіль Чуйкоў — камандуючы 4-й арміяй Заходняй ваеннай акругі. Савецкую пяхоту падтрымлівала авіяцыя, а па найбольш значных кірунках — таксама матарызаваныя часці, у тым ліку танкі.

Яшчэ 14 верасня былі зроблены адпаведныя распараджэнні — выйшла *Директива № 16633 военному совету Белорусского особого военного округа о начале наступления против Польши*. У першым пункце дакумента размяркоўваліся ўдары па польскіх войсках. Адносна круговіцкага кірунку гаварылася:

*„г) Слуцкая группа — командующий группой — командующий Бобруйской армейской группой комдив тов. Чуйков, в составе 8-й стр. дивизии 29-й и 32-й танк[овых] бригад в районе Грозов, Тимковичи, Греск.*

[13] *Wrzesień 1939 na Kresach w relacjach,* s. 105; A. Matowski, *„Z Sowietami nie walczyć" — żołnierze Wojska Polskiego wobec agresora sowieckiego* [online], http://historia.org.pl/2010/01/26/z-sowietami-nie-walczyc-%E2%80%93-zolnierze-wojska-polskiego-wobec-agresora-sowieckiego/ [dostęp: 11.11.2019].

*Задача — действовать в направлении на г. Барановичи и к исходу 17 сентября выйти на фронт Снов, Жиличи"*.

Як вынікала з другога пункту, *„действия групп должны быть быстры и решительны, поэтому они не должны ввязываться во фронтальные бои на укрепленных позициях противника, а, оставляя заслоны с фронта, обходить фланги и заходить в тыл, продолжая выполнять поставленную задачу"*[14].

Польскія крыніцы ўдакладняюць, што КАП „Людвікова", у прыватнасці, атакавалі салдаты 17-га аддзела пагранічных войск НКУС[15].

Паказальна наступнае. Наступленне Чырвонай арміі для шырокіх мас называлася вызваленчым паходам. Аднак у вайсковым кантэксце фігуравала ваенная лексіка. Напрыклад, участак наступлення з боку БССР называўся „Беларускім фронтам". Гэта ўказвае на ўсведамленне стану вайны, а не ледзьве ні мірнага дзейства.

Спачатку кіраўніцтва брыгады „Палессе" нават сумнявалася, што напад здзейснілі часці рэгулярнай арміі (дапускалі, што гэта маглі быць засланыя з савецкага боку партызаны). Польскія пагранічнікі 9 застаў КАП „Людвікова" на чале з капітанам Шумлінскім, нягледзячы на сваю малую колькасць і слабае ўзбраенне, не былі заспетыя знянацку і змаглі некалькі гадзін весці бой на ўсім участку абароны працягласцю ў 75 км. Быў аддадзены загад утрымаць пазіцыі. Некаторыя заставы прымусілі ворага нават адступіць на зыходныя пазіцыі[16]. Паводле непацверджанай інфармацыі, здараліся выпадкі контратак з пераходам польскіх жаўнераў на савецкі бок мяжы[17]. Аднак сілы былі няроўныя. Польскія пагранічнікі пратрымаліся *„да другой паловы дня, згубіўшы забітымі і параненымі да двух дзясяткаў салдат"*[18]. А. Шумлінскі кажа пра 8 забітых, 9 параненых, 7 узятых у палон савецкімі войскамі. Былі, канечне, страты і з савецкага боку. Так, на ўчастку заставы Новы Рожан загінулі два чырвонаармейцы, яшчэ тры былі паранены[19].

---

14 *Катынь: Пленники необъявленной войны: Документы и материалы* / Федер. арх. служба России и др. Москва 1999, с. 33.

15 J. Prochwicz, *Formacje Korpusu Ochrony Pogranicza w 1939 roku*, Warszawa 2003, s. 197.

16 *Wrzesień 1939 na Kresach w relacjach*, s. 105; W. Cygan, *Kresy w ogniu. Wojna polsko-sowiecka 1939,* Warszawa 1990, s. 58; Cz. K. Grzelak, *Kresy w czerwniu. Agresja Związku Sowieckiego na Polskę w 1939 roku*, Warszawa 1998, s. 238–239.

17 Cz. K. Grzelak, *Kresy w czerwniu. Agresja Związku Sowieckiego na Polskę w 1939 roku*, s. 239.

18 *Ганцавічы. Традыцыі шчодрай зямлі*, Брэст 2011, с. 34.

19 A. Rosik-Rosiński, A. Ochał, *Wspomnienia podoficera KOP Antoniego Rosika-Rosińskiego*, „Przegląd Historyczno-Wojskowy" 2015, t. 16 (67), Nr 1 (251), S. 141.

У першыя гадзіны баёў, паводле ўспамінаў, польскім пагранічнікам прыйшлі на дапамогу мясцовыя жыхары з ліку мірнага насельніцтва[20]. Гэта магло быць з прычын як прыхільнасці да польскай улады (такія выпадкі хутчэй выключэнне), так і непрыняцця ўлады савецкай, якую ведалі і праз польскую прапаганду, і праз асабісты досвед, набыты дзякуючы жыццю пры мяжы. Магла спрацаваць традыцыйная для беларускай ментальнасці законапаслухмянасць. Тым не менш тэндэнцыі, падобнай да масавасці, у той дапамозе ніводнай з крыніц не назіралася: палітычныя прыхільнасці мясцовага сялянства знаходзіліся галоўным чынам у дыяпазоне паміж стрымана прасавецкімі настроямі і сацыяльнай інертнасцю.

Ужо ўдзень рэшткі польскага гарнізона вымушаны былі літаральна ўцякаць. Анджэй Шумлінскі запытаў у камандзіра брыгады „Палессе" палкоўніка Тадэвуша Ружыцкага-Каладзейчыка дазволу адступіць на лінію ракі Лань. Каля 16:30 быў атрыманы станоўчы адказ і пачаўся адыход. Тым часам капітан атрымаў новы загад: быць у Лунінцы да 9:00 раніцы 18 верасня. Але гэтае заданне выканаць аператыўна было немагчыма, бо ад Людвікова да Лунінца налічвалася пад сотню кіламетраў, а эвакуацыя складоў і афіцэрскіх сем'яў яшчэ не была завершана. У 21:30 17 верасня капітан Шумлінскі рушыў з часткай свайго батальёна да вёскі Вялікія Чучавічы (каля 50 км ад Лунінца). Туды павінна была падысці і рэшта батальёна. Праз палескія лясы і балоты, часам даючы бой закінутым ім у тыл савецкім дыверсійным групам, польскія пагранічнікі накіраваліся ў паднёва-заходні бок[21].

18 верасня батальён „Людвікова" ў 7:00 ранку сабраўся ў Чучавічах і пасля кароткага адпачынку накіраваўся на Лунінец. Вечарам, каля 20 гадзін, польскія пагранічнікі знаходзіліся за 10 км ад цэнтра павета. Там атрымалі загад стаць на начлег, прыкрываючы найбольш небяспечны бок. Раніцай загадана было прыбыць у Лунінец, куды і рушылі пешшу.

Частка пагранічнікаў батальёна „Людвікова" апынулася ў Ганцавічах. Там да іх далучылася разбітая група батальёна „Клецк"[22]. Гэты батальён у мястэчку з'явіўся на некалькі гадзін раней. На яго былі кінуты больш магутныя сілы Чырвонай арміі ўключна з танкамі і браніраванымі машынамі (звыш 130 адзінак), на чале іх стаяў камбрыг Сямён

[20] *Archiwum Wschodnie przy Ośrodku „KARTA" w Warszawie* (далей — AW), sygn. 132/162, k. 3–5.

[21] Cz. Grzelak, H. Snańczyk, *Kampania polska 1939 roku. Początek II wojny światowej*, Warszawa 2005, s. 517; W. Cygan, *Kresy w ogniu. Wojna polsko-sowiecka 1939,* s. 58.

[22] *Wrzesień 1939 na Kresach w relacjach*, s. 105–106; W. Cygan, *Kresy w ogniu. Wojna polsko-sowiecka 1939,* s. 66.

Крывашэін[23]. Гэта прывяло да аператыўных уцёкаў, дзеля чаго быў скарыстаны чыгуначны транспарт. З Ганцавіч батальёны да Лунінца дабіраліся разам, сеўшы на апошні цягнік[24]. Гэту інфармацыю пацвярджае паведамленне згаданага вышэй падпалкоўніка Дышкевіча пра тое, што частка байцоў батальёнаў „Клецк" і „Людвікова" адышла да Ганцавіч, дзе, як ужо было адзначана, знаходзіўся аднайменны эскадрон кавалерыі КАП, і адступіла пад арганізаваным прыкрыццем на поўдзень[25].




**Баявыя дзеянні ў Круговіцкай і суседніх гмінах 17–19 верасня 1939 г. Карта створана на аснове крыніцы: [online] http://www.kami.net.pl/kresy/ [dostęp: 11.11.2019]. Аўтар нанесеных умоўных абазначэнняў — кандыдат гістарычных навук Зміцер Віцько**

Звернем увагу на тое, што стратэгі Польскага Войска слушна спрагназавалі асноўныя напрамкі ўдараў на ўчастку мяжы, які мы разглядаем. Галоўная пагроза ў Круговіцкую гміну, як і меркавалася, прыйшла з поўначы — са Слуцкай шашы, якая дазваляла прапусціць вялікія аб'ёмы жывой сілы і тэхнікі. У той жа час аператыўна прарвацца непасрэдна з усходу — праз Людвікова, забалочаную і лясістую мясцовасць, — аказалася праблематычна.

[23] Cz. K. Grzelak, *Kresy w czerwniu. Agresja Związku Sowieckiego na Polskę w 1939 roku*, s. 279.

[24] W. Cygan, *Kresy w ogniu. Wojna polsko-sowiecka 1939,* s. 66.

[25] *Wrzesień 1939 na Kresach w relacjach*, s. 112.

Спачатку разбітыя польскія пагранічнікі, сабраныя ў Лунінцы, мелі ў планах прабівацца ў напрамку Варшавы, якая тым часам яшчэ трымала абарону[26]. Але потым, па атрыманні звестак, што Варшава занята ворагам, яны маглі, пэўна, спадзявацца толькі прарвацца да Румыніі ў эміграцыю, як гэта зрабілі многія іншыя польскія вайскоўцы.

Камандаванне абодвума батальёнамі прыняў падпалкоўнік Яцак Юра[27]. У ноч з 19 на 20 верасня батальёны КАП „Клецк" і „Людвікова" пасля пераезду цягніком праз раку Прыпяць пад Асавой былі атакаваны савецкімі танкавымі калонамі і пяхотнымі падраздзяленнямі, але здолелі адбіць атаку пасля доўгіх, да самай раніцы, гадзін баёў. Нягледзячы на велічэзныя страты, глыбокую стомленасць маршамі, голадам і баямі, байцы захавалі бадзёры дух. Тым не менш адступленне працягвалася. Пры гэтым польскія пагранічнікі дамагаліся і некаторых поспехаў. Так, па словах паручніка батальёна КАП „Клецк" Антона Собчыка, ноччу з 28 на 29 верасня яго кампанія напала на танкавую часці непрыяцеля і знішчыла 5 машын, прымусіўшы чырвонаармейцаў адступіць[28].

Зразумела, нават наяўнасць такіх подзвігаў не магла паўплываць на агульную сітуацыю. Кожная сутычка прыносіла чарговыя страты. Да таго ж да 1 кастрычніка польскія пагранічнікі двойчы траплялі ў акружэнне, але вырываліся з кальца. Каля Владавы быў прыняты апошні, асабліва жорсткі бой. Пасля яго пагранічнікам быў дадзены загад разысціся па дамах. Яны знішчылі зброю і, такім чынам, спынілі далейшую барацьбу[29].

## „Першыя саветы" прыйшлі

Цяжка сказаць, ці нечаканы для чырвонаармейцаў адпор на ўчастку мяжы ў кірунку Людвікова спрычыніўся да гэтага, ці прасоўванне па лясістай і забалочанай мясцовасці не было гладкім, але ў дзень нападу яны яшчэ не падышлі да цэнтра гміны, хоць яго ад мяжы аддзяляла каля 30 кіламетраў. Больш за тое, на ўчастку Лунінецкага павета сувязь (адно са слабых месцаў тагачаснай Чырвонай арміі, радыёсувязі ў савецкім войску, у адрозненне ад лепшых армій свету, яшчэ не было) пэўны час адсутнічала, і на раніцу 19 верасня ў цэнтральнага кіраўніцтва

26 *Wrzesień 1939 na Kresach w relacjach*, s. 111.

27 J. Prochwicz, *Walki oddziałów KOP na obszarach północno-wschodniej Polski*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne" 2000, nr 13, s. 39.

28 W. Cygan, *Kresy w ogniu. Wojna polsko-sowiecka 1939,* s. 66–67, 81.

29 *Wrzesień 1939 na Kresach w relacjach*, s. 107.

ваеннай кампаніі не было звестак, што там робіцца, наколькі прасунуліся вайсковыя часці[30].

Зрэшты, наступленне Чырвонай арміі на Круговіцкую гміну адбывалася не толькі з усходу. Яшчэ адзін удар наносіўся з поўначы. Яго ажыццяўлялі байцы 143-й стралковай дывізіі, якія яшчэ ў першы дзень авалодалі Клецкам, з дапамогай тэхнікі 29-й і 32-й лёгкатанкавых брыгад, на машынах Т-26. 18 верасня 143-я дывізія прасунулася да Сіняўкі. Там знаходжанне чырвонаармейцвў зафіксавана напрыканцы сутак — апоўначы[31].

Па ўсёй верагоднасці, два дні — 17 і 18 верасня — у гміне не было аніякай улады. Аднак пра нейкія праявы бандытызму ці марадзёрства, якія здараліся ў іншых мясцовасцях, інфармацыі не было. Польскія вайскоўцы адступалі з Людвікова на Чучавічы, таму ў вёсках гміны не з’яўляліся. Толькі праз Будчу, Круговічы, Шашкі, Агарэвічы маглі прамільгнуць пагранічнікі, кіруючыся на чыгуначную станцыю. Ды і то, хутчэй за ўсё, яны пераадолелі адлегласць вузкакалейнай чыгункай, а значыць, лесам, паўднёвым бокам ад цэнтра гміны.

Паводле некаторых успамінаў, Чырвоная армія ўвайшла ў мястэчка Ганцавічы не ў дзень пачатку неабвешчанай вайны СССР супраць Польскай Рэспублікі[32]. Навуковая літаратура ўдакладняе: часці Чырвонай арміі 19 верасня мястэчка Ганцавічы ўжо мінулі[33]. Паколькі паміж Круговічамі і Ганцавічамі адлегласць невялікая, думаецца, што і ў цэнтры гміны чырвонаармейцы паявіліся ў той жа дзень, што і ў мястэчку, 18 або 19 верасня.

Паводле ўспамінаў колішняга дырэктара Круговіцкай школы Уладзіміра Іванавіча Мухі (1934–2015), Чырвоная армія ўваходзіла ў Вялікія Круговічы не з усходняга боку, адкуль ляжаў карацейшы шлях ад савецка-польскай мяжы, а з заходняга. Менавіта там, паміж Вялікімі Круговічамі і Шашкамі, была пабудавана над дарогай упрыгожаная арка. Адкуль дакладна паявіліся першыя чырвонаармейцы, рэспандэнт не канкрэтызаваў.

Таксама ёсць інфармацыя, што ў Сіняўцы Чырвоная армія была толькі познім вечарам 18 верасня[34]. Мястэчка салдаты прайшлі не

30 *„Zachodnia Białoruś". Wydarzenia i losy ludzkie. Rok 1939*. Warszawa 1998, s. 116.

31 *Dziennik Działań bojowych frontu białoruskiego we wrześniu 1939 roku* / Wstęp i opracowanie Czesław Grzelak, Warszawa 1998, s. 301; *Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Клецкага раёна* / Уклад. М.С. Кусянкоў, Мінск 1999, с. 242, 245.

32 AW, sygn. 133/164, № 5045 — Błaszewicz Tadeusz, Malkowicze, k. 1; № 10369 — Tomaszewski Józef, Jaśkowicze, k. 24; sygn. 132/162, № 3032 — M.W. Konduktor PKP, m. Hancewicze, k. 3.

33 Cz. Grzelak, H. Snańczyk, *Kampania polska 1939 roku. Początek II wojny światowej*, s. 525.

34 *Памяць,* с. 242, 245.

затрымліваючыся. Значыць, раней у Круговічы яны не маглі патрапіць. Але, улічваючы невялікую адлегласць і адносна добрую дарогу, гэта адбылося і не пазней за 19 верасня.

Такім чынам, успаміны і пісьмовыя крыніцы арганічна паміж сабой стасуюцца. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што першымі дабраліся да Круговіч не тыя часці, якія наступалі праз Людвікова, а больш магутныя, добра матарызаваныя вайсковыя адзінкі, што рухаліся па слуцкай шашы: у Сіняўцы яны маглі звярнуць у бок Ганцавіч і прыйсці ў Круговічы менавіта з захаду, праз Агарэвічы. Прыход з поўначы, праз Малыя Круговічы, меней верагодны з-за кепскай дарогі.

У беларускай гістарыяграфіі пастуліраваны тэзіс пра надзвычай прыязную сустрэчу Чырвонай арміі па ўсёй заходнебеларускай мясцовасці. Як і ў большасці заходнебеларускіх вёсак, у Круговічах чакалі з усходу лепшага жыцця. Салдат Чырвонай арміі называлі не інакш як „*нашымі*”[35]. Вясковыя жыхары сустракалі новыя ўлады святочным чынам: у лепшым адзенні і з кветкамі. Праўда, тая акцыя — перадусім усталяванне брамы для вітання новай улады — была тады тыповай для заходнебеларускіх вёсак, што наводзіць на думку пра яе інспіраванне з усходу (не маглі ж вяскоўцы ад Палесся да Віленшчыны згаварыцца, як адзін, і паставіць сотні спектакляў па адным сцэнарыі!).

Не адмаўляючы фактаў прыязнай сустрэчы Чырвонай арміі „заходнікамі”, мусім паведаміць, што знаходзіцца і контраверсійная інфармацыя. У прыватнасці, мясцовы жыхар Мікалай Блінкоўскі сцвярджае, што сярод землякоў не бачыў асаблівага выяўлення прыўзнятых пачуццяў: „*У кастрычніку месяцы 1939 г. ад самага нараджэння я жыў у вёсцы Вялікія Круговічы Лунінецкага павета. Праз некалькі дзён пасля пераходу мяжы Польшчы савецкімі войскамі з'явіліся ў нас прадстаўнікі НКВД. Мясцовае насельніцтва не выказвала наогул ніякай радасці, але знайшлося некалькі такіх, якія мелі з часоў да верасня 1939 г. кепскую характарыстыку, яны віталі тых саветаў нават збудаванай трыумфальнай брамай, у далейшым праявіўшы вялікую актыўнасць у знішчэнні ўсялякага польскага даробку*”[36]. Ацэнка М. Блінкоўскага тым не менш будзе мець залежнасць ад яго антысавецкай пазіцыі (у лютым 1940 г. ён быў рэпрэсаваны — дэпартаваны на поўнач) і, такім чынам, павялічваць ступень супрацьсавецкай антыпатыі.

[35] Успаміны жыхароў в. Вялікія Круговічы: Яніны Трафімчык (1939–2012), Віктара Трафімчыка (1937–2014), Надзеі Блінкоўскай (нар. у 1934 г.) і інш.

[36] AW, sygn. sygn. 132/162, № 3310 Blinkowski Mikołaj, k. 76.

У адзіным гарадку, ці, як тады казалі, мястэчку, Круговіцкай гміны — у Ганцавічах — карціна ўяўлялася больш брутальнай: *„З 17 па 18 жніўня* (відавочная памылка, трэба — верасня і, як адзначалася вышэй, на суткі-другія пазней. — А. Т.) *1939 года ў вялікай колькасці савецкія войскі ўвайшлі, як саранча, у Ганцавічы, гэты факт быў папярэджаны распаўсюджваннем улётак, якія заклікалі да капітуляцыі польскіх сіл. Вельмі стомлены бяссоннай ноччу, я прачнуўся каля поўдня. Ля акна стаялі дарослыя з сем'ямі. Я пабег… быў сведкам… першы раз я ўбачыў чырвонаармейцаў, якія стралялі ва ўсіх мужчын, якія былі хоць бы часткова апрануты ў польскі мундзір. Прыбыўшы з тылу польскіх войскаў, савецкія танкі раздушылі ўсе аўтамабілі з людзьмі і грузам, спіхваючы іх з дарогі ў канавы. У той жа дзень НКУС палавіла польскіх салдат. Затым быў складзены перапіс на прымусовую працу для палякаў ва ўзросце 18–50 гадоў. Захопнікі вызвалілі з турмы злачынцаў, прызначаючы іх на розныя пасады. Былі закрыты школа і касцёл. Бабуля сказала: „Вы бачылі, як некалькі здраднікаў пасля павязання чырвоных паскаў з кветкамі ў руках віталі саветаў?”*[37]

Варта зазначыць, што любыя ўспаміны, да таго ж у сітуацыі экзістэнцыяльнага характару, схільныя да суб'ектывізму. Але і з такіх тэндэнцыйных інтанацый можна выкрышталізаваць фактуру. А яна ўказвае на надзвычай складаную сітуацыю ў верасні 1939 г., асабліва што датычыцца патрыётаў Польшчы.

У большасці сваёй жыхары Круговіцкай гміны сустракалі новую ўладу прыязна і з надзеяй на лепшую будучыню. У многім „заходнікі” кіраваліся непрыняццем папярэдняй улады, што прызнаецца і самімі польскімі гісторыкамі[38]. У дачыненні беларусаў у міжваеннай Польскай Рэспубліцы, сапраўды, не ўдалася ні нацыянальная, ні сацыяльная палітыка. Але нідзе не паведамляецца пра масавыя народныя вітанні савецкіх салдат жыхарамі названай гміны. Хутчэй за ўсё, рэакцыя ў асноўным сялянскага насельніцтва азначанай тэрыторыі збольшага была стрыманай і памяркоўнай. Разам з тым знайшліся і актывісты — сімпатыкі саветаў, якія і шчыравалі ў справе арганізацыі гларыфікацыі бальшавікоў, і спрыялі ў далейшым фарміраванню стэрэатыпа пра ўсенароднае актыўнае вітанне новай улады.

Аднак першыя ж сустрэчы сялян з чырвонаармейцамі прымушалі задумацца над будучыняй. Многія пасажы ў „заходнікаў” выклікалі як мінімум

[37] J. S. Tumiłowicz, *Wspomnienia Zesłańca*, s. 27.
[38] W. Śleszyński, *Województwo Poleskie*, Kraków 2014, s. 307–308.

здзіўленне. Так, паводле ўспамінаў Мікалая Аляксандравіча Чабатарэнкі[39], дзяцінства якога прыйшлося на той час, да іх зайшлі худыя, у зацёртых гімнасцёрках і амаль босыя чырвонаармейцы з камандзірам, каб, па іх словах, перакусіць. Пад выстаўленую бацькам добрую беларускую самагонку, ласуючыся шырэйшым за далонь салам, галавакружнага водару кумпяком (сушанае ў прыправах мяса верхняй часткі свіной нагі), „пальцам пханай" каўбаскай, што для іх было дзівам-дзіўным, камандзір з набітым ротам толькі прыгаворваў: *„Мы вас вызвалім з-пад панскага прыгнёту!"*

У выніку ўсіх апісаных падзей не пазней за 19 верасня тэрыторыю гміны — ад Людвікова да Ганцавіч — захапілі часці Чырвонай арміі. Настала пара ў няпоўныя два гады, названая „заходнікамі" (пасля заканчэння Другой сусветнай вайны) „першымі саветамі". Яны, на думку народных мас, былі лепшымі, чым „другія саветы": першыя неўзабаве сышлі, а другія засталіся надоўга.

## Заключэнне

Такім чынам, верасень 1939 г. у Круговіцкай гміне выдаўся гарачы ва ўсіх сэнсах. Надвор'е стаяла летняе[40]. Палітычнае жыццё віравала, зацягваючы свет у Другую сусветную вайну.

Многія жыхары Круговіцкай гміны тым часам служылі ў Польскім Войску і ваявалі сыпраць германа-нацыскіх агрэсараў. З самых першых момантаў вайны яе подых адчуваўся і ў далёкай ад фронту Круговіцкай гміне. Тэхнічныя магчымасці самалётаў ужо тады дазвалялі пераадольваць сотні кіламетраў. Гэта і рабілі нямецкія бамбардзіроўшчыкі, скідваючы бомбы на галовы мірных жыхароў. Некаторыя крыніцы сведчаць, што ў выніку налётаў былі ахвяры ў многіх заходнебеларускіх населеных пунктах, у тым ліку ў Ганцавічах.

17 верасня адбыліся першыя баі і на тэрыторыі Круговіцкай гміны. Нягледзячы на мірную дамову з Польшчай, Савецкі Саюз накіраваў Чырвоную армію на захоп тэрыторыі. Першымі яму супрацьстаялі польскія пагранічнікі. Адна з іх частак дыслакавалася ў Людвікове, ёй

[39] Жыхар вёскі Вялікія Круговічы (нар. у 1920-х гг., памёр каля 2000 г.). Запіс у асабістым архіве аўтара.

[40] Сімптаматычна, што спрацавала народная прыкмета: *„Старыя людзі кажуць, што гарачае лета прадвяшчае незвычайныя, вялікія здарэньня ў палітычным жыцьці. Заўседы пасьля гарачыні і духаты ідзе навальніца, ці бура. І вось і народ у даўгой летняй духаце прадчувае нешта надзвычайнае, страшэннае ў жацьці народаў. …Не хадзіўшы далека, успомнім, што гарачае лета было перад апошняй вайной* (маецца на ўвазе Першая сусветная вайна. — *А. Т.*), *што гарачыня і духата стаяла ў лета рэвалюцыі перад бальшавіцакй навалай* (1917 г. — А. Т.). *Лета гэтага году рана пачалося і па гэты дзень досыць гарачае і сухое, такім яно мусіць быць і да канца",—* прарочa гаворыцца ў артыкуле выдання беларускіх незалежнікаў: Civis. *Не чакайце міру*, „Незалежная думка", 1920, 11 ліпеня, с. 1.

дапамагаў эскадрон кавалерыі, які размяшчаўся побач, у Ганцавічах. Яны, пры ўсёй сваёй ваеннай слабасці, на той момант змаглі даць бой агрэсару.

Польскія вайскоўцы ў выніку вымушаны былі адступіць. Пагранічнікі КАП „Людвікова" аб'ядналіся з іншымі часцямі і нават калі-нікалі вынікова агрызаліся. Праціўнік тым часам наступаў вельмі напорыста, імкліва. Барацьба працягвалася нядоўга — не больш за два тыдні. За гэты час уцекачы пераадолелі сотні кіламетраў, завяршыўшы супрацьстаянне ажно за Брэстам.

З-за супраціву на ўчастку мяжы КАП „Людвікова", а таксама, напэўна, з прычыны не зусім спрыяльных дарог Чырвоная армія прыйшла ў Круговічы не адразу, да таго ж не з усходняга боку, а гасцінцам з Сіняўкі. Яе з'яўленне ўспрымалася па-рознаму. Натуральна, палякі ўспрымалі падзеі як трагедыю. Беларусы ў большасці — са спадзяваннем на змены да лепшага. Разам з тым прысутнічала і пэўная насцярожанасць да новай улады. Як паказалі самыя першыя дні — не дарэмна. Саветы адразу пачалі сябе праяўляць неадназначна.

Зразумела, падзеі прывялі да немалой колькасці ахвяр. Асобы некаторых удалося вызначыць. Паказальна, што гісторыя не захавала імён пацярпелых з боку тых, хто наступаў, — чырвонаармейцаў. Хоць такія былі. Як ужо не раз здаралася ў гісторыі, па абодва бакі знаходзіліся, а значыць, і гінулі, беларусы. Тым не менш гэта была яшчэ не ўся вайна — толькі яе пачатак.

## Streszczenie

Anatol Trafimczyk, *Wrzesień 1939 r. w gminie Kruchowicze powiatu łuninieckiego: dzieje wojenne*

Autor na podstawie konkretnej jednostki administracyjnej – gminy Kruhowicze powiatu łuninieckiego województwa poleskiego, prezentuje tragiczne dzieje września 1939 r. W tym czasie Zachodnia Białoruś po zajęciu przez Armię Czerwoną zmieniła swoją przynależność państwową i została włączona w skład ZSRR. Działania wojenne na terenie gminy były krótkotrwałe, ponieważ strona polska była pod względem wojskowym znacznie słabsza i została zmuszona do odwrotu. Nadejście radzieckich wojsk i władzy radzieckiej zostało przyjęte prze mieszkańców gminy różnie. Dla Polaków była to tragedia, zaś Białorusini oczekiwali zmian i poprawy warunków życia. Równocześnie istniała pewna ostrożność w odniesieniu do nowej władzy, ponieważ Sowiety od początku prowadziły niejednoznaczną politykę wobec mieszkańców.

## Abstract

Anatol Trafimchyk, *September of 1939, in Kruhovitskaya Commune, Luninets district: military events*

The author covers the tragic events of September 1939 on the example of a specific administrative unit, Kruhovitskaya Commune, Lunenets district, Polesie Region. This is the time when Western Belarus changed its state affiliation — was captured by the Red Army and annexed to the USSR. The fighting on those territories were not so long-lasting, as the Polish side was much weaker militarily, and as a result they were forced to retreat. The arrival of the Soviet army and Soviet power was perceived differently by the population of this region. It was a tragedy for Poles, and Belarusians hoped for a change for the better. At the same time, there was a certain apprehension about the new government, due to the fact that the Soviets immediately began to show ambiguity towards the civilian population.

Міхаіл Пастухоў (Мінск)

# Аб утварэнні пасады ўпаўнаважанага па правах чалавека ў Рэспубліцы Беларусь

## Узнікненне і развіццё інстытута ўпаўнаважанага па правах чалавека

Упершыню інстытут упаўнаважанага па правах чалавека быў утвораны ў Швецыі ў 1713 годзе. Тады кароль Карл XII на доўгі час апынуўся па-за межамі сваёй краіны (пасля паражэння пад Палтавай ён знаходзіўся ў Турцыі). З мэтай папярэджання ў дзяржаве хваляванняў і беспарадкаў кароль прызначыў свайго ўпаўнаважанага (амбудсмена). Ягонай задачай сталася вырашэнне спрэчак, якія ўзнікалі паміж падданымі і органамі дзяржаўнай улады. Пазней гэты ўпаўнаважаны стаў называцца канцлерам юстыцыі. На аснове Акта аб кіраванні 1809 г. была ўведзена пасада парламенцкага прадстаўніка для нагляду за захаваннем законнасці судамі і іншымі органамі ўлады[1].

У 1919 годзе інстытут амбудсмена быў замацаваны ў Канстытуцыі новай незалежнай дзяржавы — Фінляндыі. У 50-ыя гады XX ст. гэткая пасада з'явілася ў Даніі і Нарвегіі. Пазней інстытут амбудсмена як прадстаўніка правоў грамадзян у адносінах з органамі дзяржаўнай улады запазычылі і іншыя краіны. Так, у 1967 г. пасада ўпаўнаважанага па правах чалавека была ўтворана ў Вялікабрытаніі. Яго паўнамоцтвы абмяжоўваліся разглядам скаргаў грамадзян на дзеянні ўрадавых чыноўнікаў. Пры гэтым дапускаўся шэраг выняткаў з ягонай сферы кантролю (напрыклад, кіраванне абаронай краіны, нацыянальнай прамысловасцю, аховай здароўя).

Яшчэ пазней дадзены інстытут быў заснаваны ў Канадзе, Аўстраліі і ЗША. Прычым у ЗША амбудсмены з'яўляліся ў асобных штатах і нават у некаторых гарадах. Аднак у гэтай краіне азначаны інстытут не атрымаў усё ж значанага развіцця. Гэта можна патлумачыць, з аднаго боку, невысокай эфектыўнасцю дзейнасці амбудсменаў, а з другога — магчымасцю разгляду любых спрэчак у судовым парадку.

Канстытуцыя Партугаліі 1976 г. замацавала права кожнага грамадзяніна звяртацца за абаронай сваіх правоў да парламенцкага ўпаўнава-

1 Н. Ю. Хаманева, *Уполномоченный по правам человека — защитник прав граждан*, Москва 1998, с. 8.

жанага. У Гішпаніі пасля падзення рэжыму Франка быў утвораны інстытут народнага абаронцы.

У 1982 г. паўстае пасада амбудсмена ў Нідэрландах, дзе ён дзейнічае паралельна з сістэмай адміністрацыйнай юстыцыі.

У Францыі ролю амбудсмена выконвае медыятар. Ён прызначаецца ўрадам і закліка_ны садзейнічаць аднаўленню парушаных правоў грамадзян краіны, не абвастраючы пры гэтым адносін з органамі кіравання.

Пасля распаду Савецкага Саюза, а затым і ўсяго сацыялістычнага лагера ў былых сацыялістычных краінах пачалі ўтварацца пасады амбудсменаў у форме ўпаўнаважаных па правах чалавека.

Першай краінай Усходняй Еўропы, дзе была ўведзена пасада ўпаўнаважанага па правах чалавека, стала Польшча. Першапачаткова яго статус рэгуляваўся Законам, прынятым 15 ліпеня 1987 г. Праз два гады ў Канстытуцыю Польшчы быў уключаны артыкул 36а, у якім прадугледжвалася ўтварэнне пасады ўпаўнаважанага па правах чалавека. Новая Канстытуцыя Рэспублікі Польшча, прынятая 2 красавіка 1997 г., прысвяціла амбудсмену шэсць артыкулаў (арт. 208–212), якія ўключаны ў раздзел IX *„Органы дзяржаўнага кантролю і нагляду”*. Акрамя таго, у раздзел II *„Свабоды, правы і абавязкі чалавека і грамадзяніна”* ўключаны артыкул 80, які гарантуе кожнаму права на зварот да Упаўнаважанага *„…з просьбай аб дапамозе ў ахове сваіх правоў і свабод, парушаных органамі публічнай улады”*[2]. Пазней пасада ўпаўнаважанага была заснавана ў іншых постсацыялістычных краінах прыкладна з аднолькавым статусам.

У Расійскай Федэрацыі пасада ўпаўнаважанага па правах чалавека была ўтворана законам ад 26 лютага 1997 г. *„…в целях обеспечения государственной защиты прав и свобод граждан, их соблюдения и уважения государственными органами, органами местного самоуправления и должностными лицами”*[3].

Спецыфічны ўзор інстытута амбудсмена ўяўляе сабой упаўнаважаны па правах чалавека ў Казахстане. Ён прызначаецца на пасаду Прэзідэнтам пасля кансультацый з камітэтамі палат парламента.

На сённяшні дзень інстытут упаўнаважанага па правах чалавека прысутнічае больш чым у 100 краінах. У адных краінах той, хто займае гэту пасаду, называецца амбудсменам (Швецыя, Нарвегія, Бельгія,

[2] А. Е. Вашкевич, *Основы конституционного права Республики Польша: пособие для студентов вузов,* Минск 2007, с. 209.

[3] Федеральный конституционный закон *„Об Уполномоченном по правам человека в Российской Федерации” от 26 февраля 1997 г.*, „Собрание законодательства РФ”, 1997, № 9, ст. 1011.

Фінляндыя), у другіх — медыятарам (Францыя), у трэціх — парламенцкім упаўнаважаным (Вялікабрытанія), у чацвёртых — упаўнаважаным па правах чалавека (у многіх еўрапейскіх краінах і ў краінах СНД).

Асноўным накірункам дзейнасці ўпаўнаважанага па правах чалавека з'яўляецца абарона правоў грамадзян ад розных супрацьпраўных дзеянняў органаў кіравання, адказных асоб і служачых дзяржаўнага апарату.

Дзеля дасягнення гэтай мэты ўпаўнаважаны па правах чалавека (далей — упаўнаважаны) павінен быць незалежнай асобай. Таму ў большасці краін ён абіраецца парламентам. У той жа час у шэрагу краін утвораны службы выканаўчых амбудсменаў. Так, у Францыі медыятар прызначаецца на пасаду ўрадам на шасцігадовы тэрмін. У Вялікабрытаніі ўпаўнаважаны прызначаецца каралевай паводле рэкамендацыі прэм'ер-міністра на чатыры гады.

Сфера кампетэнцый упаўнаважаных па правах чалавека (амбудсменаў) пашыраецца, як правіла, на дзеянні (пастановы) органаў дзяржаўнага кіравання. У некаторых краінах (Швецыі, Фінляндыі, Польшчы) гэтыя адказныя асобы ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы адносна не толькі органаў выканаўчай улады, але і судоў, пенітэнцыярных устаноў, органаў мясцовага самакіравання.

Як паказвае практыка, інстытут упаўнаважанага па правах чалавека даступны для грамадзян. Да гэтай асобы можна звяртацца ў любой форме, у тым ліку і ў вуснай. Для абароны правоў грамадзян упаўнаважаны (амбудсмен) можа выкарыстоўваць шырокі набор сродкаў, у тым ліку звароты ў суды, у пракуратуру, у парламент. У выпадку грубага парушэння правоў чалавека ён можа паставіць пытанне аб прыцягненні вінаватых адказных асоб да дысцыплінарнай і нават крымінальнай адказнасці.

Тым самым інстытут упаўнаважанага па правах чалавека з'яўляецца важным інструментам у сістэме аховы права. Ён служыць дадатковым сродкам абароны правоў грамадзян разам з іншымі механізмамі абароны.

## Формы абароны правоў чалавека ў дзейнасці ўпаўнаважанага

Асноўная прэрагатыва ўпаўнаважаных (амбудсменаў) заключаецца ў разглядзе скаргаў грамадзян на дзеянні і пастановы органаў кіравання і адказных асоб.

Найбольш шырокія паўнамоцтвы маюць шведскія амбудсмены. У прыватнасці, яны могуць разглядаць скаргі грамадзян на дзейнасць

усіх органаў кіравання, судоў, муніцыпальных органаў і іх адказных асоб (акрамя дэпутатаў парламента, членаў урада, членаў кантрольнай рады шведскага банка, а таксама членаў муніцыпальных рад). На падставе заяў грамадзян яны могуць правяраць якасць правядзення папярэдняга расследавання, а таксама законнасць судовага разбіральніцтва. На падставе скаргаў грамадзян яны могуць інспектаваць турмы і іншыя пенітэнцыярныя ўстановы, клінікі для псіхічна хворых. Прычым падчас праверкі амбудсмен мае права паводле ўласнага меркавання вывучаць матэрыялы крымінальных і грамадзянскіх спраў, ацэньваць законнасць і абгрунтаванасць вынесеных па гэтых справах пастаноў.

Сфера дзейнасці фінскіх амбудсменаў таксама звязана з праверкай скаргаў грамадзян на дзеянні і пастановы органаў кіравання і службовых асоб. Акрамя амбудсмена па агульных пытаннях у Фінляндыі ёсць таксама пасада амбудсмена па пытаннях роўнасці правоў мужчын і жанчын.

У Нарвегіі і Даніі амбудсмены маюць права ажыццяўляць кантроль не толькі ў сферы кіравання, але і ў дзейнасці судоў, парламента і ўрада.

У Францыі амбудсмен (медыятар) разглядае скаргі грамадзян на дзеянні дзяржаўных служачых. Аднак ён не можа разглядаць скаргі, якія маюць службовы характар, з'яўляюцца прадметам судовага разбіральніцтва, а таксама звязаны з нацыянальнай абаронай, бяспекай і знешняй палітыкай.

Упаўнаважаны ў Вялікабрытаніі надзелены правам разгляду скаргаў на „дрэннае кіраванне" (з англ. „*maladministration*" — неналежнае выкананне адміністрацыйных функцый). З улікам прэцэдэнтнага права „дрэннае кіраванне" ўключае ў сябе незаконныя дзеянні і пастановы органаў выканаўчай улады, а таксама дзеянні, якія могуць выклікаць непажаданыя наступствы для грамадзяніна і яго блізкіх. Крыніцамі „дрэннага кіравання" могуць быць: закон, на падставе якога прынята пастанова альбо выканана дзеянне; працэдура прыняцця пастаноў; якасць выканання пастаноў[4].

Упаўнаважаны па правах грамадзян Рэспублікі Польшча ажыццяўляе кантроль за пастановамі і дзеяннямі органаў кіравання і адказных асоб. Пры гэтым ацэнка пастаноў і дзеянняў даецца не толькі з пункту гледжання законнасці, але таксама з пазіцый этыкі і маральнасці. Сфера кантролю пашыраецца на дзейнасць вайсковай адміністрацыі, органаў

[4] Н. Ю. Хаманева, *Уполномоченный по правам человека*, с. 32.

унутраных спраў, а таксама дзейнасць судоў у рамках, якія не парушаюць прынцып незалежнасці судоў.

У кампетэнцыю ўпаўнаважанага па правах чалавека Расійскай Федэрацыі ўваходзіць разгляд скаргаў на пастановы ці дзеянні дзяржаўных органаў, органаў мясцовага самакіравання, адказных асоб пры ўмове, што заяўнік абскардзіў гэтыя пастановы ці дзеянні ў судовым альбо адміністрацыйным парадку, але не згодны з пастановай, прынятай па яго скарзе (арт.16 Закона).

Пры наяўнасці інфармацыі пра маштабныя ці грубыя парушэнні правоў і свабод грамадзян, а таксама ў выпадках, якія маюць асаблівае грамадскае значэнне ці звязаны з неабходнасцю абароны інтарэсаў асоб, не здольных самастойна выкарыстаць прававыя сродкі абароны, упаўнаважаны можа прыняць адпаведныя захады паводле ўласнай ініцыятывы (арт. 21 Закона).

Практычна ва ўсіх краінах наладжваецца непасрэдны кантакт амбудсмена з заяўнікам. Выключэнне складаюць Францыя і Вялікабрытанія, дзе скаргі падаюцца праз членаў парламента. Так, у Францыі дэпутат ці сенатар можа перадаць скаргу медыятару, калі яна, паводле яго меркавання, заслугоўвае ўвагі. У Вялікабрытаніі ўпаўнаважаны разглядае толькі скаргі, якія падаюцца праз членаў Палаты прадстаўнікоў.

Скаргі папярэдне вывучаюцца ў сакратарыяце (бюро) упаўнаважанага. Па кожнай з іх прымаецца рашэнне, пра што паведамляецца заяўніку. На практыцы значная частка скаргаў адхіляецца (па прычыне іх непадведамаснасці медыятару, а таксама неабгрунтаванасці і нязначнасці). Па астатніх праводзіцца праверка.

Упаўнаважаныя (амбудсмены) надзяляюцца шырокімі паўнамоцтвамі ў частцы праверкі фактаў. Так, паводле арт. 23 Федэральнага канстытуцыйнага закона Расійскай Федэрацыі „*Аб Упаўнаважаным па правах чалавека ў Расійскай Федэрацыі*”, упаўнаважаны пры правядзенні праверкі мае права:

1) без перашкод наведваць усе органы дзяржаўнай улады, органы мясцовага самакіравання, вайсковыя часткі, грамадскія аб’яднанні, прысутнічаць на пасяджэннях іх калегіяльных органаў і арганізацый незалежна ад арганізацыйна-прававых формаў і формаў уласнасці;

2) запытваць і атрымліваць ад дзяржаўных органаў, органаў мясцовага самакіравання, у адказных асоб і дзяржаўных служачых звесткі, дакументы і матэрыялы, неабходныя для разгляду скаргі;

3) атрымліваць тлумачэнні адказных асоб і дзяржаўных служачых,

за выключэннем суддзяў, па пытаннях, якія падлягаюць высвятленню ў ходзе разгляду скаргі;

4) праводзіць самастойна ці сумесна з кампетэнтнымі дзяржаўнымі органамі, адказнымі асобамі і дзяржаўнымі служачымі праверку дзейнасці дзяржаўных органаў, органаў мясцовага самакіравання і адказных асоб;

5) даручаць кампетэнтным дзяржаўным установам правядзенне экспертных даследаванняў і падтрыхтоўку заключэнняў па пытаннях, якія падлягаюць высвятленню ў ходзе разгляду скаргі;

6) знаёміцца з крымінальнымі, грамадзянскімі справамі і справамі аб адміністрацыйных правапарушэннях, пастановы (прыгаворы) па якіх уступілі ў законную сілу, а таксама са спыненымі ў вытворчасці справамі і матэрыяламі, по якіх адмоўлена ва ўзбуджэнні крымінальных спраў.

У адпаведнасці з арт. 13 Закона Рэспублікі Польшча *„Аб прадстаўніку па правах грамадзян"* прадстаўнік (упаўнаважаны) мае права: 1) даследаваць кожную справу на месцы; 2) патрабаваць тлумачэнняў, прадастаўлення матэрыялаў па кожнай справе, якой займаюцца вярхоўныя і цэнтральныя органы дзяржаўнай улады, органы грамадскіх, прафесійных і грамадска-прафесійных арганізацый, а таксама арганізацыі, якія з'яўляюцца юрыдычнымі асобамі, таксама як і органы мясцовага самакіравання; 3) патрабаваць прадастаўлення інфармацыі пра стан справы, што разглядаецца судамі, пракуратурай і іншымі праваахоўнымі органамі, а таксама патрабаваць доступу да судовых і пракурорскіх матэрыялаў справы, і іншых органаў расследавання; 4) даручаць складанне экспертыз і ацэнак.

Упаўнаважаныя маюць права накіроўваць свае прадстаўленні з рэкамендацыямі адносна магчымых мер па аднаўленні парушаных правоў і свабод грамадзяніна ў розныя органы і адказным асобам. Адрасаты зваротаў абавязаны праінфармаваць упаўнаважанага аб зробленых дзеяннях альбо сваёй пазіцыі. У тым выпадку, калі ва ўстаноўлены тэрмін дзяржаўным органам ці адказнай асобай не будзе прынята рашэнне, упаўнаважаны можа звярнуцца ў вышэйстаячы орган (да адказнай асобы) з патрабаваннем прыняць адпаведныя меры.

Расійскае заканадаўства замацоўвае наступныя формы рэагавання ўпаўнаважанага на скаргі грамадзян:

1) зварот у суд з заявай у абарону правоў і свабод, парушаных пастановамі ці дзеяннямі (бяздзейнасцю) дзяржаўнага органа, органа мясцовага самакіравання ці адказнай асобы, а таксама асабіста альбо праз свайго прадстаўніка ўдзельнічаць у працэсе ва ўстаноўленых законам формах;

2) зварот у кампетэнтныя дзяржаўныя органы з хадайніцтвам аб узбуджэнні дысцыплінарнай ці адміністрацыйнай вытворчасці альбо крымінальнай справы адносна адказнай асобы, у пастановах ці дзеяннях (бяздзейнасці) якой назіраюцца парушэнні правоў і свабод чалавека і грамадзяніна;

3) зварот у суд ці пракуратуру з хадайніцтвам аб праверцы ўступіўшага ў законную сілу рашэння, прыгавору суда, вызначэння ці пастановы суда альбо пастановы суддзі;

4) прадстаўленне сваіх аргументаў адказнай асобе, якая правамоцная ўносіць пратэсты, а таксама прысутнасць пры судовым разбіральніцтве справы ў парадку нагляду;

5) зварот у Канстытуцыйны суд са скаргай на парушэнне канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян законам, які ўжыты ці падлягае прымяненню ў канкрэтнай справе (арт. 29 Закона).

Важнай формай рэагавання на скаргі грамадзян і арганізацый з'яўляецца штогадовы даклад упаўнаважанага (амбудсмена) парламенту. У гэтым дакуменце ён аналізуе найбольш тыповыя парушэнні правоў чалавека за справаздачны перыяд, адзначае недахопы ў дзейнасці органаў кіравання, выказвае свае рэкамендацыі па ўдасканаленні заканадаўства і практыкі яго прымянення. Даклад упаўнаважанага (амбудсмена), як правіла, публікуецца.

У заканадаўстве кожнай краіны прадугледжваюцца дадатковыя паўнамоцтвы, якімі надзяляецца ўпаўнаважаны (амбудсмен). Так, у Швецыі ў выпадку выяўлення прыкмет злачынства амбудсмен можа выступіць у якасці абвінаваўцы. У Нарвегіі і Даніі амбудсмен можа звярнуцца ў кампетэнтныя органы з прапановай аб крымінальным праследзе. У Польшчы ўпаўнаважаны можа патрабаваць узбуджэння крымінальнай ці адміністрацыйнай вытворчасці, заяўляць позвы ў абарону грамадзян, прымаць удзел у любым судовым разбіральніцтве.

## Магчымасці з'яўлення інстытута ўпаўнаважанага па правах чалавека ў Рэспубліцы Беларусь

У Беларусі прадпрымалася некалькі спроб прыняць адпаведны закон. Так, на пачатку 90-х гадоў групай дэпутатаў і вучоных-юрыстаў быў падрыхтаваны законапраект аб утварэнні пасады парламенцкага ўпаўнаважанага. Аднак у Канстытуцыі 1994 года гэтая ідэя не была замацавана, а сам законапраект быў адкладзены не нявызначаны тэрмін.

У канцы 90-х гадоў быў распрацаваны варыянт закона аб упаўнаважаным па правах чалавека. Адпаведна яго палажэнням, прызначэнне на пасаду і вызваленне з пасады ўпаўнаважанага ажыццяўлялася кіраўніком дзяржавы. Законапраект быў накіраваны на экспертызу ў Венецыянскую камісію пры Савеце Еўропы, дзе яму далі негатыўную ацэнку. Пасля гэтага ён быў зняты з абмеркавання.

У 2014 г. па ініцыятыве вядомага дзяржаўнага дзеяча і навукоўца, загадчыка кафедры канстытуцыйнага права юрыдычнага факультэта БДУ прафесара Рыгора Аляксеевіча Васілевіча была падрыхтавана *Канцэпцыя Нацыянальнай установы па правах чалавека ў Беларусі*[5].

Дадзены дакумент (далей — *Канцэпцыя*) быў падзелены на чатыры часткі пад назвамі: „*Паўнамоцтвы і функцыі*”, „*Склад і гарантыі незалежнасці і плюралізму*”, „*Метады работы*”, „*Дадатковыя прынцыпы і іншыя пытанні*”.

У дадзенай паслядоўнасці разгледзім асноўныя палажэнні *Канцэпцыі*. Пры гэтым у якасці крытэрыяў ацэнкі будуць выступаць прынцыпы, якія датычаць статуса нацыянальных устаноў, што займаюцца абаронай правоў чалавека (*Принципы, касающиеся статуса национальных учреждений, занимающихся поощрением и защитой прав человека (Парижские принципы) // Резолюция Генеральной Ассамблеи ООН от 20 декабря 1993 г.*).

У раздзеле „*Паўнамоцтвы і функцыі*” вызначаюцца мэты і функцыі нацыянальнай установы па правах чалавека ў Беларусі, сферы рэалізацыі функцый, выбар аптымальнай формы, асноўныя паўнамоцтвы, патрабаванні да скаргаў грамадзян у адрас упаўнаважанага, акты рэагавання ўпаўнаважанага на факты парушэння правоў грамадзян, формы ўзаемадзеяння ўпаўнаважанага з іншымі інстытутамі ўлады.

На пачатку раздзела Р. А. Васілевіч вызначае мэты нацыянальнай установы па правах чалавека ў Беларусі. Да іх ён, у прыватнасці, адносіць: 1) абарону правоў і свабод чалавека і грамадзяніна; 2) забеспячэнне выконвання і павагі да правоў і свабод чалавека і грамадзяніна; 3) папярэджанне парушэння правоў і свабод чалавека і грамадзяніна і садзейнічанне іх аднаўленню; 4) садзейнічанне прывядзенню заканадаўства Рэспублікі Беларусь адносна правоў і свабод чалавека ў адпаведнасць з Канстытуцыяй, міжнароднымі стандартамі ў гэтай галіне; 5) удасканаленне і дальнейшае развіццё міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне абароны правоў і свабод чалавека і грамадзяніна; 6) папярэджанне

[5] Г. А. Василевич, *Концепция Национального учреждения по правам человека в Беларуси* // http://elib.bsu.by/handle/123456789/38595.

